# БАЛАДЫ І ПАЭМЫ

## ПЕСНІ ЖАЛОБЫ

Гады прамінаюць, праходзяць, як сон,
Знікае і радасць і смутак,
І новай вясною бярозавы сок
Залечвае раны, пакуты.

І новай зімой акрываюць снягі
Душу і палеткі аздобай.
Адно не пазбыцца маўклівай тугі,
Навеянай людзям жалобай.

Адно не пазбыцца надломаных дум,
Навеяных стратай вялікай.
Ён дужы, як волат,
магутны, як дуб,
Выходзіў да светлага клікаць.

А сёння не выйдзе
пакласці свой след,
Ні думак, ні слова не ўзвее:
У рамках жалобных ягоны партрэт
І здымак яго маўзалея.

Гляджу і не веру —
здаецца, жывы:
Сур'ёзнасць і сіла ў абліччы.

Здаецца, вось зараз кіўком галавы
Да працы ізноўку пакліча.

Але нерухомы у рамках партрэт —
Хістаецца чорная стужка...
«Усё гэта — мары, таварыш паэт!»
І думы ўзвіваюцца птушкай.

* * *

Мне сніцца наяве яго сілуэт,
Нязломная воля ў жаданнях.
На кожнай дарозе ён вызначыў след,
На кожнай сцяжынцы дазвання.

Усё, што настане, і ўсё, што было,
Агорнута ленінскай думай;
Вячыстаю мудрасцю свеціць чало,
І ясныя вочы ў задуме.

І мы прыпыняем на момант хаду,
Змаўкаем прад іменем «Ленін»,
Паклоны кладзём яго велічы дум,
Яго неўміручым тварэнням.

І пройдзе нямала і дзён і гадоў,
А вобраз не згіне ніколі,
Бо ён увасобіў на многа вякоў
І мудрасць народа, і волю.

* * *

Пралятаюць думы
Міма весялосці;
І не скажаш думам —
Турбаваці досыць.

Навяваюць думы
Сэрцу успаміны.
Пралятаюць думы
Весялосці міма.

. . . . . . . . . . . .

Былі маразы, і маўчалі палі,
Не гнуліся долу бярозы.

У белым убранні каліны былі,
Як нашы юнацкія крозы.

У снежных карунках застылі драты,
Слупы пры дарозе застылі.
І раптам... трывожна гудуць правады,
Слязьмі асыпаецца іней.

Бяроза над хатай схіснула галлём,
Заплакала ў снезе каліна.
Прамчалася вестка
наўсцяж над зямлёй:
— Вялікая страта ў краіне.

І людзі прыпалі да цьмянай зямлі —
Апошняе выслухаць слова;
І зноўку упарта да мэты пайшлі,
Ад болю нахмурыўшы бровы.

І ворагі плачу не ўчулі ані —
Гарэлі напорнасцю вочы:
Пакляўся наказам яго селянін,
Пакляўся наказам рабочы.

. . . . . . . . . . . . . . .

Праляцелі годы
У напружанай працы.
Выйдзі да усходу
Ростам любавацца.

Выйдзі да усходу
Раненька сягоння:
Праляцелі годы —
Ці збудаван помнік?!

* * *

Праходжу па вуліцах.
Скрозь — супакой.
А скора абудзіцца горад.
У змроку зімовым такою парой
Агні дагараюць, як зоры.

І веліччу дзіўнай здаюцца дамы...
Праходжу па Ленінскай далей —
Туды, дзе на снезе качаецца дым
І носяцца скогаты сталі.

З Траецкай дзіўлюся на новы узрост:
Паўсталі заводы, палацы...
Усё гэта ты, пралетарый, узнёс
Напружнай, нязменнаю працай.

І радасна неяк і нейк весялей,
Хоць сёння дзень смутны жалобы:
Наказ не забыты: яго маўзалей —
Краіну працоўных — аздобім.

* * *

Гады прамінаюць,
праходзяць, як сон,
Знікае і радасць і смутак,
І новай вясною бярозавы сок
Залечвае раны, пакуты.
І новай зімой адкрываюць снягі
Душу і палеткі аздобай.
Адно не пазбыцца маўклівай тугі,
Навеянай людзям жалобай.
Адно не пазбыцца надломаных дум,
Навеяных стратай вялікай.
Ён дужы,
як волат, нязломны,
як дуб,
Выходзіў да светлага клікаць.
А сёння не выйдзе пакласці свой след,
Ні думак, ні слова не ўзвее...
Ды помнім мы вечна яго запавет
І здзейсніць таксама умеем.
І вось калі здолеем гэта зрабіць
І словы яго ажыццёвім —
Загояцца раны маўклівай тугі
І скрухі не будзе ў аснове.
Таварыш мой любы, журбу адгані,
На працу вялікую — першым!
Заводы, палацы, электраагні —
То Леніну помнік найлепшы.

*1928 г.*

## У ДАРОГУ

### I

З усходу на захад —
азёры,
лясы,
Палеткі,
балоты, аблогі.
І ворагі топчуць
каралі красы,
Як людзі пясок на дарогах.
З палеткаў зрабілі
для гульбішчаў пляц
(Не чуюць
ні скарг,
ні дакораў),
І носіцца ціхі
надломаны плач,
І хвалі шумяць на азёрах.
Пракоцяцца хвалі
І слёзы збяруць,
Нясуць
аж у мора рыданні.
Заходняя частка,
мая Беларусь,
Ці здзейсніш калі парыванні?
Ці збудуцца мары,
жаданні людзей,
Твае,
дарагая,
таксама?
І чую ў адказ:
— Набліжаецца дзень,
Паўстанем,
адважна паўстанем!
Нядарам у пушчах
калышацца звон
Навостранай помстаю сталі:
На гранях мінулых
і будучых дзён
Паўстанем змагацца,
паўстанем!

Навала узрушыць
блакітную гладзь,
Прамчыцца са скогатам каня,
І стане той скогат —
адчаянны плач —
Апошнім народным рыданнем.
Ніякая сіла
не спыніць размах,—
Агні разгарацца,
засвецяць,
І стане пад сцягам
краіна мая
Адной Беларуссю Савецкай.
Не ўчуеш
ні скаргі,
ні плачу тады,
Крыламі атуліць вясёласць.
А зараз —
трывожна шумяць
гарады,
Гамоняць узрушана сёлы.
Праз гэту
трывожнасць,
надзею,
адчай
Я чую над краем рыданні:
Выходзіць сын долю
ці смерць сустрачаць,
І маці чытае літанні.
А месяц пахмуры
ў далёкай цішы
Праходзіць памалу над лесам,
З халодным спакоем
халоднай душы
Глядзіць на «усходнія крэсы».

II

Старэнькія хаты,
гнілыя хлявы
Пасталі абапал дарогі.
На вуліцах
дробны пясочак і жвір —
Убор небагаты і строгі.

Галоўная вуліца роўна ідзе —
Парадак парушыць баіцца.
У цэнтры пышліва раскінулі цень
Не гмахі,
    а ўсё ж камяніцы.

Яны,
    як вянком,
        абкружылі бульвар,
Празваны Вялікаю плошчай;
А поруч з дамамі —
    старая царква
І крамы навокала з дошчак.

Над вуліцай звесілі голле дубы,
Купчастыя клёны і вязы,
А елкі да неба паднялі чубы...
Мястэчка завуць гэта Вязынь.

За некалькі крокаў ад места ў аддаль
Віецца істужкаю рэчка;
Свіціцца вада,
    як зялёны паркаль;
На беразе —
        лозы,
            парэчкі.

Пад ценем свайго
    лапушнога галля
Каліны сцюдзёнасць схавалі.
Разносяць па свеце назову «Вілля»
Рачныя
    шумлівыя хвалі.

Жыве разнастайны ў мястэчку народ:
Рамеснікі,
        цеслі,
            сяляне;
Ёсць тут і не просты,
    а «выбраны» род —
Суддзя,
        паліцэйскія,
            пані.

Да гэтага
        старасту трэба дадаць,
Начальніка Вязынскай гміны,
Ён — самая важная тут галава
На шыі спрацаванай, сіняй.

Сялян так
        не злічыш на пальцах усіх —
Іх тысячы тут занядбаных:
Старэнькія хаты
        ў завулках крывых —
Не месца для «яснага пана».

Вунь вецер на стрэхах салому разнёс,
Збіраюць па каліву ў жменю.
Дзе дуб малады вершаліну узнёс —
Жыве селянін Асташэня.

III

На ўсю акалічнасць вядомы Рыгор,
Блукаў ён па свеце багата,
Разбураны ўшчэнт Асташэневых двор,
Каламі падпёртая хата.

Палоска зямелькі —
        два крокі ўшыркі,
Сажон каля тысячы лугу.
У Вязыне ўсе так жывуць бедиякі,
Святым,
        як гаворыцца,
                духам.

А горай за ўсіх —
        Асташэня Рыгор:
Няма ад сям'і дапамогі,—
Ад рання да ночы,
        ад сонца да зор
Спачынку не ведаюць ногі.

І толькі на сына надзея адна:
«Вучыў нездарма,
        дапаможа...»
І маці старая ў малітвах штодня
Аб сынавай долі варожыць.

Яна на працягу
шматлікіх начэй
Выходзіць за вёску паволі
І, слёзы раняючы
з хворых вачэй,
Сыноў сваіх кліча у полі:

— Сыночкі-саколы,
лятаеце дзе? —
І вецер нясе ёй адказы:
«Загінуў старэйшы даўно ў барацьбе,
Даўно,
што не помніць і Вязынь.

Другога...
Забілі
нядаўна зусім,
Шчэ крыж не дагніў на магіле;
Ніхто,
толькі я
над труной галасіў...
Адважна паўстанцам загінуў.

А трэці,
пранізаны куляй наскрозь,
Дагас у турме на Лукішках.
Я гэтаму такжа
узвеяў на скронь
Пяску жвіраватага крышку.

Чацвёрты і пяты —
жывыя сыны...
Іх лепшая доля чакае:
Хоць можа і згінуць —
запаляць агні
Над гэтым зняволеным краем».

І маці вачыма
шукае маяк,
Што будзе праменіць над полем.
Матуля,
адвечная скруха твая
Загіне калі
ці ніколі?

IV

Восень.
Ноч.
Завываюць вятры.
Пагасіла агні свае Вязынь.
Аканіцамі вецер
трывожна рыпіць.
«Нехта стукнуў,
здаецца,
два разы».

Устрывожана маці
бяжыць да дзвярэй...
Цішыня...
Толькі вецер скуголіць.
«Дзе ж
Уладзік?
Сыночак мой дзе?
На дварэ гэтак цёмна сягоння».

І маркотна,
і дымна
лучына гарыць,
Шалясцяць палахлівыя цені,
На палатках не спіць
Асташэня стары,
Аглядае задумліва сцены.

Мары ткуць залаты
і дзівосны дасэнь,
Развіваючы пасмы з навою:
«Новы дом,
а над ім
каміны на страсе
Дуб зялёнай накрыў галавою».

Маці возьме
паправіць
самотны агонь,
Зложыць рукі ізноў на каленях
І нахіліцца нізка,
заплача чагось
І застыне ізноў задуменна.

Думы такжа снуюцца,
складаюць дасэнь,
Толькі іншыя фарбы узораў:
Паўстае маладосць
у атрутнай красе,
Паўстае невыказнае гора.

І сціскаецца болем надрыўным душа,
Узрастае за сына трывога...
А на ганку знаёмая чутна хада,
Маці бегма бяжыць да парога.

— Ты?..
Уладзік?
Сыночак!..
Прыйшоў...—
І павісла на шыі у сына.
— Есці даць?
Ды не ведаю што —
Толькі хлеб на вячэру з мякінай.

Сын ласкава цалуе
маршчыністы лоб
І садзіцца ў знямозе на лаву.
Уздыхае стары:
— Эх!
Усё адышло,
Не паможа ніхто,
не паправіць!

— Слухай, тата,
пакінь бедаваць,
Не папраўлю табе я намнога.
Трэба волю здабыць —
і тады будаваць...
Заўтра я
адыходжу ў дарогу...

V

— Эх,
сынок мой,
сынок!
Гадаваў я цябе,

Ускладаў гэтак многа надзеі!
І стараўся вучыць...
А цяпер...
Што цяпер?
Паміраюць і гаснуць надзеі.
Хіба згінула мала
такіх вось,
як ты,
А ці далі якую палёгку?
Вось і ты,
дарагі,
прападзеш маладым,
А бацькам гэта —
цяжка,
нялёгка...
Навучыўся —
і добра,
пасаду бяры,

Можа й нам дапаможаш капейкай:
Хата ледзьве ліпіць,
хлеў таксама стары,
А ты ўбіўся ў гэту ячэйку!..

— Слухай, родны,
вінуй,
калі я вінават,
Ці ж не бачу,
жывём як багата?
Калі будзе няволя
у нас панаваць,
Дык разваліцца й гэтая хата.

Ты сягоння карову,
каня нажывеш,
Заўтра ўсё прададуць за падаткі.
Любы,
родны мой,
сыну павер —
Не бывае канца без пачатку.

Не на смерць жа іду я,
а толькі на сход —
Падлічыць нашы сілы і страты.

Дык чаго сумавацъ,
дык журыцца чаго?
Неўзабаве вярнуся дахаты.

Бацька голаў пакорна схіліў
і заціх,
Маці нішкам слязу выцірала,
Брат маленькі Алесь
паглядаў на усіх,
Урачыстасць цішы панавала.

— Ну,
бывайце здаровы,
пара мне,
пайду...—
Маці сына за шыю ўхапіла...
Бразгатаў у акно
сваім голлейкам дуб,
Маладыя прабуючы сілы.

Хлопец торбачку ўзяў
і ступіў за парог,
Маці крыж тры разы палажыла,
Прашаптала ўздагон:
— Будзь, сыночак, здароў! —
І прыпала вачыма да шыбы...
Сын ідзе па двары,
вось ён выйшаў з двара,
Бацька ўжо зачыняе вароты.
Маці доўга глядзіць,
заклапочаны твар
Агартае
і сум
і самота.

*1928 г.*

## КРЫВАВАЯ НЯДЗЕЛЯ

Над Нявой халады, як заўсёды,
над Нявой туманы хараства.
Аблілася панэль галалёдам,
і вятры пачалі бунтаваць.

Але яркне марозамі студзень,
заціхаюць над садам вятры
і, праспектаў цалуючы грудзі,
дагараюць лісцём на кастры.

Цішыня,
          супакой
                    і цвятлівасць —
белы іней апаў на бульвар.

. . . . . . . . . . . . .

І не думаў ніхто палахліва,
што пачнуць не вятры бунтаваць.

* * *

Над ускраінай скрозь
     устрывожаны змрок,
цемнату
          падпільноўваюць вочы.
Соты раз бразгаціць
     заржавелы замок —
за рабочым
     праходзіць рабочы.
Сутарэнне — як склеп.
     І шумяць галасы:
— Дачакаліся,
     хлопцы,
          суботы,
дык давай меркаваць...
     — Я казаў бы, зусім
па нядзелі
     не йсці на работу.—
І на міг — цішыня.
     Потым голас ізноў:

— Гэтак з голаду
можна памерці...
— Што ж рабіць?
— Што чыніць?
— У нас выйсце адно:
не баяцца
ні кары,
ні смерці! —
Разышліся ўначы.
Хоць у думках сваіх
быў не кожны
тады пераконан,
але кожны ў душы
веру ў долю стаіў,
каб пасля
пасмяяцца над конам.

* * *

Горад спіць.
Над Нявой
не трывожацца тонкія цені.
Сапраўды цішыня —
узнімаць непакой для чаго?
Паслязаўтра ізноў
загавораць машыны і сцены,
і рабочыя зноў
На Пуцілаўскі прыйдуць завод.
Але дзень не прыйшоў,
а надзея чыясьці пагасла,
а другая надзея
тады красавала пышней.
Ад слупоў,
камяніц
ценявыя пасlаліся пасмы;
як пялёсткі,
гарэў
ацярушаны досвіткам
снег.
З пецярбургскіх ускраін,
далёкіх
і сініх у змроку,
падплываюць павольна
бліжэй

і бліжэй
галасы.
Пракаціўся над горадам звон,
страпянуўся высока,
і,
як рэха яго,
адгукнуліся скрозь галасы.

Гэта намшу званы
зазванілі ў капліцах і цэрквах;
замірае на міг
устрывожаны раніцай
шум.
На ускраінах ціш,
а трывога
            павісла
                        над цэнтрам:
стала ясна,
як дзень,
што ішлі
            не паслухаць імшу.
У старожкай
і чулай напружнасці
сэрцы застылі.
Ўсе чакалі чагось,
абрываліся ўсе галасы.
І вось раптам
сярод
мармурова-царкоўнае стыні,
як загад:
— Да цара!..
— Будзем плакаць...
— І долі прасіць...
Быццам вецер узняў —
над галовамі сотні пратэстаў.
Грозна натаўп шуміць,
як заглушаны бураю звон:
— Дайце хлеба людзям!..
Надрываюцца
крыкі,
пратэсты,
а наперадзе моліцца,
рукі узняўшы,
Гапон.

Не прайсці праз людзей,—
іх на вуліцы сёння
мільёны,
абадраных,
галодных,
а вочы
вар'яцтвам гарадь.
Расцягнуліся вуліцай
шумна-нястройнай калонай,
заспявалі
і рушылі з просьбай усе
да цара.

Вось мінулі ўжо сад,
узыходзяць на мост над Нявою.
Перад зрокам паўстаў
у вялікасці
царскі палац.
Там на браме арол,
з дубальтовай крывой галавою,
пільна сочыць за тым,
хто адходзіць,
прыходзіць
на пляц...

Цішыня навакол
яшчэ больш ацяжэла на момант.
Нехта войску падаў
у цішы гэтай
строгі загад.
Быццам чорная хмара
застыла,
ударыла громам —
сыпануліся кулі,
шарэнгу заняўшы падрад.

Пахіснуўся натоўп.
Нехта паў на калені,
хтось навекі упаў.
Праляцеў
казакаў эскадрон.
Скалыхнулася роспач:
— Дзе ж праўда людская,
сумленне?..

І пабеглі усе,
а наперадзе з крыжам Гапон.

Уздагон,
быццам віхар шалёны,
імчаліся кулі.
— Гэта «ласка» цара!
— Стойце!..
— Людзі!..
Наземіўся крык.
Сотні лепшых змаганцаў
на месцы
навекі заснулі,
стала пуста тады,
і валяўся паломаны крыж.

* * *

Ноч прыйшла —
        галасілі вятры,
ноч прыйшла —
        супакой загубіўшы,
і ў роспачы чорнай
        абломаных крыл
дзікі лямант
        на вуліцах віўся.

Падаў снег —
        застываў Пецярбург,
і здавалася —
        гэта навекі.
Прасціраючы пальцы
        скалечаных рук,
паміралі
        на снезе калекі.

Прыйдзе дзень —
        будуць дзеці чакаць,
прыйдзе дзень —
        і адчуюць утрату.
Ноч не змоўкла.
        Цяжкая рука
узнялася
        над лёсам заклятым.

— Гэта — помста
за «ласку» цара...
— Чуеш звон? —
разрываецца, здэцца...
А крывавыя плямы
на снезе гарадь,
як людскія
вялізныя сэрцы.

* * *

Гэты дзень адышоў за гадамі,
не прайшлі успаміны адны:
вокамгненна яны нагадаюць
пра мінулыя
чорныя дні.

І паўстануць тады
перад зрокам
дні пакут і навалаў былых,
і здаецца ўсё вельмі далёкім,
як прасторы не нашай зямлі.

Дзень крывавай
і чорнай нядзелі
паўстае, як маўклівая здань.
Адыходзяць гады і падзеі,
а за імі і з імі — бяда.

*1929 г.*

# ДВАНАЦЦАТЫ З'ЕЗД КПБ

**Вершаваная хроніка**

У яркасці белай і снежнай
Зарніца гаворыць з зарой.
У думках такая разбежнасць,
Што вызначыць цяжка настрой.

Ні сум і ні радасць, прынамсі;
Ні прозу, ні вершы пісаць...
Настрой пад увагу прыняўшы,
Пакінуў я песенны сад.

І хронікай важнай заняўся
(Прабачыць няхай рэпарцёр);
Нядарам я некалі кляўся
Уславіць у песнях жыццё.

Ды песні мяняюць свой нораў,
Мянюць дарогу і след;
Няхай праспявае іх жораў,
Пакуль не з'явіўся паэт.

Жыццё паспрабую уславіць,
Адкінуўшы песенны шум:
Вялікую хроніку слаўна
У вершах сваіх напішу.

1

Харошая зіма. Марозная зіма.
Такой не ведалі і нашы продкі.
А вуліцы шумяць,
                    на вуліцах размах
Наколькі выстарчае сродкаў.

Каля ЦК аўто... аж пяць аўто!
У Мінску гэта трохі дзіўна...
І вось пытаюцца цікавыя —
                                        нашто? —
Індывідуальна і калектыўна.

Уцямім сэнс сягоняшніх падзей
У заўтрашніх радках газеты свежай.
Мінае дзень, згасае дзень,
І надыходзіць зорны вечар.

2

Ціха зараз у цэхах.
На вуліцах — гоман.
Белы вечар і снег,
Электрычнасці бляск.
Хутка восем гадзін.
Да партыйнага дома
Людзі мераюць
Мернымі крокамі шлях.

Ад Мазырскіх балот,
І ад Слуцкай раўніны,
І ад Мінскіх узгоркаў,
Бабруйскіх нізін,
З найдалейшых і блізкіх
Ускраін краіны,
Ад працоўнага люду
Усе, як адзін...

З думкай яснай і смелай —
Жыццё перайначыць —
На вялікі і слаўны
Сабраліся з'езд.
Прывітанне маё
З пажаданнем у працы
Дасягнуць перамог,
Нечуваных нідзе!

3

Званок прыпыніў на хвіліну размовы.
Успыхнулі дружныя ў зале агні.
Таварыш Гамарнік кароткай прамовай
Дванаццаты з'езд КПБ адчыніў.

. . . . . . . . . . . . . . .

Год мінуў. Падлічым дасягненні,
Нашы цяжкасці і веліч перамог.

У падмурак моцнае каменне
Дружна клаў рабочы клас як мог.

Збудавалі фабрыкі, заводы,
Засвяціла электрычнасць скрозь.
На шляху былі ї перашкоды,
Што імкнуліся спыніць узрост.

А памылак мы хіба не сустракалі?
Іх рабілі нават сумысля.
Я да працы пільнай заклікаю,
Жджэ яе Савецкая зямля.

Супраць вывіхаў, ухілаў і зацішкаў,
За адзіны, ленінскі партыйны шлях.
Не гуляць з палітыкай у цот і лїшку,
А сумленна несці прамяністы сцяг.

На завод, на поле трэба рушыць,
Там ідзе цяпер апошні бой
За жыццё працоўнай Беларусі,
Бой з адвечнай цемрай і бядой.

4

Пакуль у залу нам зайсці,
Дзе пойдуць спрэчкі па дакладзе,
Дазвольце вам апавясціць
Вітанні партыі і ўладзе.

Прывітанне ад рабочых

Сябры-таварышы, якое шчасце
Вітаць са з'ездам КПБ!
У працы гарт наш не пагасне,
Як не пагас у барацьбе.

Мы верым партыі нязменна,
Рупліва будзем працаваць;
Не мы — дык наша пакаленне
Камуну зможа збудаваць.

Расце упартасць ї свядомасць,
І ў сэрцах творчыя агні,

І перашкоды мы ўсе зломім,
Іх пераможа ленінізм.

Прывітанне ад сялян

З далёкае вёскі, з сялянскіх палёў
Прыйшлі мы вітаць вас са з'ездам.
Яшчэ ў нас часамі на межах быльнёг
Красуе купчастым агрэстам.

Ды толькі не страшыць такая бяда:
Мы знаем ад гэтага сродкі
І зможам як трэба ўраджаі падняць —
На сорак і болей адсоткаў.

Адна толькі просьба: не дрэмле кулак,—
Сачыце за ворагам пільна,
Тады яго гуртам мы зможам сяк-так...
Няхай жа красуе краіна!

Прывітанне ад інжынераў

Вітанне шле вам Асінбуд!
Размах работ у нас вялізны:
У хуткім часе прабягуць
Па дроце іскры камунізма.

І ў кожнай хаце, дзе свяча,
Дзе тлее комінак сялянскі,
Засвеціць лямпа Ільіча,
Раскінуўшы навокал бляскі.

Агні далёка пабягуць,
Над светам будуць разлівацца.
Вітанне шле вам Асінбуд,
Жадае поспехаў у працы!

. . . . . . . . . . . .

Закончылі госці прамовы,
Дарэчы і нам адпачыць.
На вуліцы вечар бялёвы
Пачаў ужо зоры тушыць.

5

Ранымі-рана штодзень ажывае пад'езд,
Дзе дымяцца таполі, як свечкі.
Там працягвае працу дванаццаты з'езд,—
Запытанні, дыскусіі, спрэчкі...

А хвіліны лятуць, а дзянёчкі бягуць,
Нават лёту таго не заўважыць,
Ды кладуцца яны на такую вагу,
Дзе і хібы і поспех узважаць.

6

У сцягах чырвоных эстрада
І Леніна светлы партрэт.
Гарыць прамяністая радасць,
Вялікая радасць, паэт.

Яе не парушыць асновы,
Як нельга зямлю павярнуць.
Сягоння заключнае слова
Прыйшлі дэлегаты пачуць.

З а к л ю ч н а е  с л о в а

Праца нядрэнная, добрая праца,
Слаўная праца за год.
Смела наперад, не трэба баяцца
Цяжкасцей і перашкод.

Шлях наш вядомы —
ён роўны і просты,
Ён да камуны вядзе.
Будзе адзіны наказ вам на ростань:
Смела хай кожны ідзе.

Там, дзе заводы, і там, дзе палеткі,
Зерне пасейце, сябры,
Хай закрасуюць калоссе і кветкі,
Радасць людская гарыць.

Роднай краіне, сягоння забранай
Ворагам лютым і злым,
Шлём прывітанне сваё тэлеграмай,
Шлём ад Савецкай зямлі.

Хай паўстаюць,
                    у змаганні адважным
Прыйдзе, народзіцца дзень —
Крыўду падлічым, няволю паважым,
Радасць на поле ўпадзе.

І, аб'яднаўшыся, выйдзе, сустрэне
Шчасце камуны сусвет...
Сейце, таварышы, буйнае зерне,
Хай закалосіцца цвет!

7

Цягнік імчыць, мінае пераезды,
    Мінае вёскі і лясы.
Стаяць у вокнах дэлегаты з'езда,
    Не зводзячы вачэй з красы.

А думы ткуць другія ім узоры —
    І вырастаюць спакваля
Перад вачамі іншыя прасторы,
    Дзе мёртвая ляжыць зямля.

Цягнік імчыць. А з ім наперагонкі
    Дэпешу сэрцы іх нясуць:
— Паўстань, народ зняволенай старонкі,
    Выходзь спаткаць вясну!

*1929 г.*

## ТРЫВОЖНЫ СІГНАЛ

### Замест лірычнай прадмовы

Заместа лірычнай прадмовы,
Спавітай у ясны паяс,
Я выкажу простыя словы
Пра смутак у песнях у нас.

Размах будаўніцтва нязвыклы,
Напружная праца штодзень...
І трэба —
            упарта і сціпла
Прымаць найвялікшы удзел!

І трэба —
            аддана і смела
Тварыць рэвалюцый пасаг,
Каб сонца на ветразях белых
Данесці ў цвятлівісты сад.

А ты, мой
Нялюбы паэта,
Маўклівы ідзеш на папас;
Каханне дарэшты запета,
Зняслаўлена жальба і гас.

Ты прозай штодзённаю клічаш
Свае абавязкі,
І сум
Адценнем сухім на абліччы
Ад воч засланяе красу.

Туман прычыняе павекі,
Утомай збіваючы з ног.
Ты прагнеш рамантыкі нейкай,
Навеянай вёсламі сноў.

А ў кожнай пульсацыі сэрца,
У кожным размаху рукі —
Ты бачыў, паэт,
Як імкнецца
Жыццё разламаць берагі?!

Ты бачыў задумныя вочы,
Калі нечаканая гаць
Хаду прыпыняе рабочых,—
Ці выйшаў ты ім памагаць?!

Ты, дзесьці складаючы вершы
Пра радасць натруджаных рук,
Ні кроплі у радасць не верыш,
Не верыш у нашу зару.

І ведаеш,
Колькі жалобы
Радкі затаілі твае!
Ты песні і маршы угробіў
Пад холадам снежных завей.

А ў час,
Калі чорная скруха
Стаіць ля тваіх ля акон,—
Ты, ломячы белыя рукі,
Шукаеш рамантыкі дзён.

Спяваеш тады пра каханне
І цемру асенніх начэй,
І песні ў старым чамадане
Хаваеш ад нашых вачэй.

Тваё распраданае сэрца
Рамантыкай той не гарыць,
Як мускул ад працы ірвецца —
Імкнецца Камуну стварыць.

Не знае рамантыкі й іншай,
Калі забіваў брата брат,
Каб сонца з далёкіх узвышшаў
Данесці ў цвятлівісты сад.

Няшчасны!
Якая жалоба
У радасці прозы твае!

. . . . . . . . . . . . . .

Зямны паварочваю глобус —
Жыццё маладое ўстае.

І будуць у смутку наяўна
Рамантыкі нашае сны:
Было,
        як гавораць,
                        нядаўна —
У час грамадзянскай вайны.

## Лясы шумелі на трывогу

Лясы шумелі на трывогу,
І голас іх надрыўны быў.
У цёмнай засціле дарога
Штафіравала чорны пыл.

Ішлі на ўсход калоны войска,
Забраўшы радасці надзей:
Чуць золак —
Вораг прыйдзе ў вёску,
Бяду краіне прывядзе.

І нехта ў полі клікаў сына:
— Вярніся, сынку!..
Хто ж цяпер
Хаціны нашае краіны,
Хто ж абароніць без цябе?!

Але прайшло
І знікла войска,
І стала ціха навакол.
Ад сонца вузкая палоска,
Як стужка, ўпала над ракой.

Рака схіснулася ў даліне,
Зашалясцеў сухі аір.
Жалезны мост,
Як павуціна,
Павіс на ліштвах цераз вір.

Па мастаўі,
Як рысы-жылы,
Чыгунных рэек паясы
Пабеглі параю няўхільнай
Аж за азёры,
За лясы.

Лясы шумелі на трывогу:
— Куды ты, грозная ЧК?
Не едзь утоптанай дарогай —
На долю будзеш наракаць.

Тваіх галоў чакае вораг,
Падмогі марна ты не шлі:
Палкі чырвоныя за горы
Яшчэ уранку адышлі.

**І ў ЧК пачалася нарада**

Пазалотаю тонкай вакзал
Убірала
вячорнае сонца.
Цягнікі адышлі
і назад
Праз гадзіну вярнуліся зноўку.

Параходы прайшлі па Дзвіне
І прынеслі трывожныя чуткі:
За вярсту ад вакзала ці дзве
Аўладалі бандыты чыгункай.

Аўладалі мастом,
ля ракі
Перарэзалі ўсе пераходы:
На вакзале стаяць цягнікі,
На прыстанку стаяць параходы.

Нерваваліся людзі ў ЧК,
Гаварылі —
пакінуць трэ ветку.
Камісар загадаў пачакаць,
Покуль вернецца наша разведка.

Вартавалі дарог палатно
Ахінёныя зморай атрады.
Летні вечар прыйшоў пад акно,
І ў ЧК пачалася нарада.

Ценявой павалокаю сад
Шалясцеў над пустыняй палеткаў.
Задуменны сядзеў камісар,
Слухаў рапарт уважна разведкі.

Мігацелі у зацьме агні.
Рзалі коні трывожна і глуха.
Камісар данясенне спыніў,
Загадаў прапанову паслухаць.

— Мае таварышы!
Ніколі
Не ведаў страху наш атрад:
З любой засады —
вымчаць коні,
А ці наперад,
ці назад.

Не ў гэтым рэч.
За нашым войскам
Цягнік нядаўна вёз прыпас.
Пакуль апал насілі з вёскі —
Ён запыніўся тут на час.

І раптам банда захапіла
Чыгунку скрозь каля ракі,
Два параходы затапіла,
Назад вярнула цягнікі.

Няма калі нам траціць часу:
За намі вораг наш ідзе,
І трэба вывезці прыпасы
Ці па зямлі, ці па вадзе.

Вы,
камандзіры эскадронаў,
Як толькі сцішыцца агонь,—
Пагрузіце
прыпас
і коні
І самі сядзеце ў вагон.

А зараз клічце машыніста,
Няхай ён будзе лепш пры мне.
Калі зрыхтуеце ўсё чыста —
Прашу паведаміць мяне.

Адказ кароткі:
— Ёсць!

— Ідзіце! —
Махаў вялізманым пяром,
Качаўся,
              слаўся
                        лёгкі вецер,
Каб чыста вымесці перон.

## У дарогу

Калі сонца за мора пайшло,—
Вечар зоры сабраў на мітынг,
Месяц жоўты стаяў над сялом,
Быццам з золата тонкага літы.

Вартаваў ён людскі супакой,
Толькі дзе там яго увартуеш:
Гаманіў кулямёт за ракой,
Ахінёны туманнаю туляй.

І трывога павольна расла,
Як раслі чалавечыя цені,—
Гэта сум на палетках паслаў
Палахлівых вачэй шалясценне.

Бо спакойна мігалі агні,
Нагружалі вагоны чэкісты,
Уздыхаў на пероне цягнік,
Залатыя губляючы іскры.

А калі,
          насупроць ціхіх дум,
Падалася каманда:
          «Гатова!»,
Так,
        як коні храпуць на бяду,
Разбіваюць
          цяжкія падковы,—

Заірзаў,
          пашчапаў супакой,
Аж звяры у лясах пашалелі,
І пайшоў ён павольнай ступой,
Выгінаючы гнуткае цела.

А пасля —
        ўсё хутчэй
                і хутчэй
Аж звінелі вагонныя шыбы,
Быццам чуў,
        што вось гэтых людзей
Ён апошніх вязе на пагібель.

**У стане ворага**

Адчараваўся месяц ясны,
На змену выйшла мілавіца;
Упалі кос ружовых пасмы,
Як згібы тонкай бліскавіцы.

Яна звязала косы бантам
І стала, зорная, над лесам:
Дзівілася на тую банду,
Што ў Беларусь прыйшла з Адэсы.

На мосце моцна спала варта,
А коні тупалі па полі;
Каля агню гулялі ў карты
На лёс,
        на шчасце і на долю.

Якая смешная наіўнасць
Не знаць,
        што долю сваю самі
Яны расстрэлілі нявіннай
Сваімі лютымі рукамі!

І дзень наступнага,
        бясспрэчна,
Рыхтуе смерці падарунак:
Схіснуўся важка мост над рэчкай
І зазвінелі рэйкі-струны.

— Трывога! —
        выпрастаўся голас,
Заекатаў далёка ў лесе:
— Калі не свой —
        паўсотні голаў
На соснах шыбельных павесіць.

Вы чуеце —
падземны рокат,
Бяда бяду
нясе атраду:
Цягнік ідзе,
і недалёка,
Якую льга прыдумаць раду?

Раскідаць рэек мы не ўхопім —
Сігнал трывожны запаліце,
Заляжце поблізу ў акопы —
Цягнік павінен супыніцца.

І вось
у змроку прадсвітальным
На стромкім насыпу-адхоне,
Як водбліск месяца аддальны,
Замігацеў агонь чырвоны.

**Трывожны сігнал**

Быццам віхар з вятрамі,
імчыцца цягнік,
Толькі рэйкі звіняць,
толькі рэйкі гудуць:
Праязджае шпарчэй
і шпарчэй машыніст
За вярстою —
вярсту,
За вярстою —
вярсту...

Адшумелі лясы,
прамінулі палі...
«Як жа мост прамінуць,
пераехаць раку?»
І трывога расце —
гэта скруха зямлі,
І ЧК —
начыку,
І ЧК —
начыку.

— Хто там смелы такі,
каб цягнік тарнаваць?!

Не спыняй цягніка,
не спыняй, машыніст,
Бо за здраду
з плячэй паляціць галава! —
А цягнік — навальней,
прыпыніўся цягнік.

І, як шэлест лясны,
Пракаціўся прытоены рокат:
— Гэта ён...
— Гэта ён нас прывёз на пагібель!
— Перарэзаны шлях...
— Семафорам закрыта дарога...—
Хтосьці плакаў,
і слёзы звінелі па шыбах.

І расла навальніца
нянавісці дзікай і злосці.
Нехта крыкнуў тады:
— Расстраляць камісара...—
І з вагона ў вагон,
як дэпеша па радыё РОСТа,
Абляцела чэкістаў усіх
тэлеграма.

Знерваванай хадою
прыйшоў камісар,
Быццам сэрца пачула
трывожныя весткі;
Ён халодным дакорам
шкляных акуляр
Паглядзеў на сцяне
на кавалкі абвесткі.

А пасля —
глянуў ветла
на чорных людзей,
Загадаў праз хвіліну
знайсці машыніста.
І пятнаццаць чэкістаў —
Пайшло да дзвярэй,
А паўсотні —
маўчала чэкістаў.

— Што ж, сябры!
Расстраляйце мяне,
Знаю вашы намеры ліхія...
З нас ніводнага смерць не міне —
Дыванам сваім белым накрые.

Перарэзала банда наш шлях —
Семафор у трывожным сігнале.
Покуль змрокам спавіта зямля,
Нас не будзе трывожыць навала.

А калі загарыцца зара,
Калі сонца на пасеку выйдзе —
Прыйдзе вораг жыццё забіраць,
Насміхацца над намі ён прыйдзе.

Адабраўшы усё:
                    і душу,
І надзею на шчасце краіны,—
Павядзе пад насмешлівы шум
І павесіць на першай асіне.

Выйдзе маці катарага зваць,
Анямеюць ад крыку палеткі.
Будзе доўга з надзеяй чакаць
Суцяшальнай і радаснай весткі.

А калі вецер весткі прымчыць,
Яны сэрца матуліна вымуць,—
Пойдзе зноў жабраваць,
Клянучы,
Што сыны аддаліся жывымі.

Што ж, сябры,
Расстраляйце мяне,
Толькі ворагу я не аддамся:
Усё роўна нас смерць не міне —
Без яго лепей згінуць, прынамсі...

Ані слова адказу
      не чуў камісар —
Затаілі глыбока
      трывогу чэкісты,

Толькі нехта нясмела
у цішы адказаў,
Што яны не знайшлі
анідзе машыніста.

Спахмурнела тады
ў камісара чало:
«Без яго можа будзе...
загінуць лягчэй...»
І паўсотні бялявых
і русых галоў

Закрычала маўклівым
шаленствам вачэй.
Бліскавіцай прабегла
халодная дрож,
Камісар затаіў
гэты боль галавы,
Павярнуўся і выйшаў:
— А ну, паравоз! —
І пагладзіў ласкава
рукой паравік.

Уздыхнуў,
застагнаў
і няроўнай ступой
Зварухнуўся цягнік
і павольна пайшоў.
Узрастала трывога
і рос неспакой,
Нечы сутаржны твар
скамянеў і пажоўк.

Бо здавалася —
зараз, як толькі на мост,
Зварухнецца зямля,
як пад бураю сад,
Сіметрычнасць сусвету
ахопіць хаос
І загіне навекі
жыццё і краса.

А цягнік ўсё ішоў...
І трывожны сігнал,

І масты,
 і засады
 мінуў ён даўно.
За вярстою
 вярсту
Камісар яго гнаў,
Не шкадуючы цвёрдых,
 жалезістых ног.

**На новыя прасторы**

Мінула ноч, і сонца ўстала,
На ясны выйшла небакрай,
Пялёсткаў скрозь нарассыпала —
Няхай пад ветрамі гарацъ.

А ветры лёгкія здалёку
Насустрач беглі цягніку,
Віталі ветлы яго лёскат
І пошчак неслі за раку.

Яны разносілі трывогу
І скруху сэрцаў маладых,
Віталі нашу перамогу,
У песнях славілі уздым.

Цягнік імчаўся
 далей,
 далей —
Бліжэй да сонечнай красы,
І рассцілаліся па шпалах
Чыгунных рэек паясы.

Яны вялі да новых боек,
Да новых также перамог,
Каб сілы нашыя удвоіць,
Каб пралетарый перамог.

Вялі на новыя прасторы,
Каб такжа іх адваяваць
І запаліць над імі зоры
Камуны светлай харáства.

## Замест эпілога

Пайшлі ў далёкае выгнанне,
Як на вадзе ідуць кругі,
І дні вялікага змагання,
І ночы цёмныя тугі.

На небе расцвітае яснасць,
Як пацалунак маладой.
Мае сябры,
Якое шчасце
Прайсці жывому над вадой!

Мінуць трывожныя сігналы,
Павахтаваныя масты,
Дзе ў старасвецкіх прычындалах
Стаяць варожыя пасты.

У шатах новага пакрою,
Прыкрыўшы рыцарскі саян,
Пяром вялізманым узброен
Галоўны іхні атаман.

А навакол яго —
штукмайстры,
Як слугі верныя яго,
Вянкамі руж і белых астраў
Прыгожаць меднае чало.

Як дзень, так ноч —
нямыя суткі
(Нямала часу так прайшло),
Адценні радасці і смутку
І не кранаюць медны лоб.

Рукой халоднай
безупынку
Ён ставіць творчасці пячаць:
За радасць нашую —
адзінку,
За сум варожы —
цэлых пяць.

Мае сябры,
Якое шчасце!

Мінаем варту,
        край зямлі...
І хвалі шоўкавыя лашчаць
Пяшчотнай ласкай караблі.

Гарадь трывожныя сігналы,
І вораг вабіць на спачын,
А караблі —
        ўсё далей,
                далей
Плывуць па сонца ўдалячынь.

Ніпто не зверне іх з дарогі:
Ні навальніца,
        ні скавыш,
Ні мора грозны тайны рокат,
Ні смерць адважных стырнавых

І ні варожыя сігналы,
З агнямі злосці і маны,
Што караблі іх абагналі,
Што ўзадзе кінуты яны.

Мае сябры,
Надзея цвеліць,
Што не рассыплецца краса —
Яна дажджом
        пялёсткаў белых
Аквеціць новы зорны сад.

А не ўтаймуем буры словам,
Не будзем ныць і наракаць,
Мы сонца цвет і пурпуровасць
На цвёрдых вынесем руках.

*1929 г.*

# ТРЫЛОГІЯ АДНАЕ ГІСТОРЫІ

## I

Гэту дзікую помсту
ад продкаў тваіх
прачытаў я адразу
ў глыбокіх вачах,
у пульсацыі бурнай
гарачай крыві,
на бялёвых, як мармур,
халодных плячах.

І тады зненавідзеў
усмешку тугі,
што заўсёды была
як абрыдлівы госць.
Але думак цяжкіх
пад вачамі кругі
спакусілі мяне
і маю маладосць.

Кожны дзень, як на змену,
прыходзіла ты,
мне здавалася —
сонца на працу ўстае.
Асыпаліся жоўклыя
долу лісты,
адцвіталі і прымхі,
і ва́ды твае.

Толькі любасць мая
расцвітала пышней,
і усмешка тугі,
і няўтольная злосць,
нават помсты агні —
не кранаді мяне:
я усё даравау
за тваю маладосць.

II

Слаўны пачатак гісторыі,
сумны,
звычайны канец:
вочы усёй аўдыторыі
колюць дакорам мяне.

— Што вы нам скажаце, сведка? —
грозна пытае суддзя.—
Вырашыць ваша даведка
лёс маладога жыцця.

Чую,
як зноў прабягае
ценем усмешка тугі;
вочы яе ўспамінаю
і пад вачамі —
кругі.

Сіла ліхая направа
вабіць міжвольна пагляд:
— Вось яна,
судная лава,
як старасвецкі парад.

Вось яна,
тая дзяўчына
з помстаю ў чорных вачах...
Можа краса быць злачыннай,
нельга яе прабачаць!

Цвёрды адказ быў,
кароткі:
— Што там душою крывіць,
дзікая помста ад продкаў
б'ецца ў гарачай крыві.

Некалі ў пышных маёнтках
бацька яе гадаваў
і пра варожасць дзіцёнку
ён над калыскай спяваў.

Ні навальнічныя штормы,
ні рэвалюцыі вір —

помсты яе непакорнай
не пагасілі ў крыві.

Строга судзіце варожасць,
нельга зважаць на красу:
гэтай дзяўчыны прыгожасць
сеяла скруху і сум.

Воплескі ўсёй аўдыторыі
боль не маглі заглушыць:
стала развязка гісторыі
цяжкай пакутай душы.

III

Як настала восень,
лісці пажаўцелі —
мне здалося:
косы
ціха шалясцелі.

А зімой суровай
у марозны вечар
снежная бялёвасць
нагадала плечы.

І вясна па злосці
(як гэта нядобра!)
запрасіла ў госці
незнаёмы вобраз.

Толькі познім летам
вуснамі сваімі
мне сказалі кветы
ясна тваё імя.

І тады —
і радасць,
і тугу усмешкі
я пракляў, як здраду,
а душы не ўсцешыў.

Над высокім лесам
яснымі начамі
мне здаецца —

месяц
бразгае ключамі,

сыпле поўнай жменяй
па лагчынах нізкіх
цёплыя прамені,
залатыя іскры.

Але ж гэта —
дзіва,
згадка,
што сапраўды
на прастор на сіні
выйдзе сонца заўтра.

Гэтак і твой прывід,
што нясе трывогу —
толькі мая крыўда
на сябе самога,

толькі крык сумлення,
што цябе,
праклятай,
я не збіў каменнем,
а за жонку сватаў.

Значыць,
мая згадка
аб тваіх усмешках —
гэта толькі кладка
да шырокай сцежкі,

гэта толькі смага
новай прыгажосці,
сіла і адвага
нашай маладосці.

*1929 г.*

# ХАДА ПАДЗЕЙ

**Лірычная хроніка**

## Пралог

Вячорная цьмянасць твая,
красавік,
мой дух акавітаю поіць,
а вецер імкнецца настроі узвіць
на залатыя навоі.

Спрачаюцца думкі мае з пачуццём,
снуюць успаміны аснову:
праходзіць у ясным праменні жыццё,
восень —
у лісці кляновым.

У белым убранні праходзіць зіма,
вясна —
у зялёным адзенні,
і лёгкай фантазіі смелы размах
рупна рысуе падзеі.

У вобразах я вокамгненна падам
падзеі у духу канструкцый:
. . . . . . . . . . . .
Калі цягнікі папрыходзілі з дач —
пачак прывезлі інструкцый.

## I восень пачалася

Ад інструкцый гэтых установы
скалыхнуліся, як хмурыя лясы,
і пайшлі загады, прапановы
ад вяршынь цэнтральных у нізы.

Прабягалі хуткія кур'еры
за кароткім часам наўздагон,
і ляцелі белыя паперы,
як лісты асеннія на дол.

Журавы пачулі шалясценне,
узнялі птушыны непакой:

журавам казалі летуценні
пашукаць на поўдні супакой.

І яны дарог сваіх глядзелі,
разгарнуўшы старасвецкі план.
Задзівілі гэтыя падзеі,
і спытаў паэта у сялян:

— Я вясну адзначу вандраваннем,
ці прыехала яна ў калгас?
— Хоць складанае пастаўлена пытанне,
але просты на яго адказ:

Адцвілі даўно вясна і лета,
час ідзе няспынна,
не суняць...
І здалося сумнаму паэту,
што зарана адцвіла вясна.

Напісаў ён верш у захапленні,
як лісты апалі не ў пару:
нагадалі крыллі летуценняў
вобраз дзеўчыны і белых руж.

**Дзяўчына**

Хмары белыя —
быццам кусты
беласнежных вялізманых руж.
Адлятаюць дадолу лісты,
адлятаюць лісты не ў пару.

Яшчэ жнівень на полі цвіце
пазалотаю позніх аўсоў.
Раніцою дзяўчына ідзе
пазбіраць каласы ў крысо.

І на босыя ногі раса
ападае з халоднай травы,
і на плечы спадае каса
ручаём залатым з галавы.

Вейкі спуджана нейк шалясцяць,
адвінаецца зірк у аддаль.

Прабягаюць дарогі наўсцяж
і знікаюць — канца не відаць.

І асмуглыя рукі яе
захінаюць кажушак стары,
каб грудзей не крануўся падвей,
не туліліся моцна вятры.

А на вуснах ружовых,
як цень,
задуменная ўсмешка лягла.
Золкі смутак з-за лесу ідзе,
асядае над полем імгла.

Адцвіла залатая вясна,
адшумелі лугі і лясы.
Пазалотаю белай туман
не засценіць дзявочай красы.

Хмары белыя —
быццам кусты
беласнежных вялізманых руж.
Адлятаюць дадолу лісты,
адлятаюць лісты не ў пару.

**Перавыбары ў прыродзе**

Красавала восень ярка
да кастрычнікавых дзён,
гаварлівая жняярка
не змаўкала на палёх.

Скараціць рашыла штаты,
на падмогу кліча дождж:
— Атрасі на клёнах шаты
і развей па полі ўдоўж.

Дык на працу,
дождж,
на працу:
справы многа на зямлі!
Адказаў дождж:
— Рад старацца! —
І зашастаў у галлі.

Супынілася жняярка
на саўгасавых палёх,
і лісты на клёнах парку
асякае галалёд.

Птушкі выбраліся скора
чарадою і ў разброд,
хто за межы,
аж за мора,
хто лячыцца на курорт.

Узнялі вятры трывогу
(чуцен грозны гоман хваль):
на азёрах,
на дарогах
сталі скаргі друкаваць.

Прачыталі тыя скаргі
і лясы,
і жоўклы сад
і рашылі не на жарты
перадаць зіме пасад.

Узнялі аднагалосна
вершаліны на узмах:
— Хай гуляе на палосах
замест восені зіма.

## Зімовы адпачынак

Пасаду старшыні
халодны лістапад
наступніку
увечар перадаў.
І снежань малады
аснежыў голы сад,
за дзень канькі
і лыжы распрадаў.

Марозным вечарам
на фабрыках гудкі
пераклікаліся
акордамі сірэн,

і першаю
спартыўная каманда «КІМ»
на новых лыжах
выехала ў трэк.

У яркай змрочнасці
схіснуліся агні,
і ціну тонкую
наземіць цень...
Калонай роўнаю
ідуць за днямі дні,
якая стройная
хада падзей!

Вятры сцюдзёныя
гайсаюць каля стаў,
у задуменнасці
марозны лес.
Як пальцы — тонкія,
і крохкія, як сталь,
лілеі белыя
цвітуць на шкле.
Лісты шырокія
прыгожа вышываў
на сінім шкле
халодны маладзік.

Адлюстравалася
узлётаў вышыня
і глыбіня
пачуццяў маладых.
І звонку казачным
здаецца ў змроку клуб
сваёй суровасцю
халодных рыс:
з крутой страхі
спадае пасмай
цень на зруб.
Ды сэрца клубнае
трапечацца, гарыць.
А дні ідуць,
кароткія, як радасць, дні,
сляды кладуцца
роўныя на снег.

Зіма,
апошнімі снягамі
зварухні
і саступі шляхі свае
вясне.

Яна склапочаная
ходзіць ля акон,
яна над рэкамі
варушыць ціш,
яна шчапае лёд
(ты чуеш гэты звон?),
яна вятрамі
ў полі шалясціць.

Яна паводкаю ідзе,
прыгожая вясна,
узварухнуліся,
шумяць лясы,
яна ідзе
і заклікае нас
да творчасці
вялікае красы.

## Вясна наводзіць чыстку

Прыляцелі ластаўкі
з залатымі крыллямі.
Паламаны застаўкі
ледзянымі крыгамі.

І паводка бурная
умывае вуліцы,
а масты чыгунныя
над ракой сутуляцца.

І вясна
і людзі ўсе
раніцою ранняю
пачалі на вуліцах
чыстку генеральную.

Бюракраты пырскаюць,
быццам хвалі пенаю:

напужаны чысткаю,
значыць —
ґігіенаю.

А тым часам сапраўды
рабочы кантроль
парашыў адчыніць
дубальтовыя дзверы
кабінетаў усіх,
канцыляр
і кантор —
пісаніну і працу
праверыць.
І цяпер аб'явілася
шмат «валацуг»,
што «не помняць»
ні бацькі,
ні маткі,
ні брата.
Каб давесці усё ж
«пралетарскасць» сваю —
зазначаюць,
што іх...
нарадзіў інкубатар.

А каб верылі больш,
паціскаюць руку
меней «заву»,
а болей кур'еру.
Кабінеты цяпер
не стаяць на замку —
адчыняюцца ветла
дубовыя дзверы.

Ай як хутка
падзеі мяняюць людзей,
і душу іх,
і твар,
і усмешку,
толькі, мусіць, вясна
у няспыннай хадзе
не мяняе аблічча
і сцежак.

Не мяняе ніколі
зялёных дарог,
не спыняюць напружнасці
людзі ў рабоце:
ўсё нязменна у сем
раніцою гудок,
і красуе вясна
ў пазалоце.

Яснымі праменнямі
на прыпол красы
раскідае жменяю
сонца паясы.

І тады вясёлкаю
зацвітае сад,
раніцою волкаю
зіхаціць раса.

Вочы белазорыя
упіваюць сінь.
Вецер над азёрамі
ціха шалясціць.

— Можа троха зімна вам? —
шчэ чуваць зіма,
а паэта гімнамі
услаўляе май.

## Маёвы гімн

Думкі і вобразы
лучацца шчыльна,
сэрца нітуюць
настроі вясны.
Дзеі праходзяць
заўсёды няўхільна,
дзеі... а такжа
праўдзівыя сны.

Толькі нядаўна
на санях кляновых
вывезлі з Мінска
за горад зіму,—

тэмпам ускораным
рытмаў вясновых
сёння складаецца
сонечны мур.

Толькі надоечы
вусны прасілі,
вусны мільённыя
клікалі май,—
сёння ж у далях,
празрыстасцю сініх,
дзень гэты
крыллі над светам разняў.

Пошчак прамчаўся
ад Мінска да Вільні,
як навальніцаю
шэлест лясны...
Дзеі праходзяць
заўсёды няўхільна,
дзеі — як нашы
праўдзівыя сны.

Вось і здаецца
нязвыклай,
бязмэтнай
гэта людская
бяскрайняя плынь.
Маршам аркестры
на плошчы сусветнай
славяць маёвыя
светлыя дні.

Што ж гэта сэрца
дрыжыць у трывозе,
нават і песні
не ўшчунуць бяду?
Дзесьці далёка
па чорнай дарозе
нашых братоў
на пакуты вядуць.

Што ж ты татахкаеш,
сэрца, бяссільна,

хіба не верыш
у подых вясны?
Дзеі праходзяць
заўсёды няўхільна,
збудуцца нашы
праўдзівыя сны.

Будзе часіна,
як тыдзень русальны:
людзі пакрышаць
няволі крыжы,
прыйдуць з выгнанняў
адвечных і дальніх,
прыйдуць-паўстануць
змагацца і жыць.

Дзень гэты будзе
таксама маёвы,
злучнасць працоўных
уславіць вякі,
праца вянкамі
красы каляровай
высцеле сціпла
камуне шляхі.

Толькі сачыце
упарта і пільна
подыхі кожнае
новай вясны,—
дзеі праходзяць
заўсёды няўхільна:
дзейснасцю стануць
праўдзівыя сны.

**Высновы**

Залатымі косамі вяснянкі
адшумелі ўчора над лясамі.
Занядбала любая сялянка,
занядбала сёння паясамі.

Кажуць,
ходзіць лета каля лядаў,—
датыкай, дзяўчына,
свае кросны,

малады вунь едзе у прысадах...
Зашумелі вершалінай сосны.

. . . . . . . . . . . .

Веснавой мелодыі акорды
патухаюць сённячы над брукам:
летуценняў,
некалішнім гордых,
не кранае аніякі грукат.

Пачуцця прыгожую аснову
разматаць пара даўно з навояў,
бо суседзі,
робячы высновы,
пасмяюцца з песень і настрояў.

*1929 г.*

# АРКА НАД АКІЯНАМ

## 1. Крыху гісторыі і геаграфіі

Шумелі стагоднія пушчы, лясы
Над багнай балот багуністых.
Азёры у пышных абоймах лазы
Вянком выглядалі квяцістым.

Ажына, і лотаць, і дзікі чарот
Разносілі водар навокал.
Звярыныя сцежкі у нетрах балот
У твані губляліся вохкай.

Ніколі не быў чалавечы там след,
І толькі паданні гавораць:
Калі дзецюку станавілася зле,
Ішоў утапіць сваё гора...

Напоены водарам дзікай красы,
Паветрам азёр халаджавых,
Былі тыя пушчы-балоты-лясы
Як бы самастойнай дзяржавай.

І вось нечакана спрадвечны спакой
Парушаным стаўся ў момант:
У вёску прыгожаю ранняй вясной
З'явіліся два незнаёмых.

Адзін быў высокі, як гора, худы,—
Адзнака, што зносіў і ліха і кепствы,—
Чарнявай чупрыны скудлачаны дым
На брыль узвіваўся з-пад кепкі.

У постаці гэтай адчулі красу
І сілу лясоў беларускіх:
Чало упрыгожыў адценнямі сум,
А радасць гуляла на вуснах.

У смелых абрысах шырокіх брывей
Лягла назаўсёды упартасць;
Суседзі казалі: «Такі чалавек —
Нашчадак далёкае Спарты».

Кагалам шукалі спартанскіх манер,
У жылах — крыві каляровай.
Ды толькі дарэмна — ён быў інжынер,
Антон Аляксандраў Яновіч.

Другі незнаёмы — маленькі зусім,
Прычэсаны гладка да глянцу,
На носе пенснэ залатое насіў,
Наогул выглядваў франтам.

Зіялі лакіркі, як шкло, на нагах,
Зіхцеў пазлацанасцю гальштук;
Быў ветліў з усімі, як толькі ільга,
І асабліва з начальствам.

Калі запытае пра што інжынер —
Лагодны адказ: «Калі ласка!»
І голаў нахіліць як можна ніжэй,
Да сэрца прыціснуўшы ляску.

Гукне вокамгненна старшому аўто,
Малодшага ўзяўшы пад руку,
Спытае пра жонку, пахваліць пальто,
Раскажа, што пішуць у друку.

Выконваў сціпла загады усе,
Да смерці гатоў быў старацца.
Ён быў інжынеру і блізкі сусед
І першы намеснік у працы.

Чамусьці усё ж не любіў інжынер
Ні мовы яго сакавітай,
Ні тонкіх, да прыкрасці тонкіх, манер
І толькі хваліў працавітасць.

Затое у свойскім знаёмым кругу
Хвалілі яго без прычыны:
— Які ён прыветлівы, добры наш друг!..
— Які далікатны Яцына!..

(Ласкавы чытач мой, Яцыну заўваж:
Ён будзе таксама героем,
Хоць можа да густу не прыйдзецца вам,
Разбурыць суладнасць настрою.)

Сяляне аднолькава стрэлі гасцей,
Агледзелі, стрэўшы, уважна:
— Вось гэты, каторы апранен чысцей,
Напэўна, начальнік больш важны.

Яновіч спытаў у іх:
— Дзе сельсавет?
— А вось, калі трэба — пакажам.—
І грузны, высокі, як дуб, чалавек
Пайшоў з інжынерамі разам.

Вярнуўшыся, доўга расказваў усім,
Як толькі ільга, іранічна:
— Балота надумалі тут асушыць,
А з торфу рабіць электрычнасць.

Смяяліся з выдумкі гэтай усе:
— Нічога не будзе з работы...
— Няхай сабе траціць дабро пакрысе,
А нам вось — абы заработак.

І толькі адзін, маладзейшы за ўсіх,
Заўважыў вясёла і жвава:
— Зямлю можна гуртам перакруціць,—
Не то што балота управіць.

## II. Як можна апланаваць балота

Хто не бачыў палескіх паводак вясной,
Той ніколі прыгожай не знаў панарамы:
Чайкі, плаўна махаючы белым вяслом,
Не дасягнуць сысціся ніяк з берагамі.

Берагі адыходзяць, паводка расце,
Паляшук у святочным кужэльным адзенні
Яшчэ ўранку чакае на выспу гасцей,
Але толькі увечар убачыць, сустрэне.

І прабудзе нямала на выспе той госць,
Як бы дзе ў чужаземным, далёкім палоне,
Покуль хвалі не ўцешаць няўтольную злосць
І павольна знікаць не пачнуць з абалоны.

Як спрадвеку, таксама і ў гэту вясну
Паглядалі сяляне ў бязмежнае мора:

Можа, друга пазнаюць свайго па вяслу,
Можа, з сынам каханым убачацца скора.

Але ціха вакол, і куды ты ні глянь —
Ні каханага сына, ні любага друга.
Балаты і азёры — нібы акіян,
Адзінокая чайка плыве валацугай...

Дваццаць пяць весляроў апусцілі вясло,
Ловяць пальцамі казачны цень багавіння;
Яны змералі шыр непраходных балот,
Адплываюць павольна цяпер на спачынак.

І калі даплылі ўжо да цвёрдай зямлі,—
Люстравалася пушча ў празрыстасці хваляў,
І здалося, стаяць пад вадой караблі,
Што затоплены некалі ў часе навалы.

Гэты вобраз красы, як здабытак вякоў,
Кінуў кліч паўставаць на змаганне ізноўку.
Схвалявалася бурна гарачая кроў,
І Яновіч падаў веслярам дыспаноўку:

— Покуль паводка йдзе, прасціраючы шлях,
Трэба змераць глыбінь гэтых нетраў
дзівосных,
Бо пасля недаступнаю стане зямля,—
Налягайце ж мацней, мараходы, на вёслы.

Разыходзяцца кругі,
Замыкаюцца кругі,
Пырскі крохкія, як шкло,
Узлятаюць пад вяслом.

Устурбаваныя хвалі
Чайку плаўна залюлялі,
Адыходзіць яна ўдаль,
Замыкаецца вада.

А вясна узлёты песціць:
— Заспявайце, хлопцы, песню,
Хай усплёскамі ад слоў
Выгінаецца вясло.

Разыходзяцца кругі,
Замыкаюцца кругі...
Падхапіў вясёлы хор
Стройны песенны акорд.

П е с н я

Вышай, таварыш, вясло!
Чайка імчыць да ясноты.
Толькі зімой і вясной
Нас не пужае балота.

Павадкі сіняй шляхі
Не беражэ перашкода;
Белай раўніны снягі
Такжа вядуць да ясноты.

Лета і восені дні
Нас падняволяць стыхіі.
Гэй жа, наперад, чаўны,
Коні мае залатыя!

Вышай, таварыш, вясло!
Чайка імчыць да ясноты.
Толькі зімой і вясной
Мы непакорны балоту!

### III. Згадка пра заўтрае

Які заблытаны хаос,
Нібы іронія прыроды:
Налева скрозь, азёры скрозь
І непраходныя балоты.

На ўсход жа сонца ад балот
Пяскі рассыпчата жаўцеюць;
Працята смагай навылёт
Зямлі спустошанае цела.

Узгоркі зганьбілі уздым,
Прасцерлі гладкія далоні,
І чарадою да вады
Збягаюць чорныя адхоны.

Уткнуўшы нізкія ілбы
У камяністы цвёрды бераг,

Спадаюць стромаю, як бы
Свае раты на воду шчэраць.

Як толькі ж хваля набяжыць —
Ваду рачную смокчуць смагла:
Ніяк не могуць атушыць
Сваёй няўтольнай вечна смагі.

У гэты край — пустэльны сад —
Вітаць вясновыя заранкі,
Свае праекты расказаць
Хадзіў Яновіч на гулянку.

На стромкім беразе ракі
Стаяў ён доўга у задуме;
Шумелі крыллем ветракі,
Як неўтаймаваныя думы.

Тут і лятункі расцвілі
Мігценнем пышным, каляровым
Пра лёс спустошанай зямлі...
Але раскажа лепш Яновіч.

Яновіч
Краіна вечная туманаў,
Лясоў шумлівых і лазы,
Яшчэ не скончаны паўстанні —
Ты чуеш, клічуць галасы!

У вёску горад шле сігналы:
Пара ісці ў апошні бой
Супроць балотнае навалы,
Супроць звычайнасці старой.

Ў адказ на шчырае вітанне
Запульсавала бурна кроў;
Ідуць на новае змаганне
Сыны учорашніх рабоў.

У першых шэрагах армейцаў —
Гідраўлікі жыццёвых хваль,
Каб без крыві людской і смерці
Навукай свет пабудаваць.

Я чую, любая краіна,
Я чую гэтую хаду:
Цяжкія крокі індустрыі
Да перамогі нас вядуць.

Наперакор ліхой стыхіі,
На гэтай згруджанай жарстве,
Узняўшы вежы залатыя,
Прыгожы горад расцвіце.

Узляжа ён красой чыгуннай
На плечы згорбленыя гор,
І прабягуць тунелі вуліц,
Умітусь выснуюць узор.

Уранку высцелецца густа
Ад новых фабрык чорны дым,
І расцвітуць заместа пушчы
Зялёнакосыя сады.

Я веру ў гэтыя лятункі,
Загоцім долі нашай гаць...
Імкнецца вораг злосны тунна,
Бо мы не станем удыгаць.

Ад накананае заспы
Тварцы ўздымаюцца на кліч.
Я першы высыплю тут насну —
Хаос у стройнасці злучыць.

Замкнём развой навал у шлюзы,
І ажыве электрастан...
Ён будзе сімвалам саюза
Тварцоў — рабочых і сялян.

### IV. Праца пачалася вокамгненна

Начавалі зоры над узлессем,
Устурбаваных наснілі сноў:
Пад нагамі нечымі у лесе
Чулі ў ночы шэлест верасоў.

Даняла трывога галасамі
Задумённасць вечную зарніц:

— Можа хочуць людзі над лясамі
Запаліць уласныя агні?!

Неспакойна досвітку чакалі,
Каб даведацца якіх прычын,
Але сон закрыў павекі шалем,
І пайшлі зарніцы на спачын.

Прыпыніўся месяц на адкосах
І аблічам нават пацямнеў:
Прыглядаўся доўга на дзівосы,
Ды не мог нічога зразумець.

Выдавалася, што белы мошаст
На пясках пажоўклых пабялеў;
Незлічоныя мільёны мошак
Аж кішаць у скошанай траве.

— От наладзілі ж паганы вэрхал,
Знепакоілі высокі мой пасад,—
Пасмяяўся месяц ціхі зверху
І пайшоў паволі у свой сад.

Толькі сонца выведала тайну,
На пустэчу глянуўшы здалёк:
На пляцы электрастану
Будаваўся новы гарадок.

Узраслі будынкі вокамгненна
(Развінуўся утрапёны лёс),
Быццам волат, сціснуўшы у жменю,
Іх сюды аднекуль перанёс.

На пясках, здратаваных слядамі,
Як узгоркі, высяцца шатры...
Воблік створанай зямлі вякамі
Рух людскі за ноч пературыў.

І мільёны грабароў і цесляў
На работу сталі ад цямна:
— Трэба воту дадзеную здзейсніць,
Трэба край да радасці узняць!

Загудзелі нетры і алёсы,
Зашумелі пушчы і лясы...

Там не трэ прынуклівых упросаў,
Дзе так шмат і шчасця і красы!

Кліча сэрца сэрцы на дагонкі,
Каб хутчэй дапяць за Рубікон,
Адклікаецца на іх гамонку
Маладая кроў будаўнікоў.

Грабары

Цвёрдай, працоўнай рукой
Рэжам глыбока каналы:
Хай адплывае з вадой
Доля ашчадная — скнара.

Будзем мы лепшай глядзець,
Будзем тварыць яе дбайна;
Працу цяжкую людзей
Хутка падменяць камбайны.

Муляры

Выведзем выш камяніц
Вышай ад самых узлётаў.
Будуць гудкамі званіць
Фабрыкі нашы, заводы...

Як падарунак вясне,
Без макулінкі завады,
Будзе цвятліва яснець
Намі здабытая радасць.

Рабочыя чыгункі

Праз балаты, лазнякі
Высцелем крохкія рэйкі,
Будуць іграць цягнікі
На галасістых жалейках.

Лёгкай хадою экспрэс
Будзе прыходзіць у госці...
Згіне і выцвіце спрэс
Жальба з вачэй маладосці.

Усе

Долі прыгожай зару
Мы прывітаема заўтра.

Не навярэджвае рук
Радаснай працы упартасць.

Творцы даюць пачуццё
Новаму стылю ў сучассі.
Мы пераможам усё
Для чалавечага шчасця.

Будзем днявадь, начавадь,
А не пакінем работы:
Строгі зарок — будавадь
Новыя свету ясноты!

### V. Першыя веснікі непарадку

На ўзгорку кантора
І поруч жа склад;
Са склада ў кантору
Нясуць даклад.

Вытворцаў нарада —
Рабочы кантроль
Паслаў дэлегатаў
У ліку трох.

Крутыя усходы
На трэці паверх
Усходзяць, сыходзяць
То ўніз, то уверх.

Здаецца, гайдаюць
Арэлі натоўп:
Увыш узлятаюць,
Злятаюць на дол.

Кантору для справы
Разбілі на дзве;
Налева, направа
Натоўп ідзе.

Рабочыя проста:
— Няхай разбярэ
Учынкі прахвоста
Сам інжынер.

У чуласці крохкай
Званок празвінеў,
Некалькі крокаў
І — кабінет.

Дубовыя дзверы,
Стрывожаны скрып...
І вось к інжынеру
Ўвайшлі грабары.

П е р ш ы  р а б о ч ы
Мы проста са склада
Сюды ў кабінет...

Д р у г і  р а б о ч ы
Прыйшлі вось з дакладам
Да вас, інжынер...

Т р э ц і  р а б о ч ы
Мы хочам, каб новы
Парадак стварыць...

Я н о в і ч
Я слухаць гатовы —
Сядайце, сябры!

П е р ш ы  р а б о ч ы
Адна толькі днёўка —
І вораг налёг:
Прапалі рыдлёўкі
І сорак шуфлёў.

Д р у г і  р а б о ч ы
Прасілі адразу
На склад загадаць...
Яцына адказу
Дагэтуль не даў.

Т р э ц і  р а б о ч ы
Цяпер без начыння
Гуляе арцель...
Такога злачынства
Ніхто не цярпеў!

Яновіч

На сорак адсоткаў
Вінуйце не нас:
На ўсё трэба сродкі,
Таксама і час.

Першы рабочы

Мінуў цэлы тыдзень —
Чарпалкі няма...
Калі ж яна прыйдзе?
Як будзе зіма?

Другі рабочы

Няма чаго болей
Марнець і чакаць:
Падайце нам новы
На працу чарпак.

Трэці рабочы

Не зробім за лета
Інакш магістралі,
Даўно мы пра гэта
Яцыну казалі.

— Казалі? — сур'ёзна
Здзівіўся Яновіч,
Нахмурыўшы грозна
Шырокія бровы.

Яновіч

Мы будзем старацца
Як толькі ільга,
І стане на працу
Праз тыдзень чарпак.

Мы знойдзем прычынных
У гэтай віне...
Паклічце Яцыну
Ка мне ў кабінет.

### VI. Новы праект

Як толькі людзі за парог,
Не зачыніліся і дзверы,—

Ізноўку чорнае пяро
Гафтуе белую паперу.

Адна ўжо лінія лягла,
Абрысаваўшы стройны сектар,
А колькі іх каля стала
Чаргі чакае да праекта.

І кемным вокам інжынер
Іх у канструкцыі плануе:
То адкідае, то бярэ,
Адну мяняе на другую.

Мінулі думы дзённы шум,
У творчым выраі лунаюць,—
Трывога чулую душу
Нагімі пальцамі кранае.

І скруха смутная гняце
Штораз глыбей, вастрэй і горай:
Ты кінуў творчай працы дзень,
Заняўся вышукам тэорый!

Я н о в і ч
Які скандал!.. Якая жудзь!..
У чым маёй віны прычына?
Няўжо за ўзлёты творчых дум
Мяне вінуюць у злачыне?

Я толькі радасці хацеў,
Увесь аддаўся парыванням...
Мой дух высока ўзляцеў
У творчых домыслах, шуканнях...

Перада мной жывы праект
Лятункі ўзвіхраныя чэрцяць;
Як той удумлівы паэт,
Ствараю планы кроўю сэрца.

Калі ж да творчасці туга
Праект істотаю атуліць,—
Вясёлкі новае дуга
Краямі стане на паўкулях.

Цераз шумлівы акіян
Узнімем створчатую арку;
Сусвет рабочых і сялян
Знітуе лёт часіны шпаркай.

Без грамадзянскае вайны
Адвечныя развяжам спрэчкі:
Зямлі вялікае сыны
Па-братняму павінны стрэцца.

Па электрычных правадах,
Як віхар, хуткія трамваі
Праложаць над вадою шлях
І будуць лётам сваім вабіць.

Над аркай пройдуць цягнікі,
Пад аркай пройдуць параходы...
І скрозь — агні... суздром — агні,
Як сонца новага усходу.

Высокай аркі вышыня,
Прасцяг узрочысты, бяскрайні,
Вады марское глыбіня —
Раскрыюць людзям свае тайны.

Над акіянам медны звон
Давацьме грозныя сігналы;
Пакорыць наш, людскі, закон
Шалёна-морскія навалы.

Вясёлы дзень і злую ноч
Стаяцьме арка на дазоры,
Як сімвал нашых перамог,
Як сімвал радасці без гора.

Няўжо ж за гэты вынік дум
Мяне вінуюць у злачыне?!
Які скандал!.. Якая жудзь!..
Няхай ідзе хутчэй Яцына!..

**VII. Гутарка Яновіча з Яцынам**

Яцына выгладзіў свой чуб,
Наваксаваў свае лакеркі

І усміхнуўся краем губ,
Самога ўбачыўшы ў люстэрку.

Відаць, што выгляд і убор
Здаволіў густы кавалера:
Ён выйшаў горда ў калідор,
Накіраваўся к інжынеру.

Хадой, якой ідуць у сне,
Якою ходзяць падхалімы,
Ён увайшоў у кабінет,
Нат і не піснуўшы дзвярыма.

Лагодны кінуўшы пагляд,
Застыў у паслухмяным стане...
Ну, хлопец — чысты мармелад,
Здаецца, зараз і растане.

Пяшчотным голасам вынег,
Зацяўшы дух варожы туга:
— Вы, здэцца, клікалі мяне?
Я ўвесь гатовы на паслугі!

Яновіч

Ага!.. Яцына?.. Добры дзень!
Сядайце тут вось, калі ласка...
Ну, як жа праца ў нас ідзе?..
Нідзе ніякае апаскі?

Яцына

Ды што вы? Як жа можна так?!
Нашто ж памочнік інжынеру,
Нашто ж дзесяцкіх цэлы штат,
Рахункаводаў і кур'ераў?!

Яновіч

Вось гэты ваш хвалёны штат
Мяне найболей непакоіць...
Вы не заходзілі на склад? —
Там штосьняладнае такое.

Яцына

Антон Ляксандрыч!.. Божа мой!..
Хто мог няпраўды напрарочыць?

Магу клясціся галавой,
Што гэта нехта ад рабочых...

Я н о в і ч
Пакіньце глупства гаварыць!
Вы добра знаеце, таварыш:
Адны прыйшлі жыццё тварыць,—
Другія хочуць разбазарыць.

І вось сягоння уначы
На складзе зроблена пакража...
Каму даручаны ключы?!
Каму даверана паклажа?!

Ніяк не можна уявіць,
Што не было удзелу штату...

Я ц ы н а
Антон Ляксандрыч!..

Я н о в і ч
Кіньце вы!..
Як найхутчэй дазнаць растрату!

Я ц ы н а
Я заўтра ж дам на ўсё адказ,
Ужо у гэтым — будзьце пэўны,
Мне непрыемна толькі вас
Трывожыць дробяззю надзеннай.

Я н о в і ч
Я таксама верны будаўнік...
Гарэць агнём мае пачуцці —
Ці ж далі права нашы дні
Ад усяго мне адкаснуцца?

Я ц ы н а
А геніяльны ваш праект
Хіба не тое ж будаванне?..
Ці хутка ён убачыць свет? —
Я даў бы колькі меркаванняў
Наконт таго, каб збыць...

Я н о в і ч

Даўно
Жыву лятункамі будовы,
І вось сягоннячы адно
Закончыў першую палову.

Я ц ы н а

Вітаю вас! Прыемна чуць...

Я н о в і ч

Я вельмі дзякую за шчырасць!

Я ц ы н а

У вольны час я ўсё ж хачу
Пагаварыць шчэ болей шчыра.
І мо тады, як з цесцем зяць,
Наладзім мы шыкарны гандаль...

Я н о в і ч

Пра што вы хочаце сказаць,
У чым аснова праганды?

Я ц ы н а

Я раскажу у вольны час,
Пакуль — дазвольце развітацца,
Прашу за ўсё мне прабачаць,
Да пабачэння зноў!..

Я н о в і ч

Бывайце!..

## VIII. Вораг ізноў непакоіць

Расцвітала вясна, красавалі лясы
У вянках зеляніны купчастай;
На прасторах вясны пад шатрамі красы
Гадавалася доля і шчасце.

Ад відна — да відна, ад цямна — да цямна
Не змаўкала ў нетрах работа;
Роўным рытмам хады уздыхала зямля,
І шумелі лясы і балоты.

А калі раніцой на палетку у рад
Стала першая трактаркалона —

На спаборніцтва кліч ад рабочых брыгад
Пакацíўся на поле адхонам.

І мацней і шпарчэй бунтавалася кроў,
Сэрцы біліся ўзгодненым тактам;
Несупынна ішла валка цёмных дуброў,
Каб да радасці вымасціць тракты.

А як вечар настаў, дагарэў і ачах —
Разышлася нядобрая дзейка,
І на дзесяць гадзін сакратар назначаў
Пасяджэнне партыйнай ячэйкі.

Лёгкім крокам вясны надыходзіла ноч,
Ахінала крылом незнаёмым;
Цені гонкія дрэў шалясцелі ля ног,
Спавівалі нервовай утомай.

Даўкі водар красы з багуністых амшар
Напаїў утаймованым шалам,
І замоўклі лясы і палеткаў абшар,
І работа на ноч замаўкала.

Толькі ў клубе раслі ўсё мацней галасы,
Разгараліся шумныя спрэчкі:
Цяжка гневу агні у грудзях пагасіць
Так, як гаснуць пад ветрамі свечкі.

Але дзень ужо зноў у акно бразгатаў,
Заклікаў да імклівасці новай.
І патухлі агні, слова ўзяў сакратар
Для заключнай высноўнай прамовы.

С а к р а т а р я ч э й к і
Дарагія таварышы!.. Струджаны лёс
Нас паклікаў усíх на вялікую працу.
Мы кляліся краіны узмоцніць узрост,
Дык і будзем нязменна яго дабівацца.

Але вораг не ўрымсціцца, покуль жывы,
Не пакіне да смерці рабіць перашкоды...
Досыць прыкладаў чулі сягоннячы вы
Пра завадную дзейнасць у нас на работах.

Хтосьці часта у змроку наведвае склад,
Хтосьці ўночы блукае, як здань,
ля машыны...
Я спачатку казаў, як рабіў свой даклад,
Што не спіцца найбольш інжынеру Яцыну.

Ці не ў гэтым зацяжным бяссонні віна
І прычына гулянак трывожна-нясмелых...
Каб галоўныя часткі ў машыне адняць,
Трэба мець і навуку, і спрыт, і умеласць.

Акрамя машыніста, дагэтуль ніхто
Не знаёмы з дэталямі новай машыны,—
Вось чаму навальніцай кляновых лістоў
Падазронасць апала над імем Яцыны.

Па-зладзейску ён жвавы, на ўсё дабіўны:
Адначасна на любасць і варажасць здатны.
Як жа дзейнасць яго назаўсёды спыніць,
Як жа першую спробу зрабіць і астатняй?!

Мы паклічам грамадскасць, як грозных ваяк,
На вялікую бойку пачуццяў —
на мітынг:
Дзе узгоднена сэрцы пульсуюць у такт,
Там дазнаем фальшывыя пульсы у рытмах.

Станем зорка і пільна за працай сачыць,
Загартуем цвярдзей у змаганні упартасць,
Не даверым Яцыну ад склада ключы,
Ля машыны паставім надзейную варту.

А калі атрымаем навочны доказ,—
Гнеў працоўных узвіхрыць маланкамі буру,
Хай не жджэ тады літасці вораг ад нас:
Дасць праўдзівую кару яму дыктатура.

## IX. Праз некалькі дзён

Мінула ноч, а дзень на змену
Выходзіў рупнаю хадой,
І праца сціплая нязменна
Ішла балотамі уздоўж.

Яна сляды свае паклала:
Праз багну, гліну і пяскі
Прайшлі глыбокія каналы
Ад цёмнай пушчы да ракі.

Істужкі рэек залацістых
Віліся стройна аж да гор;
Высока зложаны у сцірты
Пятрэў на сонцы чорны торф.

Ад рыштаванняў тонкіх спіцы
Спляліся, быццам дзіўны цень;
Высокай гордай камяніцы
Стаялі стромы грузных сцен.

На сценах накрыж сталі кроквы,
Як верны доказ без заган,
Што праца йдзе напружным крокам
Расце штодзень электрастан.

Узрост кагосьці знепакоіў,
Наклікаў хтосьці перашкод:
Дазнаць варожыя настроі
Прыйшлі рабочыя на сход.

І грозны гоман дыша гневам:
— Дакончыць ворага пара!..
— Мы гэту сволач кормім хлебам,
А трэба смерцю пакараць!

Галасы

Паклікаць зараз інжынера —
Няхай адказ рабочым дасць,
Якія ўжыты былі меры,
Каб не псавалі нашу снасць?!

Рабочы

Чакай адказу!

Другі рабочы

Сам Яцына
Прымаў, напэўна, тут удзел...

Трэці рабочы
Не мы ж вялі разбор машыны,
А нехта з вучаных людзей.

Грамада
У гэтай шкодзе — іх аснова!
Давай на шыбеніцу ўсіх!

Галасы
Цішэй!..
Яновіч просіць слова...

Грамада
Няхай адкажа, д'яблаў сын!..

Галасы
Спыніце гоман!..
Хай гаворыць!
Пакіньце гутаркі...
Цішэй!..

У вочы сыплюцца дакорам
Агні раз'яраных вачэй.
Але Яновіч выйшаў смела
І на трыбуне скамянеў...
Узмах рукі нервова-белай —
І стала ціха, як у сне.

Яновіч
Мне горка за вашыя словы:
Ці ж я адшчапенец які?!
Вы знаеце ўсе, што Яновіч
Таксама з працоўнай сям'і.

За кожнае каліва шчасця,
Здабытае вашай рукой,
Гатоў я загінуць, прапасці,
Як верны сучаснасці вой...

Галасы
Ён праўду гаворыць...
Дарэмна
Спагналі на ім сваю злосць...

Ён з нашай дарогі не зверне...
Ён з намі, як сябар і госць...

Яновіч

За што ж вінаваціце ў здрадзе?!
Вялікая наша віна,
Што мы ў згуртаваным суладдзі
Не ўмеем злачынцаў дазнаць.

Дазнаем затое у працы,
Хто крывіць парадак і лад...
Дык будзем жа дружна старацца!
Я выдам Яцыну загад...

Галасы

Яцына найбольшы злачынца...
Ці ж ён тут удзелу не браў?..
Вядома даўно, што Яцыну
Не шкода працоўных дабра...

Яновіч

Зусім беспадстаўныя весці:
Яцына мой блізкі зямляк,
У працы штодзённай, сумеснай...

Голас

Складалі па шкодніцтву план?!

Другі голас

Відаць, пад апеку нядарам
Бярэ выхаванца свайго!

Грамада

Даволі нам слухаць дабары,
Мы ведаем добра яго!

Яновіч

Таварышы, любыя!..

Грамада

Годзе!

Яновіч

Дазвольце!..

Галасы

Не трэба!..
Кажы!..
Пакінь свае песні заводзіць!..
Вы разам вастрылі нажы...

Сакратар ячэйкі

Спыніце, таварышы, лямант,
Суцішце узбураны гнеў:
Яновіч імя не запляміў,
А толькі змагацца не ўмеў.

Навукай імкнецца ён тунна
Класавы бой сутрымаць.
Вядома, такія лятункі —
Адно пазалота ярма.

І практыку гэтых тэорый
Яновічу трэба пазбыць,
Бо шчасце працоўныя створаць
Толькі ў агні барацьбы.

Мы такжа зрабілі памылку;
Яцына аблытаў, як мог:
У вочы дарыў нас ухмылкай,
А зачы навострываў нож.

Канкрэтных няма яшчэ даных,
Замежны ж падхоплены ліст,
Па зместу зусім беззаганны,
Гаворыць пра сувязь з былым.

Высновай згаворак інтымных
Таксама ільга дакараць:
Калі 'і не быў ён актыўным,
То ўсё ж, як відаць, патураў.

Яновічу зараз жа трэба
Расследаваць гэта, дазнаць,
Каб дольнікаў справы ганебнай
Сурова маглі пакараць.

Па каліву, дробнаму зерню
Праверым работу і дні!..
Таварышы, правільна?!

Грамада

Верна!
На ворага ўсе як адзін!

Яновіч

Што чую?.. Якія навіны!
Чаго ж на каго наракаць?
Чакаў я ўсяго ад Яцыны,
А здрады ніяк не чакаў.

Галасы (цішком)

Яновіч збянтэжаны...
Шкода...
Суладнасць разбурылі дум...

Яновіч

Адкіньце наводшыб пяшчоты,
Гартуйце сурова свой дух!
Знайду яшчэ сілы ударнай
Скрышыць перашкоды жыццём.

Грамада

Вітаем тваю мы упартасць
І самі на помач ідзём.

**X. Яцына, які ён ёсць**

Нахмурыўшы да болю грозна бровы
І затаіўшы гнеў у сэрцы шчыльна,
Хадой знервованай прайшоў Яновіч
У кабінет спакойнага Яцыны.

Агні вачэй зацяплілі варожасць:
Прызнаў адзін другога супаратам.
Яцыну гэты позірк устрывожыў,
І ён прыветліва і далікатна

Зашчабятаў, падсоўваючы крэсла,
Стараючыся ў тон лагодны трапіць:
— А можа, тут нявыгадна і цесна,
Тады прашу — сядайце на канапе!

Яновіч

Пакіньце вы дакучныя забегі,
Цярпеў я досыць ваша падхалімства:

Умееце на задніх лапках бегаць,
Але сягоння гэта будзе лішнім.

Я ц ы н а
Прашу, калега, толькі без абразы!..

Я н о в і ч
Калі вы нажылі натуру лорда? —
Мне помніцца, спачатку безуразна
Цярпелі вы у нашай мове цвёрдасць.

Я ц ы н а
На ўсё свой час, і час за нас парука:
Вы прымеце маю таксама веру...

Я н о в і ч
Гуляць у хованкі з дарослымі — дакука:
Смялей разгортвайце свае паперы!

Я ц ы н а
Даўно хацеў вас выклікаць на шчырасць,
Але трывога замыкала вусны...
Ці не пара нам вылецець у вырай
Куды-небудзь за межы... Беларусі?

Я н о в і ч
Ах, вось!.. Я вашы планы разумею...

Я ц ы н а
Магу пераказаць і растлумачыць.

Я н о в і ч
Якую ж мэту ваша праца мела
І ваш удзел, аддана і гарачы?

Я ц ы н а
Чакаў я ўсё дагэтуль перамены:
Душу і сэрца ўкладаў у руіны,
Каб з іх стварыць навекі неадменны
Парадак-лад загубленай краіны.

Каб так, як робіцца ў сям'і паліпаў,
Усё, што зрушана і зрабавана,
Ізноўку аднавіць у працы сціплай
І здаць таму, ў каго яно забрана.

Я жыў адзінай думай і надзеяй,
Што дасягненні вашы мы падлічым,
Што ажывуць, разгорнуцца падзеі...
І вось насіў я маску на аблічча...
Але цяпер...

Яновіч
А што цяпер такое?

Яцына
Надзеі гаснуць, думы аблятаюць,
І кожны крок наперад — непакоіць...

Яновіч
Скажы, чаго табе не далягае?

Яцына
Не захапляўся я ідэямі братэрства,—
Задачы кожнаму напісаны ад роду:
Адным прызначаны пакуты, кепствы,
Другім жа — хлеб і слава ад народу.

Скажыце мне, дык па якому праву
Павінен здаць не толькі прывілеі,
А й гонар мой, маю пашану, славу...
Скажыце мне, бо я не разумею!

Я не хачу быць лёкаем бяспраўным
Натоўпу нейкага, дзе «мне — нічога»,
А «нам — усё»!..

Яновіч
Гаворыш вельмі слаўна!..
Якую ж выбраў ты сабе дарогу?

Яцына
Я... вырашыў... пакуль хапае сілы,
Змагацца з ворагам... з пралетарыятам!..
Я з вамі гавару, Яновіч, шчыра,
Не думайце, што гэта сон вар'ята.

Яновіч
Арыштаваць вас трэба за варожасць!

Яцына
А хто варожасць гэтую пасведчыць?
Трымаўся я дагэтуль асцярожна,
І ваш данос палічаць недарэчным.

Яновіч
Я сёння ж вызвалю цябе ад працы...

Яцына
Не вы паставілі,— спытайце ў трэсце.

Яновіч
Якая подласць другам прыкідацца!..

Яцына
Пакінем сварку гэтую нарэшце:
Павінны мы прыйсці да нейкай згоды.
Паслухайце, Яновіч, раз уважна:
У вас над аркай скончана работа,
А гэта мне — і вам не меней — важна.

Што зробяць тут з такім выдатным
творам? —
Вас абсмяюць на урачыстых кпінах:
Вам сто прамоў вітальных нагавораць,
А план усё ж нявдзейсненым загіне.

Як другу, даць хачу дзве прапановы:
Адна — пакіньце ўсё, мы пойдзем разам
Туды, дзе грунт культур, дзе іх аснова,
Там знойдзеце свой лёс, сваю украсу.

Там зразумеюць вас і вашу здольнасць,
Там мы не будзем лёкаямі толькі,
А кожны з нас, як правамоцны дольнік,
Належную адрэжа шчасця столку.
Ну, як вы мысліце?

Яновіч
Кажэце казкі!..
Не маю сілы пашчапаць вам голаў,
Парэзаць скуру белую на паскі
За мой народ, які галодны й голы
Пакутуе дагэтуль за мяжою.

Яцына
Тады падам другую прапанову,
Калі не хочаце пайсці са мною...
Прадайце мне праект і план будовы.
Мы узвядзём над акіянам арку,
А тут яна загіне вечнай марай...

Яновіч
Не смейце гаварыць! Я ў твар вам харкну
І заплюю глянцованую хару.

Яцына
Падобна, што вярнуўся ты з хаўтураў,
Таму і не крыўдую за абразу...
Твой быў дэвіз жыцця — тварыць культуру,
Зусім не важна, для якога класа.

Цяпер з табой ладу знайсці не можна:
Жабрак зусім, а раскідаеш грошы;
Ты будзеш каяцца, ды будзе позна:
Яшчэ паглядзім, хто з нас пераможа.

Яновіч
А пераможа той, каго мільёны,
Чый пульс крыві ў адзіным б'ецца рытме! —
І ён сарваўся, быццам утрапёны,
І выбег, бразнуўшы на ўзмах дзвярыма.

Яцына
Антон Ляксандрыч!.. Слухайце!.. Яновіч!..—
Загаласілі дзверы ў калідоры,
Забразгаталі пошчакам дубовым,
І загайсала рэха па канторы.

## XI. Яновіч дома

Сцелецца пыл над сялом,
Быццам бы цёмны туман;
Вецер цалуе крылом
Белыя грудзі хмар.

Сонца на захадзе, глянь,
Косы павесіла ўдоўж;
Дыхае спёкай зямля —
Будзе, напэўна, дождж.

Вось ад таго грабары
Жвава шпурляюць глей,
Рупяцца больш муляры,
Кельні звіняць званчэй.

Толькі Яновіч адзін
Кінуў рабочы свой дзень:
Смутак душу астудзіў —
Дзе ж яго шпурыць, дзець?

Можа, у вір утапіць —
Горкаю стане вада;
Кінуць на сцежку, у пыл —
Дык узрасце бяда.

Як жа куды яго дзець,
Каб не знайшоў аніхто?! —
Сумны Яновіч ідзе,
Вочы свідруюць дол.

Вось і драўляны ўжо дом,—
Стройны, высокі фасад...
Трое дзяцей пад акном
Садзяць маленькі сад.

Крокі пачуўшы, бягуць
Радасць сваю расказаць,
Смех асыпаецца з губ,
Быццам з травы раса.

Сціснулі колам жывым,
Ярка звіняць галасы:
— Ну, адгадай жа, аб чым
Будзем цябе прасіць!

Яновіч утомна садзіцца на ганку,
Каб выслухаць просьбы, каб гора суняць:
— Купі мне, татуля, маленькую ляльку!..
— Купі мне, саколік, жывога каня!..

— А мне, мой харошы, купі лепей трактар —
Люблю я прасторы бяскрайнія ніў;
Як стану вялікім, каханы мой татка,
Пайду й запішуся тады ў калектыў.

Развеялі дзеці утому і смутак,
Гаворкай ласкавай да працы завуць;
Ізноў утрапёныя кружацца думы,
Шчапаюць, нітуюць ізноў галаву;

«У імя наступных нашчадкаў камуны
Не смей адступіць ані кроку назад:
Ты чуў і ў гаворках рабочых чыгункі,
І ў просьбах дзіцячых —
няўхільны загад!»

Яновіч

На вір цёмна-сіні ідзі, мая жальба,
Гартуйся ў змаганні, збянтэжаны дух!
Куплю, мае дзеці, і трактар і ляльку,
Бяжыце гуляйце... я ў хату пайду.

Зацвіў і адцвіў над балотамі вечар,
І ноч надышла па халоднай зямлі.
Яновіч, ссутуліўшы вузкія плечы,
Канчае кароткі і экстраны ліст.

«...Варожасць Яцыны амаль што дазнана,
Чакаю загаду, што далей рабіць.
Наконт выканання намечаных планаў —
Дваістай гаворкі не можа і быць».

Рашуча пастаўлена цвёрдая кропка,
Як быццам хістанняў — зусім не было...
Схіляецца галаў ніжэй на ўзлакотках,
І сон ахінае маўклівым крылом.

### XII. Змова

Не спіцца Яцыну, утульны пакой
Трывогі ніяк не разгоніць.
А вецер шуміць і шуміць над ракой
І хмары за хмарамі гоніць.

Яны аблажылі увесь небакрай;
Далёка у засціле чорнай
Жывыя маланкі намітусь гарачь
І коцяцца рокаты грому.

Яцына
Якая нервовая, вострая дрож!..
Чаго там баяцца, што будзе? —
Ў цяжкую хвіліну навостраны нож
Разрэжа заблытаны вузел.

Няма у забойстве злачынства ніяк —
Адкрыта гуляюць дзве масці,
Калі перамогу дастану не я,
Дык, значыцца, ворагу шчасце.

Чаму гэта толькі дагэтуль няма
Супольнікаў верных і чынных?
Хутчэй бы развеяць загадкі туман
І вырашыць: жыць ці загінуць?

Старожка Яцына глядзіць у акно,
Заходзіцца сэрца ў трывозе:
Навокала хмурая, чорная ноч,
Нікога нідзе на дарозе.

Ізноўку руплівай, паспешнай хадой
Яцына знервована крочыць,
І доўгія цені растуць аж пад столь,
А з імі — іх зубы і вочы.

Здаецца, імкнуцца за шыю абняць,
Заціснуць у клямарах костак...

Яцына
Няўжо ў гэтым вобразе — сіла мая?
Якая агідная постаць!

Каб здань адкаснулася — песню вядзе,
І, бровы нахмурыўшы строга,
Ізноў да акна устурбованы йдзе,
Упарта глядзіць на дарогу.

Ні ценю у чорнай смузе не відно,
Маўкліва у цемені крохкай.
Апоўначы толькі пад нізкім акном
Пачуліся ціхія крокі.

Яцына нячутна падбег да акна,
Заморгалі радасна вейкі;

Шырокую раму уверх прыпадняў,
Паклікаў цішком чалавека:
— Пралазьце!.. Цішэй толькі...

Незнаёмы (пралазячы)

Хоць заскандаль,
Ніхто не пачуе, не ўбачыць...

Яцына

Чаму гэтак позна з'явіліся, Фальц,
Насцігла якая няўдача?

Фальц

Не мог жа я коней у вёсцы узяць,
Прыйшлося ісці аж на хутар.

Яцына

Я думаю, трэба... пара пачынаць,
Бо стане зарэць ужо хутка.

Фальц

Ноч цёмная, коні паблізу стаяць,
Дамчаць да мяжы за хвіліну.

Яцына

Вяроўку ўзялі?

Фальц

Навошта пытаць?
Ёсць нават піла і драбіны.

Яцына

Я дзякую вельмі!

Фальц

Пакіньце сабе
Падзяку для модных салонаў:
Не за падзяку сюды я прыбег
Аж з-за мяжы, як шалёны.
Збірайцеся!.. Дайце сюды мне нажы!

Яцына

Мне страшна!..

Ф а л ь ц

Хаця не заплачце!

Я ц ы н а

І сэрца балюча, трывожна дрыжыць!
Што станецца тутака з бацькам?

Ф а л ь ц

Пакіньце вы хныкаць!.. Сабралі усё?
Не трэ забывацца нічога...
Гатовы? — ў дарогу!

Я ц ы н а

Ісці, то ідзём,
Але не зусім у дарогу.

Схіснуўся ад лямпы за вокнамі бляск,
І цемень лягла на экране;
Зашастала глуха сухая зямля,
І бразнула ціхенька рама.

## XIII. Навальніца

Вецер біўся, качаўся раз'ятраным зверам,
Бразгатаў у акно, аканіцамі ляпаў;
Пазляталі з прабояў дубовыя дзверы
Пад ударам ягонай вялізманай лапы.

Прахапіўся Яновіч, утомлены снамі:
Быццам струны, напяты трывогаю нервы...
Ўсё імчацца, лятуць над палямі, лясамі
Бліскавіцы-маланкі, як коннікі верхам.

Нагінаюцца долу стагоднія клёны,
Мітусяцца натоўпы спалоханых сосен,
І ніштo не стрымае навалы шалёнай,
І ніхто сабе літасці кроплі не ўпросіць.

Толькі думы бунтуюць вялікасцю ведаў
Супраць гнеўнай і грознай і дзікай стыхіі:
«Пачакай, яшчэ прыйдзе чарга да сусвету,
Перад большаю сілай ён голаву схіліць.

Мы прымусім навалу мільённаю воляй
Пакарыцца разумнай, разважлівай думцы,

І не будуць вятры-скавышы ў чыстым полі
Бунтаваць, узнімаць і чыніць рэвалюцый.

І не будуць маланкі гайсаць у прасторах:
Пойдуць сціпла на працу — на першую змену,
Да зямлі мы наблізім далёкія зоры,
І яны электрычныя лямпы заменяць».

Падуладны квяцістым лятункам і марам,
Упівацца Яновіч любіў бажавольна
Шпаркім лётам вятроў, скамянеласцю хмараў,
Іх магутнай красой, што ад сілы няўтольнай.

І цяпер, у шатрыстасці цемені плаўкай
Падышоў да акна на сусвет падзівіцца:
Нагінаюцца хвоі шумлівыя плаўна,
Прыпадаюць бярозы да долу аж ніцма.

Старасвецкія вязы махаюць чубамі,
І дубы векавыя шумяць беспрытомна;
Разлятаюцца гукі звар'ёванай гамы
І галосяць — рыдаюць у засціле цёмнай.

На застыглым экране — на чорных скрыжалях
Загараюцца лініі тонкіх маланак,
Рассыпаюцца дробнымі іскрамі ў далях
І зліваюцца з бляскам лясоў пазлацаных.

А пасля яшчэ больш зацвітаюць агніста,
Як шаўковых істужак празрыстыя пасмы,
Кутасы залацістыя звесіўшы нізка,
Зіхацяць, шалясцяць, замаўкаюць і гаснуць.

І далёка, ў цішы пачарнелага змроку,
Дзесьці там — за гарамі, у іншай краіне,
Узнімаецца роўны, прытоены рокат
І плыве над балотам, як лямант звярыны.

Разрываючы чорнае месіва ночы,
Штохвіліны ўсё бліжай і бліжай той рокат,
І вось грозна ужо над канторай рагоча
І грыміць вокамгненна ізноўку далёка.

Выдаецца: вясною, у мораку сінім
Чараду на зарэз выганяюць на бойню;

Зарыкалі каровы працяжна і сіпла,
Бо няма ані сілы, ні дужасці гойнай.

Ай як хочацца ім на зялёную пашу,
Дзе разносіцца водар квяцісты, мурожны,
Толькі пахне трава нечым даўкім і страшным,
І зачмыхалі ўсе неспакойна, трывожна.

Гэта цёплая кроў пацякла на іржэўнік...
Усе сілы сабраўшы змагацца са згубай,
Зараўла чарада, аж зямля задрыжэла,
І замоўкла, зацяўшы ад роспачы зубы...

— Што за блытаны сон?.. А ці гэта ад зморы
Я ў бяссонні убачыў міраж каляровы?..—
Сам з сабою Яновіч паціху гаворыць,
Але рэхам чужым адклікаюцца словы.

А навала шуміць, і шуміць, і не моўкне,
Дождж ліецца халодны, сякучы і косы;
Да касцей ужо клёны і сосны прамоклі
І дрыжаць палахліва у цемры бялёсай.

Закружылася раптам на фоне пярэстым
Тонкай рысай маланка, як згіблены протар,
Завілася, як стромкі віецца пярэступ,
І прабіла страху над кантораю потырч.

Зашастаў вецер крыллямі,
Узняўся слупам дым,
Рукамі чорна-сінімі
Схапіўшы правады.

Заружавела іскрамі
Ад сполаху страха,
І вось — праменні бліскаюць
Над камінамі хат.

Над змрочнаю кантораю
Вялізманы стажар;
Гайсае над прасторамі
Адзіны крык:
— Па-жар!..

## XIV. Пажар

У змроку постаці бягуць,
За імі гоніцца іх сполах,
Аж зацінае ў грудзях дух
І на кавалкі рвецца голас.

Навокал лямант, сумятня,
Бо ноч спакойная памерла.
І нехта сіліцца суняць,
Уплапаваць вар'яцкі вэрхал:

— Імчы па бочкі у павець,—
Пажар не стушыце адвагай;
Найменей трэба вар'яцець,
Найбольш — халоднае развагі!

Яновіч з домыслу пазнаў
Па цвёрдым голасе Гафрона...
Натоўп суняўся і адстаў,
Бягуць адзінкі толькі гонна.

Яновіч першым ад усіх:
— Хутчэй, каб выратаваць планы! —
Кантора ў блясках залатых
На чорным фоне — шэрай плямай.

І вось вялізманым хвастом
Махнула полымя па сценах,
І захліпнуўся увесь дом,
Пабеглі спуджаныя цені.

Вось-вось абрушыцца страха,—
Агонь трасе шалёнай грывай.
— Яшчэ хвіліну, і няхай,
Няхай тады будынак рыне!..

Не буду нават шкадаваць,
Каб толькі выратаваць планы...
Нашто было так будаваць,
Нашто паверх адзін драўляны?

Хутчэй, хутчэй, яшчэ хутчэй!..
У грудзях схлупілася гара,

А радасць блiснула з вачэй
Ясней ад полымя пажару:

Агонь да краю не дайшоў,
Яшчэ спакойна ў кабiнеце.
I толькi дым, як чорны шоўк,
Хавае тайны у сакрэце.

Але дармо, бо хтось даўно
Паставiў стромкiя драбiны...
I праз хвiлiну у акно
Пралезла згорбленая спiна.

Ступае боязна унiз,—
Высока з трэцяга паверха.
Гатоў Яновiч слацца нiц,
Вачам сваiм не хоча верыць:

Нясе сутулы чалавек
Пад пахай сцiснутыя папкi...
Вось там Яновiчаў праект
I планы будучае аркi.

— Цi сам прыйшоў, цi хто прыслаў?..
Адкуль, калi прынёс драбiны?..—
I раптам думка удала,
Узвiўся просьбы крык: — Яцына!

Суняўся, глянуў чалавек
I задрыжэў сутулым целам,
I папка з планамi навек
Увысь наводшыб паляцела.

Паперы белыя лiсты
Адну хвiлiну пакружылi
I ў хвалях полымя густых
Гаркавым дымам заiмжылi.

Яновiч быццам скамянеў,
А чалавек (ён быў Яцына)
На землю вiхрам паляцеў,
Мiнуўшы выгаду драбiны,

I вокамгненна знiк у змрок...
— Трымайце злодзея, трымайце!..—

Але слядоў не бачыў зрок,
Кусаў Яновіч свае пальцы:

— Знайду яго, куды б ні бег!..
Набраклі вочы дзікім смехам,
Сарваўся з вуснаў гэты смех,
Заекатала ў лесе рэха.

## XV. Думы над лёсам

Пагода трымціць пазалотаю,
Прыгожая летняя рань.
Такою часінай з ахвотаю
Выходзіш настроі збіраць.

Пачуцці звіваюцца нізкамі,
І думы суладнасць снуюць:
Далёкія лучацца з блізкімі,
Цвятлівяць надзею тваю.

Уцеху даюць падарожную —
Яна для самоты урон.
Такою часінай прыгожаю
І выйшаў на ляды Гафрон.

Быў тыдзень бядою надзелены:
Пакража, варожасць, пажар...
— Падумай, Гафрон, над падзеямі,
Нядарам жа ты сакратар

Партыйнай ячэйкі. І добра ўсё
Прадумай, як працу пачаць...—
Жывыя малюнкі і вобразы
Стаяць неадступна ў вачах:

Аблічча рабочых задумныя,
Суровыя твары ў сялян,
Усе загадалі, задумалі,
Як здзейсніць намечаны план.

Паклікаць упэўненым голасам —
І стануць на працу яны
З вялікаю сілаю волатаў,
Сучаснасці нашай сыны.



Дэкада беларускай літаратуры
і мастацтва ў Маскве, 1940 год.
Першы злева — Пятро Глебка.



Максім Лужанін
і Пятро Глебка. 1946 г.

Бо сэрцы да краю напоены
Узрочыстым сокам жыцця;
Усе перашкоды адхонамі
На вір цёмна-сіні зляцяць.

Бо грудзі уздымам распалены,
Шукае вытокаў агонь.
— Падумай уважна над планамі,
Падумай, таварыш Гафрон!..

Як цені дарог неразведаных,
Маршчыны ляглі на чале,
І кожная — вернай прыкметаю,
Што творчая думка жыве.

— Пагутарыць трэба з Яновічам:
Даволі яму вандраваць,
Хай зноўку за працу становіцца,
Хай зноўку ідзе кіраваць.

А сёння ці заўтра увечары
Наладзім адчынены сход,
Пытанням вялікім прысвечаны:
За новы — ударны — паход.

Гамонкай вясёлаю, шумнаю
Сустрэнуць рабочыя план,
Нядарам абліччы задумныя,
Суровыя твары ў сялян!

Гудок гаваркою сірэнаю
Паклікаў на працу ісці,
І цвёрдай хадою, упэўненай,
Ідзе бальшавік у жыцці.

І лёс не напоіць нас шаламі
І не завядзе ў растанцы,
Бо самі віём, развіваем мы
Яго суравыя канцы.

Калі ж на лятункавай выгадзе
Увысь узлятаем угрунь,
Дык толькі разведаць і выглядзець
Для творчасці плённае грунт.

## XVI. Трывожныя прыкметы

Спахмурнеў знепакоены дом,
Не ад старасці нізка схіліўся:
Чорнай зданню прайшло пад акном
Падасланае ворагам ліха.

Занядбаны і кнігі і стол,—
Гаспадар заклапочаны іншым;
Дым віецца высока пад столь,
Ад маркоты становіцца сіньшым.

Але смутку агнём не спаліць,
Не развеяць ні плачам, ні песняй,
І маўкліва Яновіч стаіць,
Углядаецца ў далі балесна.

Нехта ходзіць, здаецца, ў бары,
Нехта блудзіць у змроку лагчыны,
Нехта крадзецца там з-за гары...
— Гэта ён, гэта, пэўна, Яцына!

Вось на ганку ўжо крокі чуваць,
Адчыняюцца з скогатам дзверы:
— Выбачайце, мы з працы да вас
І наведаць зайшлі інжынера.

Паціскаюць ласкава руку:
— Ну калі ж вы?..
— Прыходзьце на працу!

Я н о в і ч

Як жа так? А Яцына?.. Пакуль
Адшукаць яго буду старацца.

Не падумайце толькі — вар'ят!
Я знайду яго?.. Праўда?.. Бясспрэчна?..—
Словы болем шалёным гучаць,
Хто ж адважыцца ім супярэчыць?

— Ды напэўна ж... Бывайце, пакуль!..
Пажадаем пазбыцца вам ліха,—
Паціскаюць на ростань руку
І хістаюць галовамі ціха.

У пакоі застаўся Гафрон:
— Пагаворым, Яновіч, на згоду...
Шлюць рабочыя шчыры паклон,
Запрашаюць на працу прыходзіць.

Добра ведаеш, як без стырна...
Нам патрэбна тваё кіраўніцтва.
Просьбу нашу павінен прыняць,—
Перашкоды ўсе схіляцца ніцма.

Даўся вельмі Яцына табе,
Не турбуйся — яго пакараюць,
Але мусіць далёка забег,
Як гаворадь, да панскага краю.

Устрывожаны бліснуў агонь
У вачах неспакойных Алісы;
І заўважыў Гафрон, як бягом
Перабеглі трывожныя рысы.

Думка згадку яму падала:
«Ці не стала Аліса прычынай?
Але ж не, яна заўжды была
Добрай жонкай, сумленнай жанчынай.

І відаць, у прадонні вачэй
Гэта скруха была, а не сполах...»
А тым часам званчэй і званчэй
Разліваўся Яновічаў голас:

— ...Ён жа сэрца маё абакраў,
Ён душу маю кінуў нішчымнай.
Я не хочу яго ні караць,
Ні судзіць за варожасць учынкаў.

Я хачу толькі кроўю яго
Да хваробы упіцца, набракнуць,
Каб вярнуць маладосць маіх год,
Каб тварыць маю любую арку.

Сам ты знаеш, таварыш Гафрон,
Колькі смерці і дзікай і лютай
Творыць наш, чалавечы, закон
Для адных перамог рэвалюцый!

А каб арку адну збудаваць,
Што злучала б працоўных сусвету,—
Без паўстанняў, ахвяр і адваг
Дасягнулі б вялікае мэты.

Гафрон

Не магу я цябе зразумець,
Гэта вельмі рамантыкай пахне;
Ад такіх разважанняў мне смех,
Бо вядуць яны толькі да багны.

Толькі ў бойцы народзіцца дзень,
Што зnітуе працоўных сусвету...
Рэвалюцыя блізка ідзе,
І яна давядзе нас да мэты.

Яновіч

Ты зняславіў лятункі мае,
Ты рамантыкай клічаш узлёты...
Як і ўсе, ты — драпежнік і звер,
Адкідаеш вышыні, ясноты!

Гафрон

Варта толькі тады узлятаць,
Калі грунт пажадаеш агледзець,
А лятаць для таго, каб лятаць,—
Адракліся цяпер нават дзеці.

Кінь і думаць пра планы свае,
Будзем жыць тады ў зладзе, у згодзе...
Калектыў наш на працу заве,
Заклікае, каб хутка прыходзіў.

Яновіч

Ты вар'ятам мяне палічыў,
Але я ўсё ж свайго дамагуся.
Забярыце праекты, ключы,
Я на працу пакуль не вярнуся.

Гафрон

Развітаемся... Што ж, калі так!..—
І Гафрон вокамгненна прыкмеціў:
Зірк вачэй ярка-вогненным стаў
І далёка блукае па свеце.

Сапраўды ён пачаў вар'яцець?..
Дзе ж ратунак?.. Няўжо так і высах?..
Аглянуўся — стрывожаны цень
Мільгануў на абліччы Алісы.

Зноўку холадам белым чала
Захаваць хоча цень яна дбайна,
Але думка такі працяла:
Жонка ведае гэтую тайну!

## XVII. Сход

Дым сцелецца засцілай горкай,
Як сіня-бялёвы туман,
Калышуцца словы гаворкі:
— Брыгады...
спаборніцтва...
план...

Гамоніць людская паводка
Узбуджаным гоманам хваль;
Пранізлівы, ярка-кароткі
Падалі чацвёрты сігнал.

Сціхаюць, змаўкаюць размовы,
Згасаюць у зале агні...
Гафрон урачыстай прамовай
Пашыраны сход адчыніў.

Гарэць яго чорныя вочы...
Звычайны ў жыцці чалавек
Вось тут — ў калектыве рабочых —
Вялікім героем жыве.

Бо сілу і волю адзінкам
Заўсёды дае грамада:
Знітуе настроем адзіным,
Гіпнозам запал перадасць.

Ад гэтага стройная постаць
Яшчэ выглядае страйней,
І словы упэўнена-проста
У гурце звіняць выразней.

Гафрон

Вас на сход сюды паклікаў
Дасягненні й недахопы
Падлічыць у час вялікі
Нашай творчае эпохі.

Мы — сыны працоўных класаў
Узышлі ўжо на арэну...
Ды нашто тачыць балясы,
Словы траціць надарэмна?

Вам не менш вядома роля
І не менш вядома мэта:
Здабываем сваю долю
Для працоўнага сусвету.

Мы не згубцы чалавецтва:
За жыццё людзей бунтуем,
А ў змаганні ёсць калецтвы
Ды і смерці не бракуе.

Але зерне творчай працы
Дасць багаты плён і шчодры.
Будзем біцца і змагацца,
Будаваць упарта й добра!

Як жа йдзе у нас работа?
Вам усім вядома, здэцца,
Што у выніку прыгоды
Засталіся мы без спецаў.

Развінуліся падзеі:
То пакражы, то пажары;
Ад нядзелі да нядзелі
Час патрацілі як дарам.

За хвілінаю — часіна,
За часінаю — і днёўка:
Едзе лета ў адпачынак —
Не дасі адтэрміноўкі.

Але покуль дзе прыпынак
Яно знойдзе на папасе —
Апавесцім безупынку,
Каб вярнуць растрату часу.

А каб сіле даць магчымасць
Развінуцца больш у радасць —
Мы згуртуемася шчыльна
У вытворчыя брыгады.

Каб у працы рупнай, сціплай
Гаманілі сэрцы звонка —
На спаборніцтва паклічам,
Гэта значыць — на дагонкі.

Але ёсць у нас апаска,
Перашкодаў вельмі многа:
Мы ж працуем самапасам —
Ні дырэктара ж, нікога...

Два лядаштых інжынеры,
Ды і тыя круцяць носам,
Мы таксама ім не верым,
Паглядаем такжа скоса.

Прыязджалі ўчора з трэста,
Аглядалі, дазнавалі...
Нарабілі шуму, трэску,
А карысці вельмі мала.

Абяцалі ў хуткім часе
Даць дырэктара на змену...

1-шы рабочы

Ты на іх не спадзявайся,—
Тыдзень пройдзе, сама меней,

Покуль спецаў дзе абмацаць,
Адшукаць, знайсці пашэнціць,
Кіраваць усёю працай
Трэ паставіць вылучэнца.

Бо з якой, скажы, уцехі
Супыняць работу, ўрэшце,—
Што Яновіч з глузду з'ехаў,
Што сядзяць чынушы ў трэсце?!

Кожны дзень, хвіліна нават,
Даражэй цяпер за вечнасць,

І спыняць на тыдзень справы —
Будзе проста недарэчна.

Гафрон

У прамове, як у казцы,
Хутка робіцца і слаўна,
А скажыце, калі ласка,
Ці падолеем на справе?

Галасы

Ўсё падолеем і зможам!..
Кіраваць ты сам бярыся...
Ды глядзі, брат, асцярожна,
Каб не зблышыў, не змыліўся!..

1-шы рабочы

Што мы — зломкі?.. Ці няўмекі?..

2-гі рабочы

Сапраўды, якое дзіва:
Не заменім чалавека
Цэлым нашым калектывам?!

Галасы

Праўду кажа!..
Час, здаецца,
Мець людзей сваёй гадоўлі.
Кожны быць павінен спецам
Дзён вялікае будоўлі!

Гафрон

Пачакайце, трэба ладам:
Па чарзе бярыце слова!

Галасы

Мы не ўмеем доўга ладзіць
І не здольны на прамовы...
Ды й раней абсаймавалі,
Што і як цяпер такое...
Вось бяры і, як казалі,
Запішы у пратаколе!..

Гафрон

Як вялізманую радасць,
Запішу на ўсю balonку:

«Ўсе злучаюцца ў брыгады
І выходзяць на дагонкі».

Г р а м а д а

Як вялізманую радасць,
Запішы на паўбалонкі:
«Ўсе злучаемся ў брыгады
І выходзім на дагонкі.

З той прычыны, што Яновіч
Адказаўся справы весці,
Хоць дырэктар яшчэ новы
Не назначаны ў трэсце,—

Каб з прастоямі не знацца,
Каб не мець ад іх урону,
Кіраваць усёю працай
Даручаецца Гафрону.

Заклікаем на падмогу
Нашых тэхнікаў як моладзь...»

Г а л а с ы

Ну і до!
І так замнога!
Хай запіша ў пратаколе!

Г а ф р о н

Усё запісана да толку,
Зачыняю сход на гэтым...
Вось не вырашылі толькі,
Як жа з нормай і разметкай?

Г р а м а д а

Што не вырашана словам,
Дык на справе стане ясным:
У спаборніцтвах — аснова,
У брыгадах — тэмп сучасны!

## XVII. Ударнікі

Супярэчнасці — твораць адзінства,
Перашкоды — упартасць нясуць;
Пераможна ідзе будаўніцтва,
На шляхах пасцілае красу.

Бо падзеі жыццё ўзбунтавалі,—
Нарадзіўся ў змаганні уздым,
Непакорная сілай навала
Згуртавала шчыльней калектыў.

Кожны атам праняўся настроем
І жаданнем людскім навылёт:
Апрануць у жалезныя строі
Занядбанае цела балот.

Стала сочнаю ціхая радасць,
Сэрцы поўняцца ёю да дна...
Весялосцю гуллівай брыгада
Сустракае Гафрона штодня:

— Ну, вазьміся, чырвоны дырэктар!..
— Гэта, брат, не паперы пісаць...
— Нешта цэглу кладзеш вельмі рэдка...
— Лепш і майстра не вырабіць сам...

І гавораць рабочыя ветла
Заклапочаным зіркам вачэй:
— Мы збудуем хоць сорак паверхаў,
Заглядай у кантору часцей.

Але цяжка Гафрону расстацца
З малатком працавітых людзей,
І пасля кабінетнае працы
Ён на змену прыходзіць штодзень.

Галасы гаварлівай машыны
І людскі знепакоены рух...
Даганяе цагліна цагліну
На далонях Гафронавых рук.

Ды ніяк не падолеюць спрыту,
Даганяюць хай сотню гадоў:
У размераным рухамі рытме
Лягуць роўна цагліны ў радок.

Толькі дум не ўтаймуеш шумлівых;
Толькі зірк адвінуўся удаль —
І сустрэўся з другім — палахлівым,
І ягоныя тайны згадаў.

Тады думка звілася капрызна
І ўжо кліча, і голас чуваць:
— Пачакайце хвілінку, Аліса,
Я пра штосьці хачу запытаць!

Прыпынілася постаць наводдаль,
Прытаіўшы пужлівы агонь;
Па дашчаных адхонах усходаў
З рыштавання спяшае Гафрон.

Прывіталіся моўчкі за рукі,
Выбіралі дарогу наўгад,
Адыходзілі — слухалі грукат:
Пераклічку вячэрніх брыгад.

1-я брыгада

Пагулянкі — прагулы
Зваяваны дашчэнту;
Здалі нормы агулам
Сто дванаццаць працэнтаў.

Гэта — першая радасць,
Але будзе уцехай:
Ад ударнай брыгады —
Да ударнага цэху!

2-я брыгада

Узрасла прадукцыйнасць
У сягонняшняй працы,
Але будзе злачынна,
Каб на гэтым застацца.

Мы пашырым уцеху
Яшчэ большай ахвотай:
Ад ударнага цэху —
Да ударных заводаў!

3-я брыгада

Без датацыі сродкаў,
Па сягонняшніх даных,
На пятнаццаць адсоткаў
Перавышаны планы.

Але такжа з ахвотай
Прымем заклік агульны:
Ад ударных заводаў —
Да ударнай камуны!

Усе брыгады

У нас выстарчыць спрыту
І жадання даволі!..
Творцы новыя прыйдуць,
Што жывуць у няволі.

Будзе заклік агульны
Да адзінае мэты:
Ад ударнай камуны —
Да камуны сусвету!

## XIX. Тайна застаецца тайнай

Прысады (бяроза і дуб)
Вячорным напоены шумам...
Дзве постаці моўчкі ідуць,
І ў кожнай асобныя думы.

Гафрон над усхонамі гор
Любуецца ростам будоўлі:
Такі неаглядны прастор,
І шлях высцілаецца доўгі!

Далёка, на ўскраі балот,
У мораку новага тракту,
Дзе некалі — твань навылёт,
Паўзе заклапочаны трактар.

Крыжуюцца, ў бляску зїхцяць
Вадою іскрыстай каналы;
Наводдаль, як горы, стаяць
Будынкі ў цьмяных пакрывалах.

Шчыльней захінае туман
Кастлявыя іх сілуэты,
І вось яны гінуць... няма...
Агні толькі ў засціле свецяць.

Іначай шасцяць верасы,
Адменнымі сталі прасторы:
Загінулі багны,
лясы,
Радзіўся й выраствае горад.

«Як хутка змяніла зямля
Свой выгляд пануры і сонны!»
І радасць задумна лягла
На смуглым аблíччы Гафрона.

Зайздросна глядзела у твар
На радасць чужую Аліса:
«Якí ў яго змучаны твар
І цвёрдасць у рэзкіх абрысах!

Якія агні у вачах
У круглых, вялізных, шырокіх,
І мужная сіла ў плячах,
І стройнасць у стомленых кроках!»

Хацелася з ім жартаваць:
Стаяць над глыбокай магілай,
Каб ён бараніў, ратаваў
Сваёю звярынаю сілай.

Сказаць пра таго... пра закон...—
Расло неадступна жаданне,
Але нечакана Гафрон
Суровае кінуў пытанне:

— Вы жонка Яновіча? Так?
Вы смерці жадаеце мужу?

А л і с а

Нашто вам пра гэта пытаць?
Пакіньце! Іначай я мушу...

Г а ф р о н

Яновічаў лёс і жыццё
Залежыць ад гэтых пытанняў:
Калі вы раскажаце ўсё,
Да кроплí маленькай, дазвання —

Ратунак мы знойдзем тады,
Бо знішчым хваробы прычыну...
Скажыце... далёка сляды?

А л і с а
Чые?

Г а ф р о н
Ну, вядома, Яцыны!

А л і с а
Не ведаю!

Г а ф р о н
Кіньце дурэць!
Якога вам ліха баяцца?!

А л і с а
Узяць прапануеце грэх,
Душой на пакуты аддацца?

Г а ф р о н
Ах, так?.. Дык вы знаеце ўсё ж!

А л і с а
Хто гэта сказаў?.. Я нічога,
Нічога не знаю, бо лёс
Вядомы адзінаму богу...

Г а ф р о н
Даволі лухту гаварыць!
Я ведаю вас ад маленства,—
Якую ж прынесла карысць
Пакутнае ваша маленне?

Вас білі, плявалі у твар,
А вы даравалі, цярпелі.
Забыўся ваш бог шкадаваць
Пакутнае сэрца і цела.

Чакае лёс гэты дзяцей,
Калі за міфічнага бога
І крыўды і здзекі цярпець...
Вы скажаце што ці нічога?..

Аліса
Гафрон, пашкадуйце мяне,
Не мучце, пакіньце, ідзеце!..
Нічога не ведаю!..

Гафрон
Не?..

Аліса
Ах, дзеці! Няшчасныя дзеці!

І чорнай касы яе шоўк
Развіўся на плечы з-пад шалю...
Гафрон павярнуўся й пайшоў,
Ірвалася сэрца ад жалю.

— Чакайце! — хацела крычаць,
А пальцы ўпіліся у горла:
Дарэмна! Далёка... Чуваць,
Сыходзіць, мінае узгор'е.

## XX. Сны вар'ята

Агні патушаны, завешана акно,
Каб не прабіўся бляск і галашэнне ночы;
Ахутаны знервованым, трывожным сном,
Як беспрытомны вой, заснуў Яновіч.

Звісае цяжкая з падушкі галава,
На ўзмах адкінута чарнявая чупрына,
На шчоках плямы, быццам хто нацалаваў,
І пальцы дрыгацяць, як лісце на асінах.

Дванаццаць выбіла... Скруцілася рука,
Трасецца галава ў вар'яцкім утрапенні:
Сышліся здані зноў насмешліва скакаць,
Закалыхаліся іх змучаныя цені.

Няма бо ў целе іх ні сэрца, ні душы,
І толькі косці бразгацяць, кагосьці ловяць.
— Ага, яны мяне імкнуцца задушыць! —
І дзіка закрычаў у роспачы Яновіч.

Шалёнай плоймай здані рынулі ў акно,
Замітусіліся, забразгалі балонкай...

Вось чаму
Не хачу й не магу
Адзіноты свае патурыць:
Я самотных людзей берагу
І здымаю з іх тонкую скуру,
На далоні душу бяру,
Разразаю на часткі глыбока,
І тады —
Даручаю пяру,
І тады —
Станаўлюся прарокам.

Пэўна, вырас бы ў злосны учынак
Самахвальства майго пастулат,
Але шэнціла нейкай дзяўчыне
Заблудзіць ля майго стала.
Яна віхрам прайшла кабінетам
І адразу пайшла крышыць:
Напішы,
Калі ты паэта,
Біяграфію нечай душы.
Пражывала там некалі недзе
Маладая такая Кармэн —
Не то лэдзі,
Не то мілэдзі,
Не то ў Слуцку,
Не то ў Карме.
Словам,
Прывіды галюцынацый
Перайшлі цераз край уваччу.
Я гатоў быў сумленна прызнацца,
Што ніколі такое не чуў.

Але памяць мая і мудрасць
Спакусілі ізноў мяне:
Прыгадалася белая пудра
З чужаземнаю назвай «Кармэн».

— Значыць, вам напісаць агітку,
Каб ішоў парфумовы тавар? —
Не то з жалем,
Не то з агідай
Паглядзела дзяўчына ў твар:
— Вы залішне, паэт, наіўны —

Кармэнсіту кахаў Хазэ...
Гэта ёй
Перуновыя гімны
Прысвяціў кампазітар Бізэ.
Гэта к ёй —
Недаступна далёкай —
Як бацькоўскі да сына доўг,
Незвычайныя словы Блока
Перайшлі цераз горы гадоў.
Гэта з ёю
Лявоніха наша
І французская Жанна д'Арк
На бульварах спявалі маршы,
Каб сусветны узняць пажар.
І калі ты сапраўды паэта —
Неадкладна бяры і пішы
Напаказ занядбанаму свету
Біяграфію гэтай душы.

Што ты скажаш такой благое?
Усміхнешся таквеле чуць
І дасі абяцанне любое,
Абы крыку таго не чуць.
А пасля,
Дажджавым адвячоркам,
У лібрэта упяўшы зрок,
Будзеш слухаць такую гаворку,
Ад каторай сціскаецца кроў.
І нарэшце
Дырэктар Гітгарц,
А ці можа таварыш Норд,
Скамячыўшы цябе,
Як гідру,
Адыграюць апошні акорд:

— Каб даставіў у час інтэрмедыі,
Каб не болей,
Радкоў як на сто,
Каб фрывольнасць была камедыі
І трагічны не выпетраў тон.

Ты раз'юшаны гэтай пачосткай:
— Пачакай жа,
Мая Кармэн,

Я няшчадна цябе і жорстка
Адлучу ад твайго Мерымэ.
Я разбуру твае салоны,
Пасваруся нашчэнт з Бізэ,
Кропляй поту,
Атрутна-салонай,
Я спалю вас усіх пакрысе.

І, дахаты вярнуўшыся позна,
Калі зорамі высыпан сад,
Быццам хмара,
Пануры і грозны,
Я саджуся за стол пісаць.

Мой рабочы пакой —
Невялікі і просты:
Злева —
Кніжная шафа,
Направа —
Дыван,
А як глянеш з дзвярэй —
Перад поглядам проста
Літаграфскі малюнак
Палёў гаалян.

Цэлы кут ля акна
Заняла этажэрка,
Перадаўшы паліцу
Пад Ленінаў бюст;
Наўкасы аркушы рукапісаў
На жэрдках
Паразвешаны скрозь
На пісьменніцкі густ.

Міжваконны прамежак
Таксама замошчан,
Ля сцяны падняліся
Паліцы пад столь...
Вось і ўся,
Як гаворыцца,
Наша жылплошча,
Бо два метры займае
Пісьмовы мой стол.

І скажы,
Дарагі мой чытач,
Калі ласка,
Дзе ж вялікае тут
Разгарнуць палатно,
Калі нават
І гэтай паэмы завязку
Перанесці даводзіцца нам
За акно?
Там —
Маёвая ноч,
На калюшках шыпшыны
Ацяжэла раса,
Аж асыплецца вось...
Можа так і пачаць?
Але гэта дзяўчына
Зноў прыходзіць,
Капрызна падняўшы брыво.
Што ёй трэба —
Такой,
Як вясна,
Сінявокай?
А яна запявае
З вятрамі у лад:
— Дагані
І вярні
Свае думкі здалёку,
Каб сучаснасці дзель
І ў мінулым была.
Каб спявала цыганка,
А словы дзяўчыны
Галасілі,
Як горы,
Лясы
І зямля,
Каб пазналі,
Што й наша старая айчына
Векавую гісторыю
Горда прайшла.
І не сілай развааг
І халоднай здагадкі,
А навальнай паводкай
Твайго пачуцця
Ты падымеш яе,

Пранясеш цераз кладкі —
Гэту дужую сілу
Чужога жыцця.
І радкі непачатых
Тваіх інтэрмедый
Перакрыюць гучаннем
Гучанне вякоў,
І з далёкага даўняга
Рокатам медзі
Адгукнуцца і крыкі
І стогны рабоў.
Пакідай жа самоту
І смутак турэмны,
Я цябе павяду
У далёкія дні,
Дзе грымеў ланцугамі
Народ пад'ярэмны,
Дзе надземнай красы
Палыхаюць агні.
Пакідай жа свае
Спарахнелыя сцэны,
Я цябе павяду
На прасторы вясны!
Усміхаецца
Гіпсавым воблікам
Ленін,
А дзяўчына заходзіцца
Рэхам лясным.

— Адступіся,
Праклятая!..
Дай мне спачынак!
Я не хочу тваіх
Невыразных трывог.

А яна —
Сінявокая
Гэта дзяўчына —
Падымае ізноўку
Капрызна брыво.
Каб не ведаць спакусы,
Тамамі Граната
Адлучаю ад зор

І ад свету
Душу,
І пад літарай «Г»,
Адшукаўшы Гранаду,
Ноч наўсцяж
Без спачынку
Сяджу і пішу.

І пакуль за гарамі,
За пушчаю недзе,
Нараджаўся вясновы
Заранкавы дзень,
У мяне ўжо ляжала
Аж пяць інтэрмедый
Да вядомае оперы
Жоржа Бізэ.

Дзень паказу стаў на ростань,
Затрымцела зала ў люстрах,
І прыйшлі дзве роўных сёстры,
Ды няроўных толькі густаў.

Я сказаў ім:
— Добры вечар! —
Маладой руку пацісную.
І яна пры гэтай стрэчы
Падняла брыво капрызна.

Неўгамонліва вітала
Мой удзел у іх тэатры,
А пасля кагосьці шукала
На другім, здаецца, пятры.

Я стаяў,
Злажыўшы рукі,
Напусціўшы выгляд посны,
Бо тачыла сэрца скруха,
Бо расла нявера ў поспех.

І тады сястра малодшай
Пачала са мной гаворку:

— Не сумуйце!..
Мой харошы,

Разганіце смутак горкі.
Вы ж, напэўна, прачыталі,
Што пісаў калісьці Ленін
Пра культуру пакаленняў.
Шлях цяпер да славы просты,
Скрозь назначан яркай вехай,
Застаецца —
Стаць на ростань,
Асядлаць каня і ехаць.

Як жа мне было прызнацца,
Што,
На мой вялікі сорам,
Не кранулі мае пальцы
Ні балонкі з гэтых твораў.
І, абы сказаць што-кольвек,
Я сказаў сястры старэйшай:
— Гэта наш ружовы золак
Даў іспанскі колер вершу.

А сястра малодшай зноўку
Гаварыла гэтым часам:
— Вам дала ў красу пуцёўку
Маладая сіла класа.—
І пазней
(Ужо аж после
Першых крыкаў трубнай медзі).
— Я ручаюся за поспех
Вашых сціплых
інтэрмедый!

Але выдаў твар здзіўленне,
Замарозіў вусны холад,
Калі ў змроку з авансцэны
Прагучаў акторскі голас:

— Дарагія таварышы!
Мы стварылі паказ
Не для той,
што апранута ў золата, публікі.
Веліч дум і пачуццяў
мы неслі для вас,
Для сыноў маладых
маладое рэспублікі.

Вы прабачыце нам
недадуманы жэст,
Непатрэбную,
можа,
супынку між тонамі,
Але разам падымеце
грозны пратэст
Супраць тых,
што царылі
мячом і законамі.
Перад вамі разгорнецца
просты сюжэт:
Закахаўся Хазэ
ў Кармэнсіту,
каторая
Гадавала лятункі
пра волю
і свет...
Надзвычайна
звычайная
будзе гісторыя.
І таму
не шукайце
надзённых ідэй,
Пахваліўшы герояў
ад пят і да гузікаў,
А бярыце
імклівую
радасць людзей,
Што напоўнілі сілаю
песню і музыку.
Разрывайце вузлы
асабовых інтрыг,
Каб яны не заціснулі
рытмікі масавай,
І пад кволенькім пульсам
любоўнай ігры —
Вы пачуеце пульс
супярэчнасцей класавых.
Я гадаю,
што вы
запытаеце ўсе:
— Ці павінна Кармэн
авалодаць увагаю?

Яна іскру,
таварышы,
праўды нясе
Абяздоленых,
поўных
жыццёваю смагаю.
Яна мужна...
Ды зрэшты,
нашто гаварыць?
Каб суджэнняў чыіх
мае словы не ўразілі —
Прыглядайцеся лепш
да самое ігры,
А пакуль —
адлятайце
на крыллях фантазіі,
Уявіце Іспанію,
сонца,
базар,
Вартаўнічую будку,
цыгарную фабрыку.
Адыдзіце гадоў...
на сто дваццаць
назад,
На далёкія вуліцы,
поўныя фарбамі.
Ну,
ітак,
пачынаем...
Маэстра!
Смялей!..
Няхай павадкай
рокаты струн
разліваюцца.
Вы гатовы,
акторы?
Выходзьце хутчэй!
Запаліце пражэктар!
Заслона ўзвіваецца.
Цераз бераг галёркі
Пасыпаўся свіст.
І замоўк.
І прыйшла адзінота.
Я пачуў,

Як у садзе
Калышацца ліст,
Ашалёстаны ветрам,
Склізотай.
Над пагнутаю рампай
Нязграбны мой цень
Быў такі непатрэбны
І лішні,
Бо смяялася
Хіжаю самкай Кармэн
І сачыліся вусны,
Як вішні.
Калыхаліся круглыя
Дыні грудзей,
Выгіналіся рук
Лебядзіныя шыі,
Аплятalі вузей
І сціскалі тужэй,
Катавалі,
Гнялі
І душылі.
І пад гэтым праклёнам
Ніводзін жывы
Не скрануў цішыні і прасторы,
І фантазія несла
На злом галавы
Аж пад самыя цёмныя зоры.

Так на цягу гадзіны,
А можа і двух,
Чалавек не пачуў
Чалавечага слова,
Але музыка змоўкла,
Пражэктар патух
І апала цяжкая заслона.

Быў антракт —
Даўгі, як вечнасць:
У тунелях калідораў,
Загубіўшы чалавечнасць,
Кожны быў каханнем хворы.

А Кармэн хадзіла следам
І злучала рукі парна.

Сінявокай вобраз бледны
Прамільгнуў,
Як прывід карны.
І сястры старэйшай вочы
Паланіў агонь і вусціш,
І здавалася,
Што моўчкі
Галасілі яе вусны:
— Адлучыце гэту жрыцу
Бажавольнага кахання,
Каб яна асела крыцам,
Не дайшоўшы рыштаванняў.
І вітайце іншы вобраз —
Непакорнай Кармэнсіты,
Што ішла з жабрацкай торбай
І прасіла хлеба ў сытых,
Што агнём паліла замкі
З нарабованым багаццем!..
Адлучыце ж злую самку
І сваю Кармэн вітайце.

Я хацеў,
Наколькі змога,
Закрычаць трывогу тлуму,
Але іншаю дарогай
Папляліся нішкам думы:
— Што з такога стане крыку,
Калі спадчына культуры
Падлажыла гэты прыкуп?!

...Зноў ігралі уверцюру,
Зноў хістаўся цень мой чорны,
Пападаючы у такту,
Зноў чытаў актор напорна
Інтэрмедыю да акту:

— Упартая хада падзей
 нязменна
Вядзе далей герояў нашых.
Прайшлі яны
 імкліва авансцэнай,
І на паўцалі
 долі не дагнаўшы.

Ад інквізітарскіх
ярэм турэмных
Кармэн знайшла
ў натоўпе паратунак.
Тым часам
нечакана і дарэмна
Папаў Хазэ
у гэты пастарунак.
Ці то іронія
чыіх настрояў,
Ці лёс, як кажуць,
насваволіў,
Але ж
сапраўды
стаў салдат героем
Насупраць дум сваіх
і ўласнай волі.
За кратамі
ён цешыць сэрца стрэчай
З Кармэн прыгожаю,
вясёлаю дзяўчынай,
А з захаду
прыйшоў паволі вечар
І людзям загадаў
на адпачынак.
Кармэн знайшла
прытул у Лілас-Пасця,
Сярод бадзяг,
бяздомных і галодных,
Што пражывалі дні
лятункамі пра шчасце,
Што гадавалі гнеў
суровы і халодны,
Што стромаю маглі
навальна рынуць
На гандляроў
крывавага чырвонца,
Каб зваяваць
і нашчадкам пакінуць
Хоць месца на жыццё
пад кругам сонца.
Кармэн з Хазэ
таксама хоча стрэцца,

Каб выказаць яму
        сваю удзячнасць,
Але ж дзявочае
        такое сэрца,
Што выведаць яго
        надзвычай цяжка.
Ды што я станаўлюся
        ў роль прарока?!
Вы знойдзеце і самі
        праўды зерне.
Паўстане зараз
        перад вашым зрокам
Усімі занядбаная
        таверна.
Начамі тут,
        пакінуўшы свой кляштар,
Чырвонец тулячы
        за пазухаю душнай,
Сыходзяцца крадком
        манахі часта
Пацешыць жываты свае
        і душы.
Адсюль
        і пачынаем дзею зноўку...
Я слова вам перадаю, маэстра,
Каб вы
        аддалі дыспаноўку
І права на пачын — аркестру!

Рассыпаўся звонам акорд,
Не здолеўшы ў высі падняцца,
Замоўкнуў збянтэжаны хор,
Заглушаны громам авацый.

Узмах дырыжоравых рук,
Гнуткасць балетных ног,
Шалёных музык ігру —
Так не страчалі даўно.
Біўся далоняў пляск,
Біўся,
Бунтуючы кроў,
Біўся праз вокны
На бляск
Мутных шкляных ліхтароў.

— Што ж ты, паэт, стаіш,
Горбячы плечы свае?
Чуеш,
У вершах тваіх
Звярыная кроў пяе?!
Выйдзі і слова скажы,
Каб пакарыла стыхію.
Мы хочам спяваць і жыць
Іначай зусім, як другія!
Мы хочам культуру вякоў —
Набыткі вялікае працы,
Падняць
І паставіць ізноў
За нашую долю змагацца.
Каб словы —
Грымелі, як гром,
Каб словы —
Шумелі, як мора,
Каб словы —
Гарэлі агнём,
Каб словы —
Звінелі, як зоры!

Дзе ж мне набраць было сіл
На гучную песню мажору,
І я пагражаў і прасіў
Непаслухмяных актораў:

— Вы не чытайце слоў,
Каторых я вам не пісаў,
У вершах маіх не было
Ніякіх, здаецца, пісаг.
І ўсё ж такі зноў
непакорны актор
Чытаў тую ж лірыку
ветру і гор.
І вышай і вышай,
ямчэй і ямчэй
Голас ягоны
над залай гучэў:

— Там, дзе вецер
Шуміць і звоніць,
Дзе прыстанак знайшлі бегдякі,

Дзе няўладны былі законы
Каралеўскіх мячоў і рукі;
Там,
Дзе віхрам
Сляды замятала,
Не пакінуўшы жадных адзнак,—
На высокіх,
На дзікіх
На скалах
Пачынаецца трэці акт.
І калі скалыхнецца заслона
І павольна ўгару папаўзе,
На змайстраваных намі адхонах
Вы пабачыце дон Хазэ.
Ён заўсёды сумленна і шчыра
Каралю і айчыне служыў,
Але стаў праз Кармэн дэзерцірам
І прымушан з бадзягамі жыць.
Ды апрыкрала веліч прасторы
І лятункаў пра волю
Няма,
Бо ніколі не ведаў ён гора,
Не насіўшы цяжкога ярма.
І цяпер,
Ахінёны задумай,
Ён адзін сярод дзікіх цяснін,
І плывуць яго ціхія думы
Да радзімых утульных мясцін,
Да спакойнай сваёй нарачонай,
Да маўклівай старэнькай царквы,
Да севільскіх напеваў вячорніх,
Да малюнкаў,
Як памяць,
Жывых.
І калі скалыхнецца заслона
І павольна ўгару папаўзе,
На змайстраваных намі адхонах
Вы пабачыце дон Хазэ.
Пачынайце ж ігру,
Музыкі,
Каб герояў бадзяжных жарт
На высокіх
На скалах,

На дзікіх
Ракатаў і грымеў,
Як пажар!

Так урачыста
закончыў актор
Пажоўклую лірыку
ветру і гор.
І ён не паспеў
адступіць за кулісы,
Як строгія столкі
заслоны ўзвіліся.

Яна прайшла,
Як чорны вусціш
Ідзе праз морак і туман,
І не сачыліся больш вусны,
Не выгінаўся хіжа стан.
Аблашчаная скрозь рукамі
Да самых дальніх
Цёмных рыс —
Яна,
Успёршыся на камень,
Маўкліва плакала наўзрыд.
Але хапіла цвёрдай змогі
Сказаць Хазэ апошні раз:
— Ідзі ад нас сваёй дарогай
На спажыўны,
На свой папас.
Мы самі дойдзем цесным кругам
Да ясных дзён.
Да светлых рат...—
І паслухмяна валацугі
Выконвалі яе загад.
Хваленая вякамі самка,
Паэтамі прапетая наскрозь,
Вяла паліць на попел замкі,
Звярыную спаліўшы кроў.
Так вырас сціпла вобраз новы
Зняслаўленай,
Старой Кармэн,
Яму я сам шукаў асновы,
Але ніяк знайсці не ўмеў.
І я,

Пагардлівы,
Карыўся,
Далоняй у далонь пляскаў,
Калі адходзіла актрыса,
Калі партнёр яе знікаў.

Музыкі правялі іх маршам,
І змоўклі струны,
Змоўкла медзь,
Адно суладна сэрцы нашы
Не пакідалі доўга пецъ.

Я гэту песню слухаў дбайна,
Як слухаюць вялікі хор,
Тым часам
Зноўку аднастайна
Чытаў радкі мае актор:
— Мы бачылі з вамі,
як нашы героі
(Галоўных было,
калі помніце, трое)
То праўдаю чуць,
то няпраўдаю крыху
Вілі, развівалі
патроху інтрыгу.
Цяпер, з рэжысёрскай
ці з аўтарскай ласкі,
Мы хутка падходзім
да самай развязкі.
Хазэ,
занядбаны
сваёй Кармэнсітай,
Вярнуўся ізноў
да спакойных і сытых,
Дзе шуму няма,
апрача самавара,
Дзе добра насмажаць
і смачна наварацъ.
Наліха яму
над вяршаліны ўзлёты,
Калі ён і так
пражыве без клапотаў
Пад знакам апек
каралеўскіх законаў,



Пятро Глебка і Кандрат Крапіва
ў час работы над складаннем
беларуска-рускага слоўніка. 1950 г.



Вільнюс. Адкрыццё мемарыяльнай дошкі на будынку,
дзе ў 1907 — 1908 гг. жыў Янка Купала. Злева направа: Леў Озераў,
Ваціс Рэймерыс, Віктар Шклоўскі, В. Мікалайціс-Пуціпас,
Павел Кавалёў, Уладзіслава Луцэвіч, Костас Корсакас,
Пятро Глебка, Браніслава Гіра, Э. Кубіцкас,
намеснік старшыні гарвыканкома Кучынскас. 27 ліпеня 1952 г.

Пад вартай
драгунскіх
ліхіх эскадронаў.
Кармэн —
процілеглыя думы насіла,
І хоць бы не стрэла
зусім Эскаміллё,
Хазэ ўсё адно
занядбала б яна,
Бо ёй у цішы —
супакою няма,
Бо дух неспакойны яе —
не закован,
Бо ёй каралі —
не пісалі законаў,
Бо ў грудзях яе —
апаражана сэрца,
Яно на прасторы
шырокія рвецца.
І думку такую
Кармэн гадавала:
Вярнуцца ізноў
з Эскаміллё у скалы
І там,
з дружакамі бадзяжнай няволі,
Змагацца за лепшую,
светлую долю.
І вось Кармэнсіта
і дон Эскаміллё,
Мінаючы вёскі,
і вёрсты,
і мілі,
Адкінуўшы смутак
і песцячы радасць,
Спяшаюць
на бойку быкоў
у Гранаду.
Там шумны,
цвятлівы
натоўп каля цырку,
Там плешчацца сонца
у колерах зыркіх,
Там дзіўным узорам
звіваюцца цені...

Вы зараз пабачыце
гэта на сцэне.
Зайграйце ж, музыкі,
апошнюю песню,
Што ў сэрцы Кармэн,
як паходню, пранесла,
Што грозна грымела,
што трэсла палацы,
Што клікала мужна
за волю змагацца.
А вы, дарагія, таварышы з залы,
Каб дружнай авацыяй
нам адказалі.

Я не чуў,
Калі звіўся
Заслонавы зыб,
Бо распаліся сцены
І людзі аглухлі,
І пад тонкімі пальцамі
Першых музык
Цішыня разраслася
І залы набухлі.

Пашчапаўшы дашчэнту
Дзвярэй касякі,
Гукі маршу, як гром,
Паплылі калідорамі,—
Перад цыркам у танец
Ішлі басякі
І пад лёсам смяяліся
І пад гісторыяй.

Хто ж ім песню
Вясёлую гэту стварыў?
Дзе мне тайну знайсці
Іхняй мужнасці дзікай?
Пачакай,
Кармэнсіта!
Са мной гавары...
Пачакайце!
Са мною іграйце, музыкі!

Але голас фагота
Чамусьці асіп,

Вось і флейты сыгралі
Апошняе скерца,
І прыйшла
І лягла,
Як лавіна,
На ўсім
Цішыня і туга
Адзінокага сэрца.

Тады прайшлі няўлоўным ценем
Цераз парог маіх задум
Шуканні,
Смутак
І сумненні,
Урыўкі зблытаныя дум.
Сястры старэйшай строгі вобраз,
Як грозны статуй, камянеў,
І позіркі
Ліхіх і добрых,—
Усе былі супроць мяне.

А я ж хацеў душой самотнай
Падняць цяжар сівых вякоў,
Усцерагчы ад самкі моднай
Яшчэ не грэшных юнакоў.

І вось яны панеслі радасць —
Чужынскай песні цвёрды дух,
Мае ж радкі прайшлі парадам,
Не закрануўшы іхніх душ.

І я,
Што браўся быць прарокам,
На палях важыў сэрцы іх,
Я сам лунаю дзесь далёка,
Сярод сваіх,
Сярод чужых.

Я сам іду за іхнім маршам,
Я сам люблю цябе,
Кармэн,
Я сам,
Да ног тваіх прыпаўшы,
Благаслаўляю Мерымэ.

Я сам з Бізэ паладзіў тайна,
Цалую вусны ўсіх актрыс,
Што з любасцю тварылі дбайна
Знаёмы вобраз з новых рыс.

Я сам сяброў сваіх па ўзросту
Вітаю ўсіх,
Сабраўшы ў круг,
Што прынялі Кармэн папросту:
Як дзеўчыну
І як сястру.

Я сам цяпер не разумею,
Дзе шлях прарока і папас,
Дзе лучацца натхнення змеі
І галасы вялікіх мас.

Я сам у вершах сваіх чую
Іронію калючых слоў,
Фальшывую,
Наскрозь чужую,
Якой дагэтуль не было.

І я крычу:
— Гучней, валторны!
Яшчэ не скончана ігра.
Чытай, актор!..

І ён пакорна
Чытаў апошнюю мараль.
— Ітак, за кароткі
сягонняшні вечар —
Ад самай
Ад першай
(на рынку)
сустрэчы
Да самых апошніх
фінальных настрояў —
Прайшло перад вамі
змаганне герояў.
І здэцца — не будзе
ніякіх дакораў,
Што быццам бы дрэнна
ігралі акторы,

Што часта ірваліся
струны ў аркестры,
Што мала стараўся
калега маэстра.
Усё,
мне здаецца,
было беззаганна,
Адно можа толькі
паўстане пытанне:
— Якую ж мараль
мы падносім паказам?
На гэта вы самі
шукайце адказу.
Вядома, няхай
не бярэ з вас
ніводзін
Трыманне герояў
за прыклад паводзін.
Але,
адшвырнуўшы
любоўныя сцэны,
Прымайце
людзей занядбаных
імкненні,
Іх гнеўны пратэст
супроць панскай сваволі,
Іх прагныя пошукі
лепшае долі.
Бярыце бадзёрую
іхнюю песню,
Што горда яны
у змаганні пранеслі,
Каб тыя акорды
магутнае сілы
Кранулі
і рэхам
адказ абудзілі
Інакшае песні
пра волю і шчасце,
Што ў нашых
у сэрцах
ніколі не згасне,
Бо гэтая песня
надзей і трывогі —

Ёсць песня вялікай, як свет,
перамогі.
Адгрымелі музыкі акордамі,
Рагатала над роспаччу радасць,
І пайшлі
Непадкупныя й гордыя
Гукі марша далёкай Гранады.

Я стаяў пад галёркай высокаю,
Нежывым апалосканы смехам,
І прайшла праз мяне сінявокая,
А за крокамі гналася рэха.
Гаслі зоры над цьмянымі люстрамі,
Абязлюдзела душная зала.
Я спытаў пасінелымі вуснамі,
І дзяўчына здалёк адказала:
— Я вяла цябе тымі дарогамі,
Дзе краса ланцугамі закута.
Ты адрокся развагамі строгімі
І сябе асудзіў на пакуты.
І сябе перадаў на пасмешышча,
Баязлівец,
Рыторык
І здраднік!
Хай цяпер твае ворагі цешацца,
Урачыстую правячы радасць.
Не ўдалося табе павесіцца,
Зачапіўшы за рог вяроўку,
На халодным высокім месяцы —
Паспрабуй, калі хочаш, ізноўку.
Можа дзіва такое станецца,
Што ад гэтых вар'яцкіх хаўтураў
Закалышацца, захістаецца
Высачэзная вежа культуры.
Але ж нехта на свеце валодае
Невымоўнае дужасці словам,
Ад каторага ляжа калодаю
Беларускае песні аснова.
Ад каторага даўняя спадчына
Стане зноўку труізнаю вострай...
Гэта слёзы пальюцца матчыны,
Гэта рогатам зойдуцца сёстры.
Гэта будуць паліць пачуццямі
Вас,

Халодных і цвёрдых,
Як камень,
Што сваімі прамовамі гучнымі
Разлучылі мяне з вякамі.

Так закончыла краля важная
І пайшла,
Развітаўшыся суха,
Недаступная,
Толькі прадажная,
Маладая,
Куслівая сука.
Але дробнай,
Смяртэльнай дрыготкаю
Скалануліся круглыя плечы,
Калі слова,
Як крык, кароткае,
Перакрэсліла шлях
да сустрэчы.

Я сказаў ёй:
— Раскаешся, блудніца,
Станеш зноў пацяшацца блудам,
Бо на стоптаных мінскіх вуліцах
Я ніколі вісець не буду.
І хаўтуры мае дачасныя
Не развеюць твайго спалоху:
Дні шчаслівыя,
Дні няшчасныя
Заклікаюць мяне ў дарогу.
Я прайду незлічоныя тысячы
Кіламетраў
Праз прорвы і гаці,
І ніякая гібель не высеча
На чале ракавой пячаці.
Бо мае маладыя равеснікі —
Я пазнаў —
Не скупыя на сэрцы,
І яны завалодаюць песнямі,
Недаступнымі нават і смерці.

І па цёмных,
Спустошаных вуліцах
Я шукаў таго новага слова,

Ад каторага вежы сутуляцца
І губляюць сваю аснову,
Ад каторага цені мінулага
У смяртэльных звіваюцца звівах,
Ад каторага родзяцца чулыя
Гамы песень жывых і праўдзівых.

Але вуліцы спалі зацятыя,
Не хацелі майго сяброўства,
І самотны вярнуўся дахаты я
У пакой невялікі і просты.

Нахапіўся звычайны дзень,
Даўжыню і шырыні абняўшы,
І ў ягонай у ціплай хадзе
Зноў пачуліся крокі нашы.

І, напэўна, ніхто не згадаў
Учарашняга дзікага палу,
Бо рытмічна звінела хада
І на роздум хвілін не хапала.

Але ж нехта, аднак, з-за акна,
Адхіліўшы навотлю фіранку,
Цікаваў за падзеямі дня
Аж да ночы ад самага ранку.

Непакоіла думка, відаць,
Што, падняўшы чужую уцеху,
Не падолеюць людзі падняць
План заводаў сваіх і цэхаў.

Вельмі смешная сувязь разваг,
Але ж быў гэты выпадак прыкры,
І пара мне героя назваць,
Каб не зблытаў імён нашых крытык.

Час пакласці між намі мяжу —
І пяро прытупела і тэма,
Я сумленна цяпер раскажу
Пра героя вось гэтай паэмы.

Ён радзіўся на свет апаўдні —
Безыменны паэт і рамантык,

Калі хаты гарэлі ў агні,
Раз'язджалі апрычнікаў банды,

Выракалі прысуд грамадзе,
Заклікалі на край непагоду,
Залівалі крывёю мяцеж
Непакорнага пятага году.

Хлапчуком ён ганяў чараду,
А падлеткам —
Хадзіў за сахою,
І натоўпы лятункаў і дум
Захапілі юнацтва героя.

Каб пазбыцца самоты на міг,
Думка песень праўдзівых шукала,
І яму адгукнуліся з кніг
Перуновыя словы Купалы.

Так з'явіўся на свет —
Непаклікань
І непрызнаны —
Малады безыменны паэт,
Да вушэй у красу закаханы.

Ён шукаў незвычайнай красы,
Ад каторай дужэюць калекі,
Ад каторай палі і лясы
Б'юць паклоны да ног чалавеку.

Ён ад свету сябе адлучыў,
Ён адрокся ад скарбаў культуры
І з халодным спакоем сачыў,
Як душа апранаецца ў скуру.

Потым скальпелем скуру здымаў,
Станавіўся у ролю прарока,
І аднойчы прыйшла праз туман
Невыразная здань сінявокай.

Яна клікала некуды ўдаль,
Цалавала у вусны паэта,
Абяцала ўладарства аддаць
Над мінулым і будучым светам.

Перад гэтым,
Ласкавы чытач,
Мы якраз і спаткалі героя,
Перайшлі з ім праз прорвы няўдач
І праз чорныя тхлані настрояў.

Ашалёстаны смехам людскім,
Ён пракляў сінявокую суку
І пайшоў адзінокі,
Ні з кім
Не заручаны цвёрдай зарукай.

Мы дахаты яго правялі
І назаўтра яшчэ цікавалі,
Калі дзень узышоў на зямлі
І на роздум хвілін не хапала,

Калі сумны герой з-за акна,
Адхіліўшы навотлю фіранку,
Цікаваў за падзеямі дня
Аж да ночы ад самага ранку.

Непакоіла думка, відаць,
Што, падняўшы чужую уцеху,
Не падолеюць людзі падняць
План заводаў сваіх і цэхаў.

Але гэты ліхі неспакой
Нечакана развеяла стрэча,
Што якраз адбылася у той
Веснавы кармазынавы вечар,

Калі воддаль,
За стромкай гарой
Маладзік узыходзіў крамяны...
Хай пра гэта раскажа герой —
Безыменны паэт і рамантык.

Спакайней жа,
Мае чытачы,
Нахіліце дадолу галовы:
Я ўжо чую —
Ідзе з далячынь
Пакаяннае шчырае слова.

Казалі мне калісьці ўсе
(Не верыў я,
Нашто хавацца):
—Ёсць сіла, роўная красе,
Багатшая за ўсе багацці.

Я толькі сёння распазнаў
Глыбокі сэнс звычайных ісцін...
Прыйшла,
Як позняя вясна,
І зашумелі дрэвы лісцем.

Я недаверліва спаткаў
Яе мужчынскі,
Цвёрды поступ.
Але кранулася рука
Маіх плячэй
Ласкава й проста.

І дзеўчына сказала мне
(Сястра вядомай сінявокай):
— Засумаваў, хлапчук, па мне,
А я хадзіла ў свет далёка.

Як шмат цікавых ёсць краін!
Але шчаслівай я не стрэла.
Ты вопратку маю крані —
Яна ад пылу пасівела.

Як дым, ён сцелецца густы
Ад разбурэння
І ад смерці...
І чым жа не здаволен ты,
Канструктар чалавечых сэрцаў?

Калі рэспубліка твая
Ідзе непераможным крокам;
Калі высока,
Як маяк,
Становяцца над хатай кроквы;

Калі навокала цябе
Гудзе няспынная работа;
Калі і вецер наш цяпер
Прапах наскрозь вясной і потам;

Калі і твой цвілы пакой
Напоен пахам смольнай хвоі,—
Змяні свой вузенькі настрой
На шырыню людскіх настрояў.

Вазьмі, жывы,
Сабе жывых,
Адлушч нягодную палову,
І загудзе ў людской крыві
Тваё абноўленае слова.

І водгуллем пальецца спеў
На шырачэзныя прасторы,
І будуць песні тваё спець,
Як маладыя нашы зоры.

— Чакай! —
Спыніў дзяўчыну я:
— Мяне ж гісторыя патурыць,
Калі паэзія мая
Не здолее вякоў культуры.

А хто мне выкрасіць красу
На крэмені чужых настрояў?
Самотную душу нясу
І ўсю на песні перакрою.

— Самота душ —
Мана суздром:
Ёсць пульс жыцця
І рытмы смерці.
Паводле іх пульсуе кроў
І лучацца людскія сэрцы.

Таму,
Хто першы пульс нясе,
Няма чаго жыцця хавацца:
Ёсць сіла,
Роўная красе,
Багатшая за ўсе багацці.

Глядзі,
Зняверлівы паэт,—
Акно дзяўчына адчыняе,—

Яны стары руйнуюць свет
І новы свет красы ствараюць! —

Над плошчай узнімаўся гмах,
Упарта працавалі цеслі,
І кожны іхні крок і ўзмах
Напоўнен быў маўклівай песняй.

Нарэшце
Нехта не сцярпеў,
Адбіўшы такт двума нагамі,
Ён выбраў словы
І запеў
Дзівацкую якуюсь гаму.

Яна расла, і сотні рук
Яе паднялі і панеслі,
Пасля рассыпалі на брук
Кавалкамі жывое песні.

І над галовамі людзей і стрэх
Цягнуўся альт,
Грымеў басіла,
Каціўся дыскантовы смех,
І ў сценах ракатала сіла.

Я сілу гэтую адчуў,
Як незнаёмую прыгожасць,
І я сказаў:
— Я сам хачу
Сысці з крывога раздарожжа.

Я сам пазнаў,
Што не Кармэн
Гарачым абсыпала прыскам
Сухое дрэва панскіх сцэн,
А гэта ты, мая актрыса.

Узяўшы песню даўніх дзён,
Сягонняшнім агнём гарэла.
І ты не ведаеш імён,
Але з табой мільёны пелі.

І ты не знаеш іх вачэй,
Але яны цябе віталі —

Над светам голас твой гучэў
Грамамі бур,
Агню
І сталі.

Вядзі ж у гэты свет цяпер
Мяне ад вузкага пакою.
Няхай жыццё мой сціплы верш
Густымі сокамі напоіць,

Няхай у стройным тканні жыл
Жывая кроў людзей заб'ецца,—
Тады ён толькі будзе жыць
І хвалявацъ людскія сэрцы.

Я змоўк...
І на маім вяку
Упершыню маўчала вусціш.
Дзяўчына сціснула руку,
Пацалавала ціха вусны.

Такі шаблонны быў канец
Гісторыі і Кармэнсіты —
Жывая дзеўчына мяне
Прывабіла вачэй блакітам.

Але шчэ ў песнях прапяюць,
Яшчэ у музыцы уславяць,
Якімі сродкамі
Маю
Нягодную ламалі славу.

Якімі горнамі цяпла
Мой голас
І мае настроі
На мужны гартавалі лад
Уласныя мае героі,

Героі фабрык і садоў,
Высозных гор,
Марэй вялізных,
Героі сёл і гарадоў —
Будаўнікі сацыялізму.

*1933 г.*

## ПЕСНІ МІНУЛАЙ ВАЙНЫ

Краіна наша вызнала прыгон:
Пад бізуном чужое поле жалі,
І над прасторамі лунаў праклён,
У песнях шмат было тугі і жалю.

Краіна наша вынесла прыгнёт:
У крук згінала праца на заводах,
Па цесных вуліцах,
Скрывіўшы рот,
Хадзіла песня,
Поўная самоты.

Але ніякія пакутлівыя дні
Не ведалі цяжэйшых песень,
Як песні гэтай жудаснай вайны,
Што коцяцца над полем і над лесам.

Прыслухайся:
Сабраўшыся на ноч
Каля разбуранай сялянскай хаты,
Забыўшыся на весялосць даўно,
Спяваюць бежанцы й салдаты.

Х о р  с а л д а т

Не журыся горна маці,
Нам не цяжка ваяваці:
За цара заўжды гатовы
Палажыць свае галовы.

Як ударым мы з гарматы —
Аж дрыжаць гнілыя хаты,
Як прасушым добра порах,—
Быццам ліст, кладзецца вораг.

А калі мы ў бойках згінем —
Гасудар нас не акіне:
Два крыжы —
Адзін сасновы,
А другі з жалеза скован,
На істужцы
На куртатай
Будуць нам за храбрасць платай.

Пад сасновым пахаваюць,
А жалезны,
Дарагая,
Перашлюць табе з чужыны
У далёкую краіну,
Каб ты знала, маці, тое,
Што загінуў сын героем.

З а п я в а л а
б е ж а н с к а г а  х о р у

Што ты цешыш матку, сыне,
Усё роўна ўсе загінем...

Х о р  б е ж а н ц а ў

На сваіх старых парогах,
На шырокіх
На дарогах,
У далёкіх
У выгнаннях
Будзе наша пахаванне:
Ходзіць смерць,
Вайна над светам,
І няма нідзе прасвету.

З а п я в а л а

Пухнем з голаду і зморы,
Выганяе з хаты вораг...

Х о р  б е ж а н ц а ў

Ад сваіх старых парогаў
На чужыя
На дарогі,
На жабрацтва,
На пакуты
Гоняць нас,
Няволяй скутых.
Ходзіць смерць,
Вайна над светам,
І няма нідзе прасвету!

З а п я в а л а
т р э ц я г а  х о р у

Ёсць ратунак,
Толькі слухай,
Прылажы дадолу вуха...

Трэці хор

Пракляні вайну багатых,
Што руйнуюць вашы хаты,
Ад старых,
Гнілых парогаў
Выганяюць на дарогі,
У далёкія выгнанні,
На пакуты,
На блуканні.
Пракляні іх трыжды-трэйчы,
Каб ніколі не сустрэцца!

Запявала

Пракляніце іх, салдаты!

Хор салдат

Праклінаюць іх салдаты!

Запявала

Пракляніце іх, сяляне!

Хор бежанцаў

Праклінаюць іх сяляне!

Запявала

Пракляніце трыжды-трэйчы!

Хор бежанцаў і салдат

Праклінаем трыжды-трэйчы:
Няхай іх развее вецер,
Каб не мерлі нашы дзеці,
Не ганялі нас па свеце!

Запявала трэцяга хору

Мы цяпер дадзім вам песню,
Каб яе вы іншым неслі,
Каб яна грымела маршам,
Гуртавала сілы нашы,
Руйнавала здзек і гора...
Запявайце ж, хлопцы, хорам!

Трэці хор

Спапялелі лясы і сялібы,
Зараслі палынамі палі.

Выганяюць народ на пагібель,
Вецер кроўю прапах на зямлі.

Ходзіць голад і холад над краем,
На франтах паміраюць сыны.
І за што ж ты нас, доля, караеш
Найцяжэйшаю карай вайны?!

Нашай працаю жывяцца трутні,
Пухнуць пальцы натруджаных рук...
Пад гарматамі й газам атрутным
Нам даюць адпачынак ад мук.

А на трупах гуляюць шахраі,
Багацеі растуць і паны.
Дык за што ж ты нас, доля, караеш
Найцяжэйшаю карай вайны?!

Хіба мала прасторы на свеце,
Што прытулку нідзе нам няма?
Мы не хочам,
Каб нашыя дзеці
Валачылі шчамлёткі ярма!

Свет шырокі без меры
і краю,
Хопіць поля і нетраў лясных...
Не дазволім,
Каб доля карала
Найцяжэйшаю карай вайны!

Нашы цвёрдыя рукі не схібяць:
Супраць панства
І супраць усіх,
Што пагналі народ на пагібель,
Мы павернем вінтоўку і штых.

Блізка час найвялікшага штурму:
Гнеў народны грамамі гудзе,
Праз акопы,
Астрогі
І турмы
Рэвалюцыя наша ідзе.

Будуць лістам галовы іх слацца,
Бо не знойдуць патолі паны.
Мы здабудзем рэспубліку працы
На франтах грамадзянскай вайны.

Х о р  б е ж а н ц а ў  і  с а л д а т

Мы здабудзем рэспубліку працы
На франтах грамадзянскай вайны!

*1933 г.*

## ДВАЦЦАТЫ ГОД

Быў векапомны
        двaццаты год...
Краіна Саветаў
        канчала франты.
Правёўшы вялікі
        і слаўны паход,
Чырвонае войска
        вярталася ў тыл.
І раптам сігнал
        на трывогу падняў:
— Сядай, пралетарый,
        ізноў на каня,
У рукі вінтоўку
        бяры, селянін,
Выходзьце краіну
        сваю бараніць
Ад новай навалы,
        ад польскага пана,
Што чыніць расправу
        над людам забраным.

З фабрык,
            заводаў
                    выходзяць мільёны,
Строяцца
            моўчкі
                    ў густыя калоны,
І маткі старыя
            і сёстры —
                    ізноў
Ласкава
            праводзяць
                    братоў і сыноў:
      — У добрую часіну,
Шчаслівы табе шлях...
Глядзі ж, мой любы сыне,
Не забывай сяла.
Я стану, мой каханы,
Чакаць цябе дамоў,—
Як скрышыце вы пана
І панскае ярмо.

На гэты ласкавы
і просты наказ
Чырвонаармейцы
даюць свой адказ:

— За нашую волю...
— За нашую працу...
— За нашу зямлю...
— І за нашае права —
Мы будзем да скону,
Да смерці змагацца
І згінем адважна,
І згінем са славай.

І после,
праз холад і ноч ідучы,
Яны запяваюць
звычайную песню,
І маршам грамовым
над лесам гучыць
Пра вочы каханай
журботная песня:

«Не журыся горненька
І не плач,
Што са мною, любая,
Не была.

Каб былі шчаслівыя
Нашы дні,—
Я пайшоў рэспубліку
Бараніць.

І не будуць ворагі
Панаваць,
Покуль з плеч не скоціцца
Галава.

А калі і суджана
Мне не жыць —
Не журыся горненька,
Не тужы.

Словам добрым,
ласкавым
Памяні
І выходзь рэспубліку
Бараніць».

Праз горы,
праз нетры,
праз поле і лес
Кладзецца
Чырвонае Арміі
след.
А там,
аж за Віслай,
вісіць цішыня,
Арол над прасторамі
крыллі разняў.
І раптам
прасторы прарэзвае крык:
— За што ж цябе гоняць
На смерць гандляры?!
Паночку!
— Адстань!..—
Маладая салдатка
Схапіла за рукі
Ў бялёвых пальчатках:
— Паночку!..
Нам славы чужое не трэба,
Мы самі заробім
Кавалачак хлеба...
Куды ж вы пагналі яго,
Як бадзяку?
— Айчызне сягоння
Патрэбны ваякі,
А хлеба...
На гэта
Ёсць пан-бог над светам.

Паручнік прайшоў,
Адпіхнуўшы кабету,
А тая,
Прыпаўшы да чорнай зямлі,
Галосіць,
Што мужа на смерць павялі.

На плошчы ксяндзы
    і паны дэмакраты
Жалослівым словам
    частуюць салдатаў:

— Каханыя дзеці!
Каханыя дзеці!
У бой за айчызну
Адважна ідзеце.
За пана, за бога,
За нашую веру
Жыццё сваё мужна
Аддайце, жаўнеры!
І вас не акіне
Айчызна, панове,
За вашу адвагу,
За вашы галовы.

Сівы генерал
Прыпыняе малебен:
— Салдату
Жалослівы тон
Не патрэбен,
Вы цвёрдай рукой
Загартоўвайце дух...
Пастройце, палкоўнік,
Хутчэй чараду!

— Сказалі пастроіць...
Я слухаю пана.
Раў-нуй-ся!
Ану!
Запявайце,
            уланы!

І моўчкі салдаты
Галовы панеслі
Пад гукі чужыя
    Чужынскае песні:

«Стройся, ўланы, у калоны,
Пойдзем бацькаўшчыну броніць.
Гэй, гэй, уха-ха,
Пойдзем бацькаўшчыну броніць.

І каго не возьме куля —
Прыйдзе панам да матулі.
Гэй, гэй, уха-ха,
Прыйдзе панам да матулі.

А каторы ляжа крыжам —
На тым свеце бог запіша.
Гэй, гэй, уха-ха,
На тым свеце бог запіша».

Бадзёрыя уланчыкі
На бой ідуць,
А зморапых,
Спрацованых —
На смерць вядуць.

Ні фабрыкаў,
Ні фальваркаў
У іх няма,
Адно гарбы высокія
Ад панскага ярма.

І кожны з іх
Як парабак,
Ідзе ў страі.
Малюнак хаты беднае
Ўваччу стаіць.

Галодныя,
Бяздольныя
Іх дзеці там,
І маткі над калыскамі
Спяваюць так:

«Спі, мой сынку,
Спі, каханы,
Бацька ў войска твой забраны,
А за што яго пагналі —
Мне ні слова не сказалі.
Спі, мой сынку,
Спі, каханы.

Ні зямлі,
Ні гаспадаркі,

Апрача ярма на карку,
Мы не маем, любы сыне.
Дык за што ж у бойках гінуць
На далёкай
На чужыне?

Спі, расці,
Мой сын каханы,
Каб ты мог, як большым станеш,
Адплаціць панам праклятым
За пакуты твайго таты.
Спі, мой сынку,
Спі, каханы...»

Пад музыку плачу,
    праклёны і лямант,
Пад посвіст снарадаў
    і выбухі мін
Едуць малойчыкі,
    едуць уланы,
Белая армія
    валіць пад Мінск.

Насупраць, з усходу,
    пад гучныя маршы,
Каб вызваліць край
    з белапольскай жуды,
Лавамі стройнымі
    армія наша
Такжа кірунак
    трымае туды.

Зоры усходзяць
    і зоры заходзяць,
Трэйчы зямлю
    высцілае туман.
Толькі чырвоным байцам
    у паходзе
Ніколі ні сну,
    ні спачынку няма.

Вуха прыложыць
    да самага долу
І чуе камрот,
    як галосіць лаза, —

Гэта збіваюць
сялян за нядолю,
Катуюць матку,
што сын партызан.

— Ты, старая,
Сама бальшавічка!
І цябе прычакае
Асіна яшчэ...

І жанчына гаворыць
З пакорай прывычнай:
— За вяроўку хапайся
І вешай хутчэй...
Мы спазналі пакуты
Без меры і краю,
Але гэтак яшчэ
Аніхто не тужыў:
Цяжка мне,
Што я сілы не маю,
Каб сваімі рукамі
Цябе задушыць!

— Змоўкні, сцерва!
— Не гойкай, паночку,
Не пачуеш ні слова больш...

Бізунамі на йстужкі
Пасеклі сарочку,
А яна не сказала
Ні слова пра боль.

Гэты боль вырастаў
у людскую нянавісць,
Яго неслі начамі
ў лясы і бары
І чакалі хвіліны
праўдзівай расправы
І тачылі аб камень
свае тапары.

Праз балоты ішлі
да чырвонага стану,

Гартавалі упартасць,
як полымя — сталь,
І чакалі, што час
вызваленння настане,
І пагодлівы дзень
неўзабаве настаў.

Ад самае ночы
грымелі гарматы,
Стагнала зямля,
папялелі палі,
Жывыя і трупы
валіліся падам,
Пагінулі сотні,—
мільёны прайшлі.

Праз гэты агонь
навальніцы нялюдскай
Адзіная мэта
працоўных вяла:
Узняць над краінай
штандар рэвалюцыі,
Каб вольнаю праца
людская была.

Вось так,
на крывавых шляхах і дарогах,
Па вуліцах спаленых,
збітых нашчэнт,
Чырвоная Армія
сцяг перамогі
Прынесла, як сонца,
ў зруйнованы Мінск.

Краіна спраўляла
сваё вызваленне,
Агні залівалі
ваду і зямлю,
Героям, што згінулі
ў бойках праменных,
Байцы аддавалі
апошні салют:
— Таварышы нашы,
Браты і сябры!

Няхай вам спяваюць
Бары і вятры
Вялікую песню
Людскіх перамог —
Вы мужна загінулі
Ў слаўных баёх.
Клянёмся ж над вашай
Труною ваяк —
Узняць над сусветам
Камуны маяк.

— Наперад жа, хлопцы! —
        сказаў камандзір.—
Нас партыя кліча
        на фронт будаўніцтва,
Дык выйдзем жа дружна
        усе як адзін,
Як дружна ішлі
        ад паноў бараніцца.
Я веру, што нас
        ні маланка, ні гром
Не скрышыць ніколі
      ні ў якіх навалах.
Бярыце ж цвярдзейшы,
        таварышы, крок,
Бадзёрую песню
        давай, запявала! —
І скрозь —
        над прасторамі вуліц і ніў,
Па хатах,
      старэнькіх і цесных,—
Ішла,
        нараджоная ў віхры й агні,
Грымела
        магутная песня:
— Мы агнём і мячом здабывалі яе —
Маладую рэспубліку працы,
Аддавалі красу і жыццё за яе —
Маладую рэспубліку працы.

На руінах яна пачынае свой дзень —
Маладая рэспубліка працы,
Да камуны шляхі непакорна вядзе
Маладая рэспубліка працы.

І калі зноў ахопяць навалы агні
Маладую рэспубліку працы.
Як адзін мы паўстанем яе бараніць —
Маладую рэспубліку працы.

Дапаможа народы з няволі падняць
Маладая рэспубліка працы,
І на свеце шырокім паўстане адна
Маладая рэспубліка працы.

*1933 г.*

## АПОШНЯЯ СТРЭЧА

Час нашай стрэчы спавіты у дым,
І калі вызначыць дату ільга —
Сяброўства маё пачалося тады,
Калі пачалася мая туга.

Нам быў загад наступаць на Казань,
А мы наступалі на цёмную ноч,
Бо мы не маглі ўжо вярнуцца назад,
Хоць нашы палкі адступілі даўно.

Над намі ірваліся горы гранат,
Пад намі зямля ракатала, як гром,
Накрыж агнём частаваў супарат,
Самым пякучым на свеце агнём.

Кругамі маланкі ішлі уваччу,
Кроўю пясок жвіраваты прамок,
І нехта зняверлівы першы пачуў,
Як наш кулямёт захліпнуўся і змоўк.

Прайшла урачыстай хадою смерць,
Праняўшы дрыготнае цела наскрозь...
Я адчуваю яшчэ і цяпер,
Як здрадлівым пульсам забілася кроў.

Цемра на момант сплыла ўдалячынь,
Бязмежнасць прасторы мяне абняла.
Я стаў з цэлым светам адзін на адзін,
Без кроплі жывога людскога цяпла.

Тады й нахапілася тая туга,
З каторай шукаеш сяброўства сляды,
Каторую чуеш заўсёды наўгад,
З каторая хочацца быць маладым.

І мне стала дорага наша жыццё,
Бо нам даручыла рэспубліка скрозь —
Праз гора,
І радасць,
І карны касцёр —
Пранесці паходняй сваю маладосць.

Я рукі тады палажыў на пясок —
І сілай зямною наліўся мой пульс,
І жвір вокамгненна навылет прасох,
Заціхлі пявучыя посвісты куль.

Я поўз безупынна...
І раптам пачуў,
Як роспачна катуе некага смерць;
Я хутка намацаў ягоны плячук,
І чалавек зразумеў мой намер.

Аберучкі горача сціснуў руку,
У нас не было аніякіх прысяг:
Мы добра і так разумелі,
Адкуль
Прыходзіць ратунак
І дзе яго шлях.

І мы папаўзлі паміж трупаў далей,
Дзе стыў асірочаны наш кулямёт,
Я справа залёг,
А таварыш — лявей
(І гэта звязала на тысячы год).

Навобмацак ладзілі зрушаны шчыт,
На слых насцярожаны бралі прыцэл.
Ён стужкі падносіў,
Я градам крышыў,
Аж пальцы папухлі на правай руцэ.

Нарэшце адолю зайграў кулямёт,
Залпам яе падхапілі стралкі,
І вораг,
Прабіты агнём навылёт,
Падаўся назад
Цераз ноч і пяскі.

З гэтага бою нас выйшла няшмат,
І кожны сяброўствам сваім даражыў:
Таварыш далёкі —
Стаў блізкі, як брат,
І нам было добра і радасна жыць.

Такі быў пачатак сяброўства майго,
З каторым прайшоў я чатыры франты,

Мінуў,
Як гаворацъ,
Ваду і агонь
І вынес,
Як кажуць,
Пад сэрцам у тыл.

А тут і спаткала абодвух ваяк
Вялікая ростань
На некалькі год:
У горад вілася дарога мая,
У вёску імкнулася сцежка яго.

І так,
За шляхамі наўсцяж ідучы,
Між намі прастора лажылася зноў...
Усё ж не магла затапіць далячынь
Сяброўства былога на цёмнае дно.

Дармо,
Што даўно адступілі ў нябыт
Далёкай сустрэчы
Далёкія дні;
Дармо,
Што на новых франтах барацьбы
Ягоных вачэй пацямнелі агні;

Дармо,
Што на ўзмежках паштовых дарог
Лісты разміпуліся нашы навек,—
Я веруў:
Шляхамі маіх перамог
Са мною ідзе дарагі чалавек.

Я веруў:
У нашых здабытках усіх
Ёсць праца ягоных натруджаных рук,
Ёсць частка ягоных вялізманых сіл,
Каторыя паляць над краем зару.

І дні праміналі...
Я сам пастарэў,
Пад вязкаю год падаліся сябры.

І мне наяву захацелася стрэць
Таго,
Хто начамі са мной гаварыў.

І мы з ім сышліся за круглым сталом,
Не ведаю добра—
Каторага дня,
У зале тады засядаў правяркам:
Два строгія члены
І я — старшыня.

Прыкрыўшы павекі далоняй рукі,
Стаяў чалавек,
Незнаёмы,
Чужы...
Ён доўга казаў пра чыесці грахі
І плакаў,
Што цяжка змагацца і жыць.

Але ён ніколі не смеў наракаць
На чорнае гора,
На долю сваю.
Дармо,
Што заместа двух кварт малака
Яму толькі кварту чамусьці даюць.

Адгэтуль і родзіцца прыкры настрой,
Няхай небараку даруюць яго:
Ён мужна калісьці прайшоў, як герой,
Чатыры франты,
І ваду,
І агонь.

Так гаварыў нам чужы чалавек.
І раптам...
Я голас ягоны пазнаў,
Згадаў,
Што калісь па пясках,
На траве
Нас дружбай навек заручала вайна.

Забілася сэрца...
Ўзнімаючы пыл,
Прамчаліся коні,

Запелі дажджы,
І здрадлівы вецер руку падхапіў —
Падаць чалавеку,
Каторы чужы.

Я сілаю класа стрымаў гэты ўзмах,
Шпурнуў супроць ветру ударам пляча:
Я ўбачыў,
Што друга былога няма,
А здрадніку —
Нельга ніяк прабачаць.

Тады загарэлася ненавісць мас,
На тло спапяліла варожую кроў,
Судзіла за дружбу няверную нас,
Карала за здраду,
Паліла наскрозь.

Яна ад вачэй чалавечых ішла
І кладкі старыя тапіла нашчэнт,
Агністаю лавай між намі лягла,
І мне стала раптам святлей і лягчэй.

Дзве тысячы коса настромленых рук
Крычалі, сціскаючы пальцамі гнеў:
— Дазвольце мне слова!..
— Я слова бяру!.. —
Дзве тысячы рук падтрымалі мяне.

Тады я падняўся
І цвёрда сказаў:
— Я гэтага знаў чалавека даўно...
Нам быў загад наступаць на Казань,
А мы наступалі на цёмную ноч.

І мы з ім сапраўды
Чатыры франты
Прайшлі праз агонь,
І ніхто не прыстаў,
І мы з ім сапраўды
Былі як браты,
Аж покуль ён здраднікам нашым не стаў.

Што ж мне сказаць пра яго вам цяпер.
Вы знаеце добра і самі усё:

Нас заручыла калісьці смерць —
Нас разлучае сягоння жыццё.
Аб мёртвых адно успамін берагуць,—
І я не забуду мінулага век.
З мёртвымі дружбы людской не вядуць,
Ідзі ж ты ад нас,
Нежывы чалавек!

Так наша стрэча спавіта у дым,
І калі вызначыць дату ільга,—
Сяброўства маё затанула тады,
Калі затанула мая туга.

*1933 г.*

## КАРА

*Памяці т. Рэдыкі, забітага
агентамі польскай дэфензівы
па дарозе ў мястэчка Влохі.*

Біце ў далоні,
ігрaйце ў літаўры,
Спраўляйце банкеты
сваім героям,
Нясіце вянкі ім,
зялёныя лаўры,
Золатам вышыйце
іхнія строі,
Смейцеся
і весяліцеся, каты!
Вы не пачуеце
нашых праклёнаў:
У нас надзвычайна
вялікая страта,
І слова паэта
належыць мільёнам.
Няхай яно скажа,
як жыў і загінуў,
Як з ворагам біўся
таварыш Рэдыка,
І простая мова
маіх успамінаў
Пракоціцца клічам
да справы вялікай.
Нявольнікі працы
адплацяць паўстаннем
За раннюю старасць,
за слёзы маленства.
Так вырасце кара
і, грозная, стане
Найлепшым адказам
на ваша шаленства.
Дарога ідзе на захад.
Цяжкі асядае пыл.
Суровыя дрэвы
Узмахам
Сваіх шырачэзных крыл
Трымаюць нязменна варту

Над гэтым вячорным сном.
Адно чалавек упарта
Спяшаецца недзе праз ноч.

Кашлатага ценю лапы
Паўзуць на пярэймы з нізін,
Кладуцца панура абапал
Глыбокіх, як дол, каляін.

Куды ж ты ідзеш,
Таварыш?
Вярніся,
Далёкі друг!
Дабрацца табе да Варшавы
Не хопіць
Ні ног, ні рук.
Тых ног,
Што на кожнай грэблі
Пакінулі босы след,
Тых рук,
Што дубовую мэблю
Рабілі на цэлы свет.
Вярніся!..
Вялікая стома,
Цяжар не маленькі твой:
Яшчэ у маленстве дома
Цябе нагрузілі бядой.

Каб з голаду сёстры не мерлі,
Каб хлеба скарынкі былі,—
На фабрыку гнутае мэблі
Цябе хлапчуком адвялі.

Ты гнуўся над працаю крукам,
Гады аднастайна ішлі,
Твае аслабелыя рукі
Раз'елі нашчэнт мазалі.

Крывавым аблiўшыся потам,
Ты ў стоме на дол прыпадаў,
А катаржны вынік работы
Заўжды спажываў гаспадар.

«За чэрствы кавалак хлеба,
За шклянку халоднай вады —

Хіба ж чалавеку трэба
Гэтулькі зносіць бяды?»

Праклятае гэта пытанне
Таміла цябе не раз.
Праўдзіваю мовай паўстання
Табе адказаў твой клас.

І ты,
Калі быў над Млавай
Падняты чырвоны сцяг,
Пайшоў ваяваць за права
На роўную долю жыцця.

Крутыя парогі рэўкома,
Чырвонае Арміі шлях,
Узмежкі дарог незнаёмых
Твая маладосць прайшла.

Аб тым,
Як далёкі пошчак,
Жывуць успаміны адны,
Бо зноў над прасторамі Польшчы
Пайшлі паднявольныя дні.

Бо зноў на заводах Варшавы,
На роўных пазнанскіх палях,
На вуліцах роднае Млавы
Бізун і прымус загуляў.

У глыб баявога падполля
Адходзіць атрад змагароў,
І ты,
Малады камсамолец,
Вядзеш сваіх юных сяброў.

І ты,
Сакратар камсамола,
Чатыры вясны і зімы
Праходзіш суровую школу
У сценах варшаўскай турмы.

Вось так у змаганні нязменна
Ты рос змагаром з хлапчука,

І з важным цяпер даручэннем
Ідзеш ад самога ЦК.

Відаць,
Што сягоння дзесьці
У цёмных закутках хат
Чакаюць цябе
І дзейсных
Наказаў тваіх і парад.

Чакаюць узрыўных,
Як міны,
Тваіх бальшавіцкіх слоў...
І ты,
Мой таварыш,
Няспынна
Мінаеш сяло за сялом.

Я знаю —
Ніякая сіла
Не верне цябе назад.
Прайдзі ж над глыбокай магілай,
Як вецер — над строем прысад,
Як віхар праходзіць над морам,
Як птушкі ідуць над вадой,
Як рэкі абходзяць горы —
Міні свой смяротны дол.

Напэўна, праведаў вораг,
Згадаў па тваёй хадзе,
Ў які ты імкнешся горад,
Якою дарогай ідзеш,
Якія агні паўстання
Нявольнікам працы нясеш.

І вось ля мястэчка Влохі
Рыхтуюць табе засад.
Спяшайся!
Стаміліся ногі?
Наважыў вярнуцца назад?

Цяпер раздумлёўваць пачасе
І позна гадаць цяпер.
Няхай наша сіла класа
Праз смерць правядзе цябе.

Імкніся!
Яшчэ два крокі,
І ты перашкоду мінеш...
Чаму ж гэта цень твой высокі
Пайшоў танцаваць у цямне?

Ты падаеш ніцма, дружа.
А стрэл, як шалёны, завыў.
І вось...
Паміж чорных лужын —
Лужынка свежай крыві.

Далоняй у пыл урастае
Жывая яшчэ рука,
І карай грыміць,
Вырастае
Смерць вернага члена ЦК.
І вочы яго з дакорам
Апошні агонь нясуць,
І вусны нямыя гавораць,
І мы выракаем прысуд:

Біце ў далоні,
ігрыйце ў літаўры,
Спраўляйце банкеты
сваім героям,
Нясіце вянкі ім,
зялёныя лаўры,
Золатам вышыйце
іхнія строі,
Смейцеся
і весяліцеся, каты!
Вы не пачуеце
нашых праклёнаў,
Мы іншую вам
падрыхтуем расплату
За нашы пакуты,
за гора мільёнаў.
Вы бандай драпежнай
жыццё рабавалі
У тых, што мазольнаю
працай спрадвеку
І потам і кроўю
яго гадавалі.

Як самы вялікасны
дар чалавеку.
Мы гэта прыпомнім!
Ярмо ваша скінем,
Абломім ваш тоўсты
раскромлены карак,
Мы пройдзем па ўсіх
паднявольных краінах
Суроваю
і справядліваю карай.

*1933 г.*

## ПЕСНІ ПРЫГОНУ

### 1. Жніўная

Зайшло сонейка за горы,
На зямлю апалі росы,
Запаліла ночка зоры,
Месяц глянуў на пакосы,
Затужыў над цёмным борам,
І пасыпаліся слёзы...

Гэта плача вінавата
Наша скрыўджаная доля,
Што не маем мы ні хаты,
Ні худобы і ні поля,
Толькі плечы крыюць латы,
Толькі сэрцы ныюць болем.

Мы над панскаю палосай
Цэлы дзень стаялі крукам,
Пагарэлі нашы косы,
Забалелі нашы рукі,
Па дарогах вецер носіць
Нашу песню, нашу скруху...

Мы хвіліны не спачылі,
Усё чысценька пажалі,
Усё ў копы панасілі...
Толькі крыўды, толькі жалю,
Толькі струджанае сілы
У снапы не павязалі...

Хай узнімецца пад зоры,
Хай дажджамі праліецца,
Забушуе чорным морам
І паводкай разліецца,—
Можа змые наша гора,
Можа панства захлынецца.

### 2. Палюбоўная

Высока зоры ружавеюць,
Лятуць буслы пад Шляхам Млечным,
З лагчыны цёплы вецер вее,

Над пожняй ціхі летні вечар...
Ідуць ад панскай нівы жнеі,
Баляць іх стомленыя плечы.

Гэй, сустрэнь, любы,
Прыгарні, любы,
Мяне, маладую,
Бо ніхто ж мяне,
Адзінокае,
Не шкадуе.

Мы так стаміліся на полі,
Да ночы жалі ад світання,
Пачуй жа мой знябыты голас
І выйдзі, любы, на спатканне,
Я раскажу табе пра долю,
Пра наша горкае каханне.

Дык сустрэнь, любы,
Прыгарні, любы,
Мяне, маладую,
Бо ніхто ж мяне,
Адзінокае,
Не шкадуе.

Няхай бы цёмная магіла
Паноў праклятых пахавала,
Няхай бы паню смерць забіла,
Як цяжка нас яна скарала:
Навек з табою разлучыла
І не страчацца наказала.

А ты стрэнь, любы,
Прыгарні, любы,
Мяне, маладую,
Бо ніхто ж мяне,
Адзінокае,
Не шкадуе.

Усё ад нас з табой забрана:
І сэнс жыцця і радасць смерці,
І толькі думка, мой каханы,
Свабодна да цябе імкнецца:
Няма яшчэ такіх кайданаў,
Каб закаваць людское сэрца.

Дык сустрэнь, любы,
Прыгарні, любы,
Мяне, маладую,
Бо ніхто ж мяне,
Адзінокае,
Не шкадуе.

### 3. Песня французскіх жакаў

Не шумі ты, вецер,
    У лістах вярбы,
Дай паслухаць сыну
    Гэту песню-быль...

Як у замку пышным
    Баляваў барон,
Прыязджалі госці
    З чатырох старон,
Сенешалы гналі
    На прыгон сялян,
Рабавалі хаты,
    Неслі госцям дань.

Не шумі ж ты, вецер,
    У лістах вярбы,
Дай паслухаць сыну
    Гэту песню-быль...

Як не сцерпеў здзеку
    Смелы Жак Прастак,
З плеч кашулі зрэбнай
    Не аддаў жабрак,

Як спалілі Жака
    За такі «злачын»,
Сіратой застаўся
    Невялікі сын.

Не шумі ж ты, вецер,
    У лістах вярбы,
Дай паслухаць сыну
    Гэту песню-быль...

Як у працы цяжкай
    Вырастаў, дужэў,

Распаляў пажарам
Супроць пана гнеў,
Заклікаў сялянства
У бары-лясы,
Падымаў паўстанне
Смелы Жакаў сын.

Не шумі ж ты, вецер,
У лістах вярбы,
Дай паслухаць сыну
Гэту песню-быль...

Як паўсталі жакі
На паноў вайной,
Як ішлі са зброяй
Дужай грамадой,
Як палілі замак
З чатырох старон,
Як навек загінуў
Ліхадзей барон.

Не шумі ты, вецер,
У лістах вярбы,
Дай запомніць сыну
Гэту песню-быль.

*1934 г.*

# МУЖНАСЦЬ

**Паэма**

Падымі мяне,
Мужнасць класа,
Над галовамі паўшых ніц,
Праўдзі над імклівым часам,
Над палётам планет і зарніц!

Дай звычайнаму слову дужасць,
Каб шумела яно,
Як пажар!
Ты ж спыніла калісьці,
Мужнасць,
Загаіла найбольшы жаль.

Роўным крокам тады з узгоркаў
Зледзянелая ноч ішла.
Чалавек пад Масквой у Горках
Скончыў свой непаўторны шлях.

І калі над зімовым усходам
Праразаецца воблік дня,—
Па крутых і суровых усходах
Адплывае наніз труна.

На прастор вырываецца скруха,
Асірочаны кінуўшы дом,
І ад болю знямелыя рукі
Апускаюць труну на дол.

Ападаюць сняжынкі на вусны,
На высокі адкрыты лоб...
Баявыя таварышы й вучні
Закрываюць астанкі шклом.

І празрыстае тонкае века
З ледзяного халоднага шкла
Адлучае ад нас чалавека,
Што прайшоў непаўторны шлях.

* * *

Белая дарога,
Векавая глуш,
Сосны снегавыя
Сцежку сцерагуць.

Селянін пануры
На крывых санях
Ельнікам зялёным
Высцілае шлях.

На глухі паўстанак
(Пяць далёкіх вёрст)
Будзе слацца ельнік
Лапкамі напрост.

Гэтаю дарогай,
Дзе галосіць сум,
Ленінцы палямі
Леніна нясуць.

Над шырокай Волгай
Хлапчуком ён рос,
Паднявольным людзям
Сваю праўду нёс.

Ён паўстаў над светам
Навальнічных хмар,
Як жывы і грозны
Агнявы штандар.

Выгадаваў класу
Партыю ў баях,
На прастор шырокі
Паказаў нам шлях.

І рабоў калоній,
Фабрык і палёў
На цара,
На пана
Ваяваць павёў.

З-пад ярма краіну
Вызваліў маю
І з рэспублік вольных
Утварыў Саюз.

Ён душу і сэрца
Палажыў у грунт,
Каб над светам здзеку
Вырас свет Камун,

Каб прастор Расіі —
Гэта глуш і шыр
Гаманілі,
Пелі
Голасам машын.

А цяпер палямі,
Цераз гэту ж глуш,
Дзе сухія дрэвы
Сцежку сцерагуць,

Дзе рыдае скруха,
Дзе галосіць сум —
Ленінцы маўкліва
Леніна нясуць.

Ані слоў,
Ні песень,
Толькі стогне крок...
Ад вялікай крыўды
Ледзянее кроў:

Той,
Каторы вечна
Працаваў і жыў,
Каб змяніць краіну
Рускае глушы,—

Па глухой дарозе,
Цераз стэп і лес
Пракладае ў горад
Свой апошні след!

Ашукала смерць нас,
Насмяяўся лёс...

На абмёрзлых вейках
Стынуць зоры слёз.

На глухім паўстанку
Журацца агні,
У жалобных сцягах
Рушыцца цягнік.

* * *

Белым снегам усыпаны плошчы,
Белым снегам укрыты сады.
Золкі вецер штандары палошча,
Замятае на бруку сляды.

Мы ідзём —
І падзёншчык,
І токар,
І шахцёр,
І марак,
І гарбар,
І студэнт,
Малады і высокі,
І пануры сівы качагар.

Мы ідзём —
У палапленых світках,
У шынелях,
Падраных з вайны,
У падшытых вятрамі намітках —
Мы ідзём да ягонай труны.

Дом Саюзаў,
Калонная зала.
Чорным крэпам спавіта труна.
Мы прыйшлі...
І наўсцяж зарыдала
Насцярожаная цішыня.

І ніколі не знойдзеш ні ў якіх
Летапісных аналах пяра,
Каб народ гэтак горка плакаў
Над магілаю правадыра.

Нашы сэрцы наўзрыд галасілі,
Нашы вочы заслала імгла...
Чалавечага плачу сіла
Горы змыць векавыя магла.

Але вырасла мужнасць класа,
Падняла нас ізноў на бой:
Над палётам планет,
Над часам,
Над праклятай суровай зімой.

Над снягамі,
Над горам,
Над жалем,
Над законамі смерці й жыцця
Вучні Леніна клятву давалі,
Узнімаючы ленінскі сцяг:

— Мы людзі адменнага складу —
Сыны векавой барацьбы.
Нам дадзена права і радасць
У ленінскіх шэрагах быць.
Заўсёды ж —
У маршах паходных,
У жорсткіх баях,
У агні —
Высока партыйную годнасць
Павінен трымаць камуніст.

Так гаварыў нам Ленін,
Навек пакідаючы нас.
Клянёмся,
Таварыш Ленін,
Што мы ажыццёвім наказ.

— Цямнейшай за цёмныя ночы
Працоўнага доля была,
Адна толькі ўлада рабочых
Сапраўдную волю дала.
І покуль не скончыцца бура
Да самых бяскласавых дзён,
Гартуйце цвярдзей дыктатуру —
Рабочага класа закон.

Так гаварыў нам Ленін,
Навек пакідаючы нас.
Клянёмся,
Таварыш Ленін,
Што мы ажыццёвім наказ.

— Нам рочылі гібель,
Магілу...
Супроць азвярэлых банд
Мы рушылі дружную сілу —
Сяброўства рабочых,
Сялян.
І зараз
На ўзораных нівах,
На фабрыках,
Стаўшых у строй,
Саюз гэты трэба рупліва
Расціць пралетарскай рукой.

Так гаварыў нам Ленін,
Навек пакідаючы нас.
Клянёмся,
Таварыш Ленін,
Што мы ажыццёвім наказ.

— У час незабыўных паходаў,
Гуртуючы нашы палкі,
Жалезная дружба народаў
Высока ўзнімала штыкі.
Ад Новай Зямлі да Паміра,
Да самых далёкіх юрт
Упарта ж разгортвайце шырай
Савецкіх Рэспублік Саюз.

Так гаварыў нам Ленін,
Навек пакідаючы нас.
Клянёмся,
Таварыш Ленін,
Што мы ажыццёвім наказ.

— Вось так у змаганні напружным
Мы свой здабывалі спакой —
Саюзам,

Братэрствам
І дружбай,
Чырвонаармейскай рукой.
Але неадступна,
Штодзённа
Рыхтуецца новы налёт.
Мацуйце ж сваю абарону —
Чырвоную армію й флот.

Так гаварыў нам Ленін,
Навек пакідаючы нас.
Клянёмся,
Таварыш Ленін,
Што мы ажыццёвім наказ.

— На бой за вялікія мэты
Ўзнімаецца Захад і Ўсход,
Усе пралетарыі свету
Ідуць у рашучы паход.
І вось,
Каб дарогаю вернай
Мільёны працоўных пайшлі,
Змыкайце рады Камінтэрна
На ўсіх паралелях зямлі.

Так гаварыў нам Ленін,
Навек пакідаючы нас.
Клянёмся,
Таварыш Ленін,
Што мы ажыццёвім наказ.

На кожнае слова прысягі
Мы цвёрды давалі зарок:
— Ніколі пад ленінскім сцягам
Ад мэт не адступім на крок!

І мы сваё цяжкае гора
Панеслі маўкліва без слёз.
На снежных шырокіх прасторах
Хадзіла зіма і мароз.

Але нашых плеч не сагнулі
Ні замець,
Ні снег,
Ні скавыш,—

Гайдаліся рэчышчы вуліц,
Высокія вежы Масквы.

Пад маршы,
Пад гром барабанаў,
На стромкіх шырокіх плячах
На самы апошні прыстанак
Мы неслі труну Ільіча.

І вось наступіла часіна,
Адна з найцяжэйшых часін,
І сэрца бязмежнай краіны
Замерла на пяць хвілін.

У роспачы сціснуўшы зубы,
Мы чулі,
Як стогнуць гудкі,
Як горна рыдаюць трубы,
Як ціха стаяць палкі,
Як страшна равуць сірэны,
Як віхрам імчыцца зямля,
Як стынуць нямыя сцены,
Высокія сцены Крамля,
Як гулка цяжкія гарматы
Апошні салют аддаюць,
Як плача над страшнай утратай
Савецкіх Рэспублік Саюз.

Чырвона-жалобныя сцягі
Схіліліся ў горы наніз.
І словы нядаўнай прысягі
Ізноў прагулі ў цішыні.

Мы цвёрда ў калоны пасталі,
Нас мужнасць ізноў узняла,
Бо партыя наша і ў жалі
І ў горы з народам была.

* * *

Мінаюць гады за гадамі,
Суровай эпохі гады.
Наперад крутымі шляхамі
Вядзе яна нашы рады.

І гэтай нязменнай дарогай —
Праверыць здабыткі свае,
Адзначыць свае перамогі
Прыходзіць Семнаццаты з'езд.

Ізноў наступае часіна,
Схіляемся ўсе,
Як адзін.
І сэрца бязмежнай краіны
На пяць замірае хвілін.

Нібы па сігналу трывогі,
За радам становіцца рад
І слухаюць
Мужны і строгі
Партыйны наказ і загад:

— Устань,
Саюз сясцёр-рэспублік,
Шарэнгамі,
Раўней струны,
Міні рады маскоўскіх вуліц,
Прайдзі каля яго труны.
Ударная брыгада класа,
Рабочым свету дай адказ:
Ці здзейсніла,
Як ты клялася,
Вялікі ленінскі наказ?
Ці стала слова
Словам справы,
Узлётам дум,
Геройствам дзей?
Ці ляжа гонар,
Наша слава
Вянком на строгі Маўзалей?

На ўсіх шырынях земнай кулі
Маўчаць станкі,
Гудуць гудкі,—
З усіх трыбун усіх рэспублік
Даюць адказ бальшавікі:
— Мы кляліся:
Трымаць высока
Сцяг,

Асвечаны яснай зарой.
Кожным рухам сваім і крокам,
Кожнай думкай сцвярджалі зарок.
І ніхто не пакажа справы,
Ад якой адступіў бальшавік:
Як геройства,
Як гонар,
Як славу,
Мы праносім штандар баявы.
Апалосканы дымам і кроўю
На франтах грамадзянскай вайны,
Ён узвіўся над нашай будоўляй,
Самай стромкай дасяг вышыні.
Ён лунае ў міжзорнай сіні,
Дзе шумяць стратасферы вятры,
Ён, як сэрца жывое краіны,
На паўночных ільдзінах гарыць.

— Мы кляліся:
Адзінства партыі,
Быццам вока сваё, берагчы.
Процьма хіжых галоў упарта
Падымалася з брудных лагчын.
Мы грамілі іх —
«Левых» і правых,
Адсякалі няшчадна з пляча,
Каб аматары чорнае справы
Не скрывілі дарог Ільіча,
Каб ніколі,
Ні ў якіх варунках
Не крануў нашых сіл разлад.
Так у жорсткіх баях за Камуну
Непарушная еднасць расла.
І наперад, у светлыя далі
Павядзе яна нас праз гады.
Як кавалак адменнае сталі,
Загартованы нашы рады.

— Мы кляліся:
Адважна змагацца,
Пасці трупамі,
Стаць на касцёр,
Каб жыццё дыктатуры працы
Бараніла рэспублік жыццё.

Ад нацдэмаўскіх збродных шаек,
З буржуазнага чорнага дна
Выпаўзала,
Ішла глухая,
Наступала на нас вайна.
Кожны хутар,
Абнесены садам,
Па дарозе да нашых мэт —
Гэта дваццаць чатыры засады
На адзін усяго кіламетр.
Безліч іх,
Што хацелі краіну
І ўладарства над намі займець!
Берагла нас нястомная пільнасць,
Дыктатуры навостраны меч.

— Мы кляліся:
Расціць рупліва
Пралетарска-сялянскі саюз.
І сягоння на ўзораных нівах
Аглядаем работу сваю.
Па калгасных палях
(Аж рэха
Векавыя калыша бары)
Ходзяць нашы найлепшыя шэфы —
Сталінградскія трактары.
За іх следам шуміць пшаніца,
Канюшына шалее,
Аўсы,
Аж на дол прыпадаюць ніцма
Пад цяжарам зярнят каласы.
Лапушацца сады...
Увечар
Яркнуць вуліцы ў песнях дзяўчат.
Так мяняецца лёс чалавечы
Ля сялянскіх абноўленых хат.

— Мы кляліся:
Ад гор Паміра
І да самых далёкіх юрт
Мацаваць і разгортваць шырай
Пралетарскіх рэспублік саюз.
Мы выконвалі нашу прысягу
Дзень і ноч над работай сваёй:

Кожны край надзялілі пасагам —
Гарадамі,
Садамі,
Зямлёй.
Ад усходніх граніц да заходніх,
Праз увесь велізарны абшар,
Б'юцца роўна,
Упэўнена,
Згодна
Сэрцы нашых заводаў і шахт.
Больш няма занядбалых ускраін,
Дзе зацішак і лямант стаяў,
Дзе няшчадна каралі і кралі,—
Скрозь квітнее радзіма мая.

— Мы кляліся:
І мора,
І сушу,
І вышыні аблок бараніць,
І ніколі ніхто не парушыць
Умацаваных нашых граніц.
Хай паслухаюць летам уранку,
Як спяваюць прасторы зямлі —
Гэта ходзяць жалезныя танкі,
Баявыя плывуць караблі,
Самалёты ідуць,
Аж вецер
Прыгінае галовы лясоў...
Наймацнейшая армія ў свеце
Беражэ нашу працу і сон.
І калі, азвярэўшы, падымуць
Ліхадзеі на нас нажы —
Будзем мы за сваю радзіму
Ваяваць на прасторах чужых.

— Мы кляліся:
Сумленна і мужна
Нашу працу і сілы аддаць,
Каб расла пралетарская дружнасць
Па ўсіх сёлах,
Па ўсіх гарадах.
І мы прагна ішлі да мэты:
Дзень і ноч,

У любую пару
Будавалі краіну Саветаў,
Не шкадуючы стомленых рук.
Яна сонцам сягоння свеціць,
Як маяк, над сусветам гарыць...
З цёмных турам нявольнага свету
Прыязджаюць да нас змагары.
Мы прымаем іх ветла і проста,
Згуртаваныя ўсе, як адзін.
І расце баявое сяброўства
Між працоўнымі розных краін.

— Мы кляліся...
І кожнае слова —
На вадзе,
На агні,
На зямлі,
На вышынях,
На стромкіх будовах —
Ператворана ў сацыялізм.

Грыміць адказ з мільённых вуснаў,
Шарэнгамі,
Раўней струны,
Парадным маршам
Крокам мужным
Праходзім мы каля труны.

Мінаем час няшчаднай смерці,
Смуткуем зноў аб ім усе,
І кожны з нас глыбока ў сэрцы
Часцінку Леніна нясе.

Ягоны смех,
Яго вясёласць
Гарыць на тварах акцябрат,
Жыве ў рабоце камсамола,
У песнях маладых дзяўчат.

Ягоных спраў размах вялізны,
Яго нянавісць і любоў
Нясуць будаўнікі сацыялізму —
Героі фабрык і палёў.

Яго упартасць,
Волю,
Мудрасць,
Што абняла прастор і час,
Яго вялікасную мужнасць
Нясе увесь рабочы клас.

Яна згаіла нашы раны,
Пякучы патушыла боль,
Яна ішла заўсёды з намі,
Вяла і павядзе у бой.

І мы ніколі не прыстанем
Ні ў цяжкай працы,
Ні ў хадзе,
Бо нас у працы і змаганні
Наперад партыя вядзе.

Бо з намі кожнае імгненне
Шырокім шляхам баявым
Вялікі і магутны Ленін
Сярод жывых
Ідзе жывы.

*1934 г.*

# У ТЫЯ ДНІ

**Паэма**

У тыя дні, мае сябры,
Крывёй гарэла неба,
У тыя дні былі жадны
Скарынцы чэрствай хлеба.

У тыя дні, мае сябры,
Цямнелі грозна далі,
У тыя дні жалезным сном
Пад сцюжай засыналі.

У тыя дні, мае сябры,
Мы вельмі мала мелі:
Вінтоўку, шаблю, кулямёт
І шэрыя шынелі.

Мінуліся, мае сябры,
Падзеі жорсткай явы,
Але застаўся успамін
І песні мужнай славы.

Сягоння я, мае сябры,
Да краю імі повен...
Паслухайце ж пра тыя дні
Суровую аповесць.

## I

Вайна...
Адзінокія фабрыкі тужаць.
Апусцелі палі —
Ні касцоў, ні аратых...
Па загаду цара
Ўсіх здаровых і дужых,
Ад малых да старых,
Паздавалі ў салдаты.

Не пачуеш ні смеху,
Ні песень вясёлых,
Толькі — стогны і плач,

Толькі — слёзы і лямант.
Гарады — у трывозе,
Калоцяцца сёлы,
Дні і ночы
Гарматы гудуць над палямі.

Па старых,
Зруйнаваных вайною гасцінцах
Цягнуць бежанцы бедны,
Убогі пажытак.
У падраных шынелях
Ідуць пехацінцы,
Кавалерыя топча
Высокае жыта.

Цішыня, цішыня!..
Нават гром кананады
Не развее тугі
З амярцвелага сэрца:
Ні адзення, ні хлеба,
Ні слова спагады...
З набалелай душы
Крык на вусны ірвецца:

— Эх, каб сілы былі
Ды каб дружна паўсталі!..
Толькі, мусіць, ніколі
Такога не будзе:
З родных месц
Ільіча на чужыну загналі,
У выгнаннях, у турмах
Найлепшыя людзі.

Але голас,
Узняты над лямантам бойні,
І адтуль урываецца
Ў рокаты бою,
Заклікае закончыць
Нялюдскія войны
Поўным мірам людскім —
Грамадзянскай вайною.

Кліч ідзе на заводы,
Трапляе ў акопы

І, памножаны сілаю
Зброі і працы,
Навальніцай грыміць:
— Нацярпеліся! Хопіць!
— Мір хацінам,
Вайна апантаным палацам!

Вее з Балтыкі
Лютаўскі вецер халодны.
Петраград — у агні,
У завеях суровых —
Пачынае шумець.
Сотні тысяч галодных
Узнімаюць, як сцяг,
Два агністыя словы:

— Мір і хлеб! —
Поўніць вуліцы
Крык Петраграда.
Забастоўкі растуць,
Спавяшчаюць змаганне.
І надзейных салдат
І рабочых атрады
У зімовую ноч
Падымаюць паўстанне.

Дружным націскам
Царскія збіты аковы,
Але новыя ладзяць
Народу кайданы:
У Часовым урадзе —
Паны мілюковы,
У Саветах рабочых —
Прадажныя даны.

Не для гэтага мерлі
Таварышы нашы,
Не для гэтага бура
Імперыю трэсла,
Каб змяніць рэвалюцыю
Мірненькім маршам
Ад прастола цара
Да прэм'ерскага крэсла!

II

Вясна ішла шырокім крокам,
Але не цешыла вясна,—
Лілася кроў густым патокам,
І не канчалася вайна.

— Зямлі! — крычалі грозна вёскі,
Прасіла іхніх рук зямля.
Міністры пасылалі войска
Душыць абураных сялян.

— Даволі! — хмурыя салдаты
Складалі шаблі і штыкі.
А трапяткія адвакаты
Збіралі новыя палкі.

Крывёй, а не вясковым сокам
Скрозь налівалася зямля.
Але ішлі «Лісты здалёку»
І асвятлялі цёмны шлях.

У кожным ракатала сіла,
Гатовая зламаць граніт.
Яе нядарам паланілі
Глухімі кратамі граніц.

Не заняволяць толькі сэрца,
Яно з народам прагне жыць
І ў родную краіну рвецца
Цераз граніцы й рубяжы.

Бо хіба ж выкажаш у словах
Усе шляхі да перамог?!
І Ленін кожны дзень нанова
Шукае сцежак і дарог

Туды,
туды...
Дзе супраць здрады
Мільёны рушаць у паход,
Дзе на крывавых барыкадах
Змагаецца яго народ.

Радзіма!
Доўгімі начамі
Ты снілася ў кароткіх снах
З тваімі ціхімі палямі,
З маркотным шумам па лясах,

З тваім народам працавітым,
Гатовым на рашучы бой,
Каб імператары-бандыты
Не панавалі над табой.

Ты блізка, родная!..
Вагоны
Прайшлі слупоў гранічных рад.
Салдаты рускія гамоняць,
І Ленін слухае салдат.

III

Паўсталі
Вякамі закутыя сілы,
Магутнаю хваляю
Змылі цара
І рушаць па ціхіх
Прасторах Расіі
У вобразе Леніна —
Правадыра...

Палацы і замкі
Трасе ліхаманка,
Князі і магнаты
Ад злосці дрыжаць:
Цяпер не паверыць народ
Абяцанкам,
Не будзе пакорны
Цярпець і стагнаць.

Не будзе калецць
У сцюдзёных акопах,
Не будзе вякамі
На катарзе гніць...
І вось — засвісталі
Майстры на паклёпы
І прагнуць
Імя Ільіча ачарніць,

Хто сам бессаромпа
Рабуе і крадзе.
Імперскай ахранкі
Служылыя псы —
Імкнуцца чарніць,
Вінаваціць у здрадзе
Таго, хто душою
Чысцей ад расы.

Таго, чыё сэрца
Гадамі балела
За долю краіны,
За струджаны лёс,
Таго, хто заўсёды
Адважна і смела
Вялікую праўду
Прыгнечаным нёс.

Ні земным праклёнам,
Ні карай найвышняй
Ніхто не запляміць
Святое імя...
Насустрач любімаму Леніну
Выйшла
Уся неабдымная
Наша сям'я!

Паплечнікі, вучні,
Салдаты, матросы,
Чырвонае гвардыі
Першы атрад,
Увесь працавіты
Мільённагалосы,
Закураны дымам
Стары Петраград.

Фінляндскі вакзал
Баявыя калоны
З усіх чатырох
Замыкаюць старон.
Узрушаны Ленін
Выходзіць з вагона
І шпаркай хадою
Мінае перон.

Вось ён узышоў
На прыступкі вакзала,
Аркестры ударылі
Радасны марш.
І мора людское
Кругом задрыжала:
— Няхай жыве Ленін!
Ён з намі і наш!

Не сілаю рук,
А пачуццямі сэрца
Узнеслі яго
На круты бранявік.
Самкнулі шарэнгі
Чырвонагвардзейцы,
І Ленінскі заклік
Ад бурнай Нявы

Імчыцца па земных
Прасторах вялізных:
— Няхай для шчаслівых
І радасных мэт
Зара рэвалюцыі
Сацыялізма
Запаліць увесь
Заняволены свет.

Бяссмертную ісціну
Вызналі людзі,
І радасна пела
Гарачая кроў:
Вялікі змагар,
Правадыр рэвалюцыі
Заняў сваё месца
Ў радах змагароў.

IV

Слова маё!
Узнімайся высока,
Будзь загартаваным,
Цвёрдым, як сталь.
Вечна імкніся,
Наліўшыся сокам,

Чыстым, як гэта
Празрыстая даль!

Стань у рады,
Хоць ад самага краю,
Слоў гартаваных
У яркім агні!..
Гонару большага —
Я не жадаю...
Помніш, у тыя
Вялікія дні:

Леніна слова —
Мільёны збірала,
Партыі слова —
На бітву вяло!
Вось яны коцяцца
Ўзрушаным валам
З горада ў горад,
З сяла у сяло.

Дом-асабняк
Балерыны Кшасінскай
Поўняць прыбоі
Жывых галасоў:
Куйбышаў, Стасава,
Фелікс Дзяржынскі,
Клім Варашылаў
і Якаў Свярдлоў...

З высылкі, з фронту,
З далёкіх ускраін
Дружна збіралася
Гвардыя мас.
Быў красавік.
Над разбураным краем
Бурна кацiўся
Ўстрывожаны час.

Кожны павет
Выбіраў дэлагатаў,
З цвёрдым наказам
Усіх пасылаў:

Выслухаць Леніна
Думкі-парады,
Вырашыць
Тысячы й тысячы спраў.

Дзесяць гадзін...
На высокай трыбуне
Стомлены Ленін
Чытае даклад:
— Наша задача —
Дзяржава-камуна,
Новы грамадскі
Парадак і лад.

Мір і братанне!..
Улада — Саветам,
Шахты — рабочым,
Сялянам — зямля,
Зброя — народу...
Да гэтае мэты
Нам рэвалюцыя
Выракла шлях.

І на змаганне
З Часовым урадам
Сілы збіраць
Заклікае Ільіч.
Цераз заставы
Вакол Петраграда
Скрозь над Расіяй
Ідзе гэты кліч.

Слова прынята
Маўклівым пажарам,
Толькі крані —
Запалае агонь.
Людзям заводаў,
Палёў і казарам
Сэрцам нясуць
Камуністы яго...

V

А тым часам так званы
Часовы урад,
Меншавіцкая сволач
І гады-эсэры
Замест хлеба і міру
Падносяць загад,
Выкрываючы планы
Свае і намеры:

— Рэвалюцыя скончана,
Годзе сядзець!
Пад гарматы айчына
Свабодная кліча.
Паміpайце дзесяткамі
Тысяч штодзень.
Мы яшчэ не дабіліся
Нашай здабычы.

Маршыруюць студэнты...
У радасным сне
Зіхацяць пад нагамі
Квадраты брусчаткі...
— Слава нашым міністрам!
— Вітанне вайне! —
Афіцэры і крамнікі
Плешчуць у ладкі:

— У акопы! На фронт,
Разняволены брат! —
Але іншыя спеюць
Настроі і думкі:
Шчыльна зубы сціскае
Матрос і салдат,
Нецярплівай рукой
Папраўляюць падсумкі.

Разлятаецца дымам
Даверлівасць мас:
— Вы ж нядаўна за мір,
За спакой прысягалі,
А цяпер на франты
Выганяеце нас?!

Значыць, зноў прадалі?!
Значыць, зноў ашукалі?!

Ад палка да палка
Голас гневу ідзе:
— У калоны! На вуліцы!
Строем на плошчы! —
Дэманстрацыя вірам
Грымотным гудзе,
Над галовамі вецер
Плакаты палошча:

— Прэч прадажных міністраў!
— Даволі вайны!
— Мір краінам!
— Улада Саветам рабочых! —
Браніраваным мурам
Жалезнай сцяны
Экіпажы, палкі
І рабочыя крочаць.

Ад ускраін да Неўскага
Рушыцца вал.
Заціхаюць адразу ж
Калоны багатых.
І Ліцейны праспект,
За кварталам квартал,
Як чужыя акопы,
Займаюць салдаты.

Не, не будуць над намі
Купцы панаваць,
Не паложаць ярма
На гарбатыя шыі!
Дні і ночы кіпіць
Петраград і Масква,
Гарады, і мястэчкі,
І вёскі Расіі.

VI

Ледзянымі крыгамі
І марозам хваленым,
З цёплымі адлігамі,
З трапяткімі хвалямі,

Звонам рэчак песенных,
Бурнаю паводкаю
Адышло прадвесенне
І вясна кароткая.

Зацвіталі яблыні,
Белым цветам крыліся
І ніколі, зяблыя,
Сцюжам не карыліся.

Што ж цяпер пялёсткамі
Цёмны дол усыпалі
Пад дубамі жорсткімі,
Пад старымі ліпамі?!

Як відаць, нягодаю
Ваша доля чэрнена —
Душнаю пагодаю
Маладога чэрвеня.

Ён прыйшоў нясмелаю,
Ды хадою спорнаю;
Сталі ночы белыя,
А падзеі — чорныя.

Скліканы Саветамі
Першы з'езд збіраецца.
Здраднікі з кадэтамі
Пахаджаюць, раюцца...

Столь і сцены белыя
Курывам ахутаны.
Дні і ночы цэлыя
Засядаюць, гутараць.

Слухаюць рабочыя,
Засынаюць з прыкрасці...
Згоднікі ж таймуюцца,
Як уладу выкрасці.

На трыбуне трагікам
Цэрэтэлі курчыцца,
Соладка і прагненька
Цешыцца і мучыцца.

Тонкаю руладаю
Цягне, аж заходзіцца:
— Стаць цяпер уладаю —
Партыі не знойдзецца!..

Над крыклівай помпаю
Трагікаў і эпікаў
Выбухае бомбаю
Ленінская рэпліка:

— Ёсць такая партыя!..—
І крутой лавінаю
Цішыня упартая
У праходы рынула.

Як вулей развязаны,
Загулі, прачнуліся:
— Што за словы сказаны?
— І адкуль пачуліся?

VII

А ён, вялікі, і магутны,
І радасны, як светлы дзень,
Паходкай лёгкай і нячутнай
Ужо ў прэзідыум ідзе.

— Міністр сказаў нядаўна слова,
Што партыі няма цяпер,
Каторая была б гатова
Узяць уладу на сябе.

А я сцвярджаю — ёсць! Дачасна
Вы засмяяліся, міністр...
Шляхі да мэты сонцам ясным
Нам асвятляе камунізм.

І, як вясною па каменнях
Празрысты залаты ручай,
Гарачым і жывым струменем
Ліюцца словы Ільіча:

Як у акопах людзі гінуць,
Як хлусяць там меншавікі,

Як ніпічаць волю і краіну
Нажывы прагнай хіжакі.

Ні гучных фраз, ні спрытных жэстаў,
Але праўдзівых слоў цяжар,
Насычаных глыбокім зместам,
Гарыць у сэрцах, як пажар.

Заціхла зала. Вымер лямант.
Як вадаспад, імчыцца час.
Ужо канчаецца рэгламент
І завадатаі крычаць:

— Даволі!
— Час! —
Але, як бура,
Устрапянуўся злы пратэст,
Зляцелі воплескі віхурай
І зашумелі, быццам лес.

Салдатам і рабочым люба
Паслухаць словы Ільіча.
Кіраўнікі, заціяўшы зубы,
Прымушаны прадоўжыць час.

За сказам — сказ, за словам — слова
Ізноў вядзе расказ Ільіч.
І з слоў спакойных і суровых
Вырастае грымотны кліч:

— Мы не баімся ўзяць уладу:
Мы — партыя рабочых мас...—
І радавыя дэлегаты
Прымаюць ленінскі наказ.

VIII

Абурэнне расце.
Гневам стомленых мас
Дышуць вуліцы фабрык
І сцены казарм.
Толькі словам крані —
І навальна, не ў час
Аблюцца панелі
Крывёй і пажарам.

Нельга болей цярпець,
Нельга далей чакаць,
Покуль здраднікі рук
У крыві не спалошчуць.
І прымае наказ
Бальшавіцкі ЦК:
На дзесятае чэрвеня
Выйсці на плошчу.

Дэманстрацыя мірных
Рабочых калон
Ставіць лозунгам дня
Непарушную мэту:
Вызнаць волю працоўных,
Іх цвёрды закон —
Перадаць над краінай
Уладу Саветам.

Хай народнае волі
Гучаць галасы,
Хай пачуюць трывогу
Прадажныя душы.
І адразу ж кругом
Меншавіцкія псы
Навастрылі свой нюх,
Натапырылі вушы.

Чуюць, рушыцца
Іхні пагібельны лад.
І, каб толькі на хлебе
У пана застацца,
Слугі вынесці рады
Суровы загад:
Выступленне — спыніць,
Адмяніць дэманстрацыю.

Ды ніякія сілы
Не могуць стрымаць
Разлютаванай хвалі
Рабочых ускраін.
Ні дарог, ні ратунку,
Ні выйсця няма
Напалоханым лідэрам
Чорнае зграі.

Моляць бога яны
За Часовы урад,
Але слугі прыносяць
Нядобрыя весці,
І тады вырашаюць
Прызначыць парад
І пад згодніцкім сцягам
Калоны павесці.

Ашукаліся!..
Сонечны чэрвеньскі дзень
Іх надзеі не спраўдзіў.
На Марсавым Полі
Сотні тысяч галодных,
Пакутных людзей
Галасуюць за мір,
За Саветы і волю.

Бальшавіцкае слова,
І лозунг, і сцяг,
Нават поступ калоны
І крок — бальшавіцкі.
І дрыжыць напалоханы
Неўскі прасцяг
І Зімовы палац,
Шырачэзны і нізкі.

Праваліўся нашчэнт
Аб'яднаны паход
Верных служак цара
І французскіх банкіраў:
Узнімае гатовы
На бітвы народ
Супраць панскай вайны
Сцяг народнага міру.

Міністэрскія крэслы,
Як некалі трон,
Скалануліся дробна
Дрыготкаю частай.
І чыны з Петраграда
Імчацца на фронт —
Непакорную армію
Рушыць у наступ.

IX

Над фронтам ціш. Маўчаць гарматы,
Але ў вушах не моўкне гром...
У круг сабраўшыся, салдаты
Успамінаюць родны дом.

Якая ціш у іхняй хаце!
Якая скруха і туга!
Чыясьці згорбленая маці
Збірае шчаўе на лугах.

Чыясьці жонка-парабчанка,
Чужое поле аручы,
Спявае сыну калыханку
І горка плача пеючы.

Чыесьці скрыўджаныя дзеці
Ідуць па сёлах жабраваць...
Навошта ж гэты плач на свеце?!
За што ж пакутным ваяваць?!

Жыццём клянецца агітатар:
— Як выйграем апошні бой,
Вас павязуць усіх дахаты,
Надзеляць хлебам і зямлёй.

І, ашуканыя падманам,
Без кіраўнічае рукі,
Па недарэчных царскіх планах
У наступ рушылі палкі.

На мармуровых плітах высеч
Патрэбна б золата імён:
Іх шэсцьдзесят суровых тысяч
Загінула за дзесяць дзён.

Урал спраўляе перамогу,
Смяецца хіжы Мілюкоў:
— Віншую, панства! Дзякуй богу,
Паменшала бальшавікоў!

Дачасна цешыцеся, гады!..
Саюз рабочых і сялян

Змяце, як логавішча здрады,
Увесь часовы балаган.

Грымяць суровай эпапеяй
«Акопнай праўды» тыражы...
Нядарам медзь сваіх капеек,
Свае медалі і крыжы,

Свой крык, надзеямі сагрэты,
Душу маўклівую сваю —
Салдаты за жыццё газеты,
Як за радзіму, аддаюць.

X

Трывожныя весці
Трасуць Петраград:
На фронце — пагібель!
Над горадам — голад!
І трэцяга ліпеня
Сходы салдат
У першым палку
Падымаюць свой голас:

— Да зброі, таварышы! —
Грозна штыкі
Замерлі дазорам
На крыллях машыны.
З Кранштата на помач
Ідуць маракі,
З ускраін рабочыя
Рушаць лавіны.

— Спыніце сяброў,
Дэлегаты палка,
Яшчэ не пара
І не час для атакі:
Над намі пагрозаю —
Кара штыка,
Вас юнкеры знішчаць,
Раздушаць казакі.

— Не можа салдацкае
Сэрца цярпець! —

Дакорамі сыплюцца
Словы адказу:
— Як мае нас мучыць
Павольная смерць,
Дык лепей на бруку
Загінуць адразу.

Канчаецца ноч.
У бялёсай імгле
Абуджаных вуліц
Расце ажыўленне.
І Ленінскі штаб
Паўстае на чале,
Сваімі шляхамі
Вядзе выступленне.

Па слову ЦК
На мастах над Нявой
Атрады займаюць
Пасты абароны.
Спакойна і мірна
Суровай хадой
Пад ленінскім сцягам
Праходзяць калоны.

І раптам жалезны,
Распалены град
Бунтуе калоны,
Змятае і косіць...
Агнём кулямётным
Часовы урад
Вітае салдата,
Частуе матроса.

— Вы хочаце міру?
Вам трэба Савет?
Мы самі калісь
Ваявалі з арламі,
Але не да гэтых
Імкнуліся мэт —
Расіі патрэбны
Вайна і парламент!

Ізноў наступіла
І вымерла ноч,

А чорная зграя
Грыміць і скрыгоча.
Маўклівыя плошчы
І вуліцы зноў
Заліты свінцом
І крывёю рабочых.

Разбіты рэдакцыі
Нашых газет,
Палацы Кшасінскай
Займаюць казакі.
— На катаргу Леніна! —
Хрыпне кадэт,
І кожную сцежку
Віжуюць сабакі.

У ноч, у падполле
Ідзе правадыр,
У бедных хацінах
Шукае прыстанку.
І нюхаюць доўга
На бруку сляды
Халодныя ноздры
Сабак і ахранкі.

XI

Так на трыбунах Марсавага Поля
І па дварцах на берагах Нявы,
Сваёй камедыі сыграўшы ролі,
Міністры сталі ў строй гарадавых.

Але маны крывёю не спалошчуць:
Сляпая вера і цярплівасць мас
Расстраляны нашчэнт на мірных плошчах,
І ведае цяпер рабочы клас,

Куды ісці, за што і як змагацца,
Каму гаротнае жыццё аддаць,
Каб занядбаная спрадвеку праца
Магла жыццём краіны заўладаць.

Няясныя пачуцці і настроі
Гартуюць думкамі бальшавікі:

«Прыходзіць час узяцца ўсім за зброю,
Узняць над ворагам свае штыкі».

І сёлы разгінаюць стан пахілы,
Становяцца ў шарэнгу гарады,
І кожны дзень дужэюць нашы сілы,
Шырэюць бальшавіцкія рады.

Хто ж вернымі і простымі шляхамі
У грозны час на бітву павядзе?
Далёка дзесь за цёмнымі лясамі
Вялікі Ленін сустракае дзень.

За ім ахраннікі па следу шарць,
Шукаючы ахвяры для мяча.
І здраднікі спакойна вырашаюць
На суд ганьбы павесці Ільіча.

На чый жа суд? На суд ваеннай банды,
Нядаўніх слуг крывавага цара,
На люты суд банкірскіх ад'ютантаў,
Каторым трэба смерць правадыра.

Не, здраднікі і гандляры! Не выйдзе:
Ад вашых рук і ненавісці злой —
Дзяржынскі і Сярго Арджанікідзе
Яго заслоняць радасна сабой.

На варце Леніна мільёны сталі,
Запаленыя гнеўным пачуццём,
І кожны з нас, без смутку і без жалю,
Аддасць за Леніна сваё жыццё.

XII

Мінае лета. Першыя лісты,
Пакрытыя сухім налётам сонца,
Спадаюць з дрэва. Ціхія кусты
Палаюць залатым агнём чырвонца.

Начамі зябка. Лёгкае пальто
Падшыта ветрам і асенняй сцюжай.
Усё пазбудзецца, усё — нішто,
Абы змагчы бяду і гора здужаць.

Абы жыццё рабочых і сялян
Навек збыло ярмо капіталізму.
І Ленін у Разліве піша план —
Пралог рэспублікі сацыялізма.

Ён вернай партыі дае наказ:
— Бальшавікі павінны ўзяць уладу! —
І неўзабаве сам у грозны час
З'яўляецца на плошчах Петраграда.

Паўстанне блізіцца. Ужо ЦК
На вырашэнне дзень і план выносіць,
А ворагаў прадажная рука
Ахранкам шле на партыю даносы.

Спужаліся, штрэйкбрэхеры, вайны?!
Вам страшна, што народ на бітву крочыць?!
А дзе ж былі, калі ў крыві паны
Тапілі тысячы і тысячы рабочых?!

Праклён вам, здраднікі! Ў наш новы век
Не спыніце жыцця ганебнай здрадай!
Па слову Леніна працоўны чалавек
Не пабаіцца стаць на барыкады.

XIII

Горад вымер і згас.
Толькі свеціцца Смольны.
Штаб паўстання жыве
Небывалым жыццём.
Ані страху, ні болю
Ў вачах навакольных,
Нават смутак гарыць
Баявым пачуццём.

У пакоях ад дыму
Няма куды дзецца.
За акном пад нагамі
Грукочуць тарцы:
Адыходзяць атрады
Чырвонагвардзейцаў,
Прабягаюць разведчыкі
І пасланцы.

І на момант усё
Заціхае і гасне —
І гамонкі, і крокі,
І словы, і шум...
Ленін моўчкі стаіць.
У вачах яго ясных
Многа светлых надзей
І нядзейсненых дум.

Бачыць ён, як праз годы
Пакут і змагання
Новы век над зямлёю
Займаецца скрозь.
І яго апаноўвае
Зноў хваляванне:
— Што ж яны там маўчаць?
Што марудзяць?
І вось —
Першы залп за Няву
Пасылае «Аўрора».
Ды не хоча здавацца
Зімовы палац:
Кулямётным агнём
З залатых калідораў
Афіцэры бароняць
Пакінуты пляц.

Зноў ударыў з гармат
Браніраваны крэйсер,
Дробным шротам пасыпаўся
Белы карніз.
І міністры з высокіх
Наседжаных крэсел —
Недаступных вышынь —
Апаўзаюць наніз.

З Петрапаўлаўскай крэпасці
Б'юць кулямёты,
І чырвонагвардзейцы
Выходзяць на пляц,
Маракі і адборныя
Часці пяхоты
Дружным штурмам займаюць
Зімовы палац.

Ноч мінае.
Зара над краінай усходзіць.
Над жыццём гаспадарыць
Рабочы Савет.
Аб зямлі, аб сапраўднай
Народнай свабодзе
Мудры Ленін падпісвае
Першы дэкрэт.

XIV

Многа дзён я знаю урачыстых,
Непаўтораных ніколі і нідзе,
Ды няма на свеце больш вячыстых,
Як жывы Кастрычнікаўскі дзень.

Дні такія не забудуцца ніколі!..
У жыцці, на працы, у баю,
Паміраючы на ратным полі
За радзіму слаўную сваю,

Хто не ўспомніць гэтай светлай даты?
Хто не ўспомніць, як ішлі на бой
Верныя матросы і салдаты
І рабочыя дружынай баявой;

Як адважна моўчкі паміралі
На дварцовых плошчах і палях;
Як навек над Смольным падымалі
Апалосканы крывёю сцяг;

Як на шэрых лапленых шынелях
Неслі раненых сваіх сяброў;
Як ішлі па вуліцах і пелі
Песню новых легендарных слоў;

Як усюды на шырокім свеце
Тысячы рабочых і салдат
Плакалі ад радасці, як дзеці,
Абдымаліся, як з братам брат?

Слава вам, байцы суровай бітвы!
Слава вам, памёршым і жывым!

Ваша мужнасць намі не забыта,
Не забыт і шлях ваш баявы.

Вамі settled заваёваны Кастрычнік,
Вамі высака падняты сцяг —
Беражэ адважны пагранічнік
Кожнай кропляю свайго жыцця.

*1937 г.*

## ПАРТЫЗАНЫ

Перад захадам сонца
Ёсць хвіліна тугі...
Аднастайна бясконца
Шалясцяць сітнягі.

На асеннія пожні.
Завяршаючы дзень,
Ападае апошні
Надвячоркавы цень.

Потым лёгка па дрэвах,
Па шурпатай кары
Пройдуць справа налева
І замоўкнуць вятры.

Жоўты ліст,
                непрыкметна
Збіты імі з галін,
Доўга кружыць бязмэтна,
Ў цэлым свеце адзін.

Апусціўшы ад стомы
Нізка рукі на дол,
Тужыць лес нерухомы
Над магіламі сёл.

Моўчкі думае думу
Аб пакутлівых днях.
І ні шэпту, ні шуму —
Цішыня, цішня...

Ды такая нямая,
Што, калі не прывык,
Ты пачуеш над краем
Сэрца кожнага крык.

І здаецца, што грудзі
Здушыць чорны адчай,
І не ўздымуцца людзі,
І не ўстане мой край.

Раптам вырвуцца крокі
З нежывой цішыні,
Быццам дзесьці далёка
Едзе хтось на кані.

Клён нахіліцца к вязу,
Шэпнуць мовай галля
Штось другім... І адразу
Ажывае зямля.

На лясныя паляны
З цёмных нетраў і нор
Устаюць партызаны
І выходзяць на збор.

Ноч, густая, як сажа,
Зберажэ іх ад куль,
Не прадасць і не скажа,
Хто яны і адкуль.

Толькі мы, ды радзіма,
Ды балотны гушчар
Помнім кожнага імя,
Знаем многіх у твар.

Гэта — нашы суседзі:
З тым сумесна жылі,
З гэтым, помніцца, недзе
Нават чарку пілі...

Мы б пагутарыць рады,
Ды цяпер не пара:
Камандзіру брыгады
Час, як кажуць, [redacted] двара.

Дзед — таксама знаёмы,
Можа, нават радня —
Клапатліва, як дома,
Запрагае каня.

Хлопцы з першае роты,
З кім дружыў я і рос,
Два ручных кулямёты
Ставяць дзеду на воз.

Пажылыя мужчыны,
Угінаючы дол,
Носяць палкія міны,
Грузяць ярасны тол.

Маладая кабета
Правярае курок.
А наводдаль падлетак,
Селавы пастушок,

Пагарджаючы боязь,
Як бывалы салдат,
Затыкае за пояс
Пяць гарачых гранат.

Я не ведаю — порах
Ці нянавісць у іх,
Гэта зведае вораг
На галовах сваіх.

Помста добра паспела!
І, пачуўшы загад,
Рушыць дружна і смела
Партызанскі атрад.

На якімсь кіламетры
Ад лясной глухаты
Узляцяць у паветра
Цягнікі і масты.

Грымне ярасны выбух,
Як маланкавы гром,
Бразне ў кожную шыбу,
Страсяне кожны дом.

Бляск паўнеба асвеціць,
І, прачнуўшыся ўраз,
Скажуць шэпатам дзеці:
— Гэта бацька за нас.

Сцепануўшыся зябка,
Як таймуючы плач,
Перахрысціцца бабка:
— Дай ім, божа, удач!

Маці выйдзе ў вароты,
Доўга будзе лавіць
Роўны стук кулямёта,
Шэлест роснай травы.

После ў сінім сутонні,
На світальнай зары
Зікнуць людзі і коні
У лясным гушчары.

Ноч, густая, як сажа,
Зберажэ іх ад куль,
Не прадасць і не скажа,
Хто яны і адкуль.

Толькі мы, ды радзіма,
Ды балотны гушчар
Помнім кожнага імя,
Знаем многіх у твар.

*1942 г.*

## ПАСЛАНЕЦ

Па сцежках таемных, з ляска да ляска,
Ідзе ў Беларусь пасланец ад ЦК.

Заданне адказнае: спешна з Масквы
Даставіць атрадам наказ баявы.

За поясам — фінка, мяшок на плячах.
А ў полі мяцеліцы спяць на шляхах.

Кранешся іх дотыкам лёгкім нагі —
Завые вятрыска, закружыць снягі:

— Спяшай, чалавеча, да выбраных мэт,
Мы зараз засыплем, завеем твой след!

І вось — ані сцежак ужо, ні дарог...
А нельга зайсці да людзей на парог!

Абходзячы вабны над хатай дымок,
Ганец павяртае ізноў у лясок.

У лесе зацішна. Няблага б спачыць,
Ды важны наказ пад ватоўкай ляжыць.

І ноч навылёт чалавек не засне.
Ці дзяцел застукае дзе на сасне,

Ці шышка пакоціцца з елкі паніз,
Ці пройдзе, павольна ступаючы, ліс,

Ці заяц праскочыць па свежым сняжку,—
Не спіць пасланец, пасланец начыку.

Не гэтак уласнай шкада галавы,
Як шкода заветнага слова з Масквы,

Якое ганец пад ватоўкай нясе,
Якога так прагна чакаюць усе.

І, ледзь адпачыўшы, з ляска да ляска
Ідзе ў Беларусь пасланец ад ЦК.

Заданне адказнае: трэба [redacted] Масквы
Даставіць атрадам наказ баявы.

За поясам — фінка, мяшок на плячах...
Нямецкая варта стаіць на шляхах.

Благія шляхі, і няма ім канца,
Ды ў крыўду радзіма не дасць пасланца.

Кашлатыя пушчы даюць яму дом,
Ад сцюжы кусты ахінаюць крысом,

Мільёны на небе рассыпаных зор
Выводзяць з аблуды на чысты прастор,

А ў чыстых палях ад пагібельных воч
Яго прыкрывае завейная ноч.

І ён без спазнення, ў прызначаны час
Прыносіць з Масквы партызанам наказ.

Яго абступаюць, пытаюць навін.
Ён гутарыць з хлопцамі пару гадзін,

Гаворыць ім простыя словы: «Братва!
Трымайцеся, з вамі заўсёды Масква!»

І вестка ідзе ад байца да байца,
Яна абганяе свайго пасланца,

Яна падымае атрады на бой
І новыя сілы вядзе за сабой.

Аж неба ад выбухаў грозных гудзе,
І вораг не мае спакою нідзе.

Тым часам ізноў ад ляска да ляска
Ідзе пасланец з даручэннем ЦК.

Заданне адказнае: спешна з Масквы
Даставіць атрадам наказ баявы.

За поясам — фінка, мяшок на плячах...
Мяцеліцы белыя спяць на шляхах...

*1943 г.*

## АПОВЕСЦЬ ПРА КАНЯ

Дзесяцёх удоўж вуліцы гразкай
Сталі пільна пад кожным акном;
Чатырох у бліщчастых касках
Увайшлі асцярожна у дом.

Гаварылі спачатку спакойна:
— Нам вядома, што дзень пры дні
Хлеб і зброю у зараснік хвойны
Ты вазіў на сваім кані.

Там твой сын,— нам і гэта вядома,
Можа, хлопец і сам не рад.
Мы не помсцімся. Будзе дома.
Толькі выкажы, дзе атрад.

Горка ныла душа аб дзіцяці,
Але моўчкі стаяў стары.
Доўга білі яго ў хаце,
Потым білі яшчэ на двары.

— Запрагай і паедзеш з намі.
Трэба справу зрабіць да паўдня! —
Не сваімі — чужымі нагамі
Гаспадар падышоў да каня.

Што ён выказаць мог жывёле?
Прыгадаў яго спрытны бег
І прыпомніў, як хлопчык вясёлы
Часта ездзіў на ім на начлег.

А на лузе раса буйная,
Хоць па каліву падбірай.
Конь дарогі туды не пытае,
Толькі поўную волю дай.

«Што ж, мой быстры, ты будзеш вольны.
Выбірай куды хочаш шлях.
Па дарозе ж у зараснік хвойны
Заблудзіся ў знаёмых палях.

Калі ж ты, неразумны, чужынца
Павядзеш да патайных дарог,
Хай цябе на шырокім гасцінцы
Пакарае бязлітасны бог».

Конь пастукаў у дол капытамі,
Грывай веючы, рыжай, як медзь,
Неспакойна пастрыг вушамі,
Ды нічога не мог зразумець.

Пакасіўся чуток, што чужыя,
Прывязаўшы старога за плот,
Узлажылі хамут на шыю
І, запрогшы, пусцілі з варот.

Конь слухмяна пайшоў самапасам,
Не бывала, каб ён заблудзіў:
Хіба ж мала апошнім часам
Ён па гэтай дарозе хадзіў?

Неўзабаве, за грэбляй выбойнай,
Будзе там, дзе канчаецца гаць,
Паваротка у зараснік хвойны.
Вось і сосны на ўзлессі відаць.

Пах мурожны, густы і вострый,
Кружыць хмелем каню галаву.
Конь ідзе, раздзьмухаючы ноздры,
Час ад часу зрывае траву.

Пільна з хвоі высокай сочыць
За бяздомным канём хлапец.
Пацямнелі блакітныя вочы,
Сэрца ўпала, як грузны свінец.

Ён пазнаў іх, у шэрых мундзірах,
Хітраватых нямецкіх салдат.
Без дазволу свайго камандзіра
Зняў з пляча баявы аўтамат.

Я не знаю, куды ён цэліў,
Але хлопец быў добры стралок.
З дробным калівам сырадэлі
Конь зваліўся на цёплы пясок.

Недаўменна глядзела вока
Сінім позіркам нежывым:
Як у возеры тым глыбокім:
Абярнулася неба ў ім.

*1944 г.*

## ЗАУВАГІ

У другім томе змешчаны эпічныя творы Пятра Глебкі — паэмы і балады, у асноўным прысвечаныя гісторыка-рэвалюцыйнай тэме. Паэмы «Мужнасць» (1934) і «У тыя дні» (1937) — гэта дзве часткі задуманай паэтам трылогіі «Сцяг перамогі». Ліра-эпічная паэма «У тыя дні» з'яўляецца першай часткай трылогіі. Другая частка не была напісана. «Мужнасць» павінна была стаць трэцяй часткай трылогіі.

Веліч правадыра рэвалюцыі У. І. Леніна паказана і ў баладзе «Песні жалобы» (1928).

Песні жалобы (с. 5).

Упершыню —: «Звязда», 1928, № 23.

У дарогу (с. 9).

Упершыню —: У кн.: Хада падзей. Мн., 1932.

Крывавая нядзеля (с. 18).

Упершыню —: Звязда, 1929, № 16.

Дванаццаты з'езд КПБ (с. 24)

Упершыню —: Звязда, 1929, № 61.

XII з'езд КПБ адбыўся 5—16 лютага 1929 г. На ім былі зацверджаны кантрольныя лічбы Першага пяцігадовага плана развіцця народнай гаспадаркі і культуры БССР.

«Таварыш Гамарнік кароткай прамовай Дванаццаты з'езд КПБ адчыніў...» *Гамарнік Ян Барысавіч* (1894—1937) — савецкі партыйны і ваенны дзеяч. У 1928—1929 гг.— Першы сакратар ЦК КПБ.

Трывожны сігнал (с. 30)

Упершыню —: Узвышша, 1929, № 6, с. 3—12.

Трылогія аднае гісторыі (с. 44)

Упершыню —: У кн.: Чатыры вятры. Мн., 1935.

Хада падзей (с. 48)

Упершыню —: У кн.: Хада падзей. Мн., 1932.

Арка над акіянам (с. 59)

Упершыню —: Узвышша, 1930, № 1, с. 26—50; № 2, с. 21—46.

Паэма пачата 9.10.1929 г. Раздзел XXI «Плач Алісы» ў рукапісе датаваны 18.10.1929; раздзел XXIII «Суд» — 18.3.1931 г.

Рытмы (с. 130)

Упершыню —:У кн.: Чатыры вятры. Мн., 1935.

У рукапісе датаваны кожны раздзел твора: «Зімовы роздум» — 1930, «Перад навальніцай» — 29.6.1929, Мінск; «Агні паўстання» — 3.4.1930.

Арлянка (с. 132)

Упершыню —: Узвышша, 1931, № 2, с. 51—73; № 3, с. 65—72; № 5, с. 51—63; № 6—7, с. 65—70; № 10, с. 67—79; № 11—12, с. 48.

У рукапісе дата: чэрвень 1930 — кастрычнік 1931, г. Мінск.

Эма (с. 211)

Упершыню —: Беларусь калгасная, 1932, № 4, с. 48—53; № 5, с. 43—49.

Ноч у вайсковых лагерах (с. 225)

Упершыню —: Напагатове, № 1, с. 70—75.

Пра вясну і рэвалюцыю (с. 233)

Упершыню —: Полымя рэвалюцыі, 1933, № 1, с. 16—21.

Кармэнсіта (с. 239)

Упершыню —: Полымя рэвалюцыі, № 3, с. 43—46 (урывак з паэмы). Поўны тэкст —:у кн.: Чатыры вятры. Мн., 1935.

У другім адменніку рукапісу назва: «Кармэн. (Інтэрмедыі да оперы)». Пасля назвы — прысвячэнне: «Бэну Норду». Першая частка мае назву: «Папярэдняя даведка». Спачатку былі напісаны інтэрмедыі, пасля — паэма. Дата: 1932—1934.

*Бэн Норд* — рэжысёр Беларускага тэатра оперы і балета. У 1933 г. паставіў оперу Ж. Бізэ «Кармэн».

*Гітгарц, Ільля Аляксандравіч* (1893—1966) — беларускі савецкі дырыжор і педагог, у 1933—1936 і ў 1947—1951 гг. дырыжор Беларускага тэатра оперы і балета, пад яго музычным кіраўніцтвам пастаўлена опера Ж. Бізэ «Кармэн».

Песні мінулай вайны (с. 271)

Упершыню — : Атака, альманах 3. Мн., 1935, с. 71—75.

Дваццаты год (с. 276)

Упершыню —: Звязда, 1933, № 151.

Апошняя сустрэча (с. 286)

Упершыню —: Полымя рэвалюцыі, 1934, № 1, с. 69—73.

У рукапісе дата: кастрычнік — лістапад 1933.

Кара (с. 292)

Упершыню —: Полымя рэвалюцыі, 1934, № 3, с. 39—43. У публікацыі дата: 15.9.1933—30.1.1934.

Паэма прысвечана памяці члена ЦК Камуністычнай партыі Польшчы тав. Рэдыко, забітага агентамі дэфензівы па дарозе ў мястэчка Влохі.

Песні прыгону (с. 298)

Упершыню —:У кн.: Мужнасць. Мн., 1938, с.

Мужнасць (с. 302)

Упершыню —: Полымя рэвалюцыі, 1934, № 10, с. 46—56.

У рукапісе назва: «Мужнасць класа». Дата: 4.1.1934.

У тыя дні (с. 316)

Упершыню —: Літ. і мастацтва, 1937, № 58—59 (урывак); у кн.: Пад небам бацькаўшчыны. Мн., 1947, с. 309—336.

Партызаны (с. 341)

Упершыню —: Звязда, 1943, 12 чэрв.

У рукапісе дата: Масква. 7 сакавіка 1943 г.

Пасланец (с. 345)

Упершыню —: У кн.: Пад небам бацькаўшчыны. Мн., 1947, с. 280—281.

Аповесць пра каня (с. 347)

Упершыню —: У кн.: Пад небам бацькаўшчыны. Мн., 1947, с. 290—292.

ЗМЕСТ

## Балады і паэмы

**Глебка П.**

**Г 53** Збор твораў. У 4-х т. Т. 2. Балады. Паэмы.— Мн.: Маст. літ., 1985.— 351 с., 4 л. іл.

У пер.: 2 р. 40 к.

Другі том Збору твораў вядомага беларускага паэта Глебкі склалі балады і паэмы «Арка над акіянам», «Арлянка», «Эма», «Кармэнсіта», «Мужнасць», «У тыя дні» і інш.

Г $\frac{4702120200-088}{М 302(05)-85}$ 110—85 ББК 84Бел7 Бел2

Петр Федорович
ГЛЕБКА

*Собрание сочинений в 4-х томах*

Том 2

*Баллады, поэмы*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар Хв. Д. Жычка. Мастак Л. Я. Прагін. Мастацкія рэдактары Л. Я. Прагін, В. П. Жыжэнка. Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал. Карэктар Я. Ф. Харко.

ІБ № 1925

Здадзена ў набор 10.09.84. Падп. да друку 18.04.85. АТ 06686. Фармат 84×108$^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 18,48+0,42 укл. Ум. фарб.-адб. 21,00. Ул.-выд. арк. 18,68. Тыраж 5000 экз. Зак. 729. Цана 2 р. 40 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.